

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 21 (4719) 31 мая 2013 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 75-гадовым юбілеем заслужанага дзеяча культуры Беларусі Уладзіміра Карызну. «Сваім вялікім талентам і шматгадовай працай вы заслужылі прызнанне шматлікіх чытачоў. Песні на вашы вершы ўпрыгожваюць рэпертуар вядомых выканаўцаў і творчых калектываў краіны», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў Нацыянальны прэс-цэнтр Рэспублікі Беларусь з 20-годдзем дзейнасці. Як зазначыў Аляксандр Лукашэнка, за гэты час Нацыянальны прэс-цэнтр стаў адным з найважнейшых звёнаў у рэалізацыі дзяржаўнай інфармацыйнай палітыкі.

✔ Дзяржаўных узнагарод Беларусі ўдастоены дзеячы розных сфер. Ордэнам Францыска Скарыны адзначаны метадыст аддзела міжнароднай і сацыяльна-культурнай дзейнасці Інстытута культуры Беларусі Адам Мальдзіс. Артыст-вакаліст Маладзёжнага тэатра эстрады Вольга Вронская і дэкан філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Іван Роўда ўдастоены медаля Францыска Скарыны.

✔ Дзяржаўны сакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота на сумесным пасяджэнні калегіі Дзяржаўнага камітэта па навуцы і тэхналогіях, Міністэрства адукацыі Беларусі і Міністэрства адукацыі і навукі Расійскай Федэрацыі адзначыў, што з галоўнай задачай, якая стаяла на пачатковым этапе развіцця Саюзнай дзяржавы, — стварэннем умоў для паспяховага ўзаемадзеяння ў адукацыйнай і маладзёжнай палітыцы — краіны справіліся, цяпер неабходна прыняць рашэнні для рэалізацыі канкрэтных праектаў. Сярод планаў на 2013 — 2014 і наступныя гады Рыгор Рапота назваў стварэнне сумесных студатрадаў, ажыццяўленне некаторых цікавых ініцыятыў ВНУ.

✔ Міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў на гэтым тыдні бярэ ўдзел у II Сусветным форуме па міжкультурным дыялогу, які праходзіць у Баку (Азербайджан). У складзе дэлегацыі нашай краіны таксама генеральны дырэктар Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Уладзімір Грыдзюшка і генеральны дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі Аляксандр Гарбар.

✔ Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка сустрэўся з Архіепіскапам Парыжа, кардыналам Андрэ Арманам Вен-Труа і распавёў пра стасункі Беларусі і Францыі ў галіне культуры. Так, быў абмеркаваны праект па стварэнні копіі працы В. Ваньковіча, якая цяпер знаходзіцца ў саборы Сен-Северэн у Парыжы, каб пасля перадаць яе Дому-музею Ваньковічаў у Мінску.

✔ Вядомы празаік, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Міхаіл Галдзянкоў узнагароджаны спецыяльным дыпломам Фонду Віктара Астаф'ева. Гэтай адметнай узнагародай адзначаны яго гумарыстычны раман «Гуана жар-птушкі», першае выданне якога асобнай кніжкай было ажыццёўлена брэсцкім выдавецтвам «Акадэмія» ў 2004 годзе. У 2009 і 2013 гадах раман перавыдадзены ў Мінску.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ



# 1 чэрвеня — Міжнародны дзень абароны дзяцей



Фота Кастуся Дробава

Пісьменнік Уладзімір Мазго чытае з дзецьмі кнігу «Куды блінок закаціўся» з новай серыі «Казачны куфэрак» РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

## Пытанне да творцы

# Чаго не хапае беларускай дзіцячай літаратуры?



**Ягор Лёгкін, рэжысёр Тэатра юнага гледача:**

— Калі казаць менавіта пра драматургію, якая мне бліжэй, — тут сустракаюцца «памылкі». Бедны падзейны шэраг. Альбо нераскрыты фінал. Аднак, калі ў цэлым сюжэт рэжысёру падабаецца, ён здольны справіцца з такімі дробязямі. Вельмі важна, каб у п'есе існавала не толькі рацыянальнае зерне, але і эмацыянальнае. У рэшце рэшт, вельмі важны эпілог. Сюжэт — гэта не болей як цікавыя прыгоды, і здараецца, што прыгоды заканчваюцца нічым і дзецям спектакль нічога не дае. Даволі часта даводзіцца чытаць дзіцячую бяздзейсную драматургію, ды і спектаклі такія здараюцца, калі на сцэне толькі і робяць, што размаўляюць. Артысты выходзяць — і гавораць, гавораць. А дзецям сумна. У іх жа іншае ўспрыманне! Сюжэт мусіць актыўна развівацца, дзеі — хутка мяняцца. Часам чытаеш п'есу — а яна настолькі бесфантазійная, простая, што ўвогуле становіцца незразумела: навошта яна напісаная? З агульнай масы п'ес толькі 10 працэнтаў тых, з якімі хочацца працаваць. Цяпер я чытаю аўтарскія казкі, каб пасля, можа быць, заняцца інсцэніроўкай. Хочацца адшукаць новыя дзіцячыя жанры, а сучасная драматургія гэтага не дае.



**Алена Сідарава, актрыса:**

Творы, якія я чытаю ў дзіцячай перадачы на канале «Культура», мілыя, добрыя, але — неарыгінальныя. Складваецца ўражанне, што я ўжо недзе сустракалася з гэтымі казкамі, бачыла іх сярод еўрапейскіх, амерыканскіх, рускіх. І не хапае ў іх нечага свайго, нацыянальнага.

Разумею, што гэтага не хапае не толькі ў нашых казках, але ўвогуле ў нашым жыцці. Пры адсутнасці беларускай мовы, пры адсутнасці культурных каштоўнасцей — менавіта нашых.

Але здараюцца праблескі. Не так даўно мне даводзілася чытаць казкі маладой пісьменніцы Алены Мальчэўскай — апавяданні пра фантастычнага персанажа Шашу. І гэта было так міла, так сімпатычна і так ні да чаго не падобна, што сапраўды ўзрушыла мяне. Вельмі спадабалася. Нешта ж ёсць, нешта нараджаецца, хоць і мала — нестае патрэбнай глебы.



**Алена Масла, пісьменніца:**

Я адпачатку не згодная з такой пастаноўкай пытання. Гэта негатыўны пасыл. Чаму б не пагаварыць пра адметнасць дзіцячай літаратуры — такая гаворка, на мой погляд, канструктыўная і стваральная.

Перыядычна я бываю на выдавецкіх форумах, фестывалях дзіцячай кнігі ва Украіне. Вось бы нам пераняць ад украінцаў іх адданасць свайму, нацыянальнаму! Пры тым, што ў іх выдаецца багата перакладной літаратуры, сваё яны не прыніжаюць — папулярызуюць, прапагандуюць. І ад гэтага ўсе маюць плён — і аўтары, і кнігавыдаўцы, і чытачы.

Каб дапамагчы дзіцячай кнізе, трэба здзейсніць абяцанае — зменшыць падаткі на кнігавыданне. Урэгуляваць сістэму дастойнай аплаты аўтарам і мастакам. Глядзець не ў тváры, а ў творы: для дзяцей не істотна, хто аўтар — ім патрэбны добрыя кнігі.

*Мас-медыя*

# Фактары суверэнітэту і яднання

У межах VIII Беларускага міжнароднага медыяфоруму «Партнёрства ў імя будучыні: гісторыка-культурная спадчына як фактар яднання» асобнае пленарнае пасяджэнне праходзіла на Гродзеншчыне, у замкавым комплексе «Мір».

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

Дыскусію вялі мадэратары: дырэктар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» Тацціяна Бялова і дырэктар-галоўны рэдактар РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Алесь Карлюкевіч. Да размовы на самыя актуальныя тэмы супрацьстаяння глабалізацыі, захавання нацыянальнай ідэнтычнасці, ролі рускай мовы на постсавецкай прасторы як рухавіка да актыўных міжлітаратурных стасункаў гаварылі ўдзельнікі форуму з самых розных краін.

Самыя розныя актуаліі гучалі ў выступленнях дырэктара Акадэміі імя Айтматава ў Лондане, прафесара, доктара філалагічных навук, перакладчыцы твораў славутага кіргізскага пісьменніка на нямецкую і англійскую мовы Рахімы Абдуваліевай, намесніка галоўнага рэдактара часопіса «Наш современник» Аляксандра Казінцава, дырэктара Выдавецкага цэнтра навуковай літаратуры і энцыклапедый Літвы Рымантаса Карэцкаса, старшыні Савета ФНКА «Беларусы Расіі» Валерыя Казакова, намесніка галоўнага рэдактара «Литературной газеты» Алеся Кажадуба і іншых вядомых у СНД дзеячаў культуры і літаратуры.

Варта падкрэсліць, што ў значнай ступені менавіта Беларусь з'яўляецца пляцоўкай для рэалізацыі многіх супольных культуралагічных, літаратурных праектаў на постсавецкай прасторы. І пра гэта таксама ішла гаворка ў Міры. Адметнай рысай супрацоўніцтва Беларусі з краінамі СНД у гэтым кірунку з'яўляецца жаданне пазнаёміць жыхароў сваёй краіны са здабыткамі розных нацыянальных культур.

Канечне ж, многія сувязі, што былі наладжаны ў савецкі перыяд гісторыі, страчаны. Некаторыя — і па прычыне сваёй штучнасці. І пра гэта гаварылі ўдзельнікі дыскусіі. Несумненна, шмат што ў міжнародных культурных і літаратурных стасунках патрабуе перазагрузкі, набыцця новых рыс, суадносін з сапраўднай рэчаіснасцю. І гэта можа адбыцца толькі ў тым выпадку, калі ўвага творцаў, дзеячаў культуры будзе прыкавана да лепшых, найбольш значных з'яў нацыянальнай культуры. Важную ролю асоб, людзей, якія, паважаючы нацыянальнае, выяўляюць сябе інтэрнацыяналістамі, акрэслівалі ў сваіх выступленнях азербайджанскі паэт і перакладчык Чынгіз Алі аглы, армянскі пісьменнік Эдвард Мілітанян, туркменская перакладчыца і пісьменніца Бягуль Аннабаева, дырэктар Дэпартамента выдавецкай справы і прэсы Дзяржаўнага камітэта тэлебачання і радыёвяшчання Украіны Аляксей Кананенка, кубінскі дыпламат Альфрэда Ньевес Партуонда ды шмат хто яшчэ.

Па выніках работы пленарнага пасяджэння была прынятая рэзалюцыя.

# Гавораць эксперты

Стаў вядомы пералік твораў, вылучаных на атрыманне прэміі Саюзнай дзяржавы ў галіне літаратуры і мастацтва за 2013 — 2014 гады. На мінулым тыдні адбылося пасяджэнне Экспертнага савета па прэміях, які разглядаў хадайніцтвы, прадстаўленыя міністэрствамі культуры Расіі і Беларусі.

**Ірына ТУЛУПАВА**



*Фота Кастуся Дробава*

*Члены Экспертнага савета ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы.*

У пасяджэнні ўзялі ўдзел намеснік Дзяржаўнага сакратара — член Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы Іван Бамбіза, першы намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Уладзімір Карачэўскі ды іншыя члены Экспертнага савета — вядомыя дзеячы культуры, прадстаўнікі творчых саюзаў і арганізацый дзвюх краін.

«Сёлета як ніколі раней шмат творчых праектаў», — зазначыў сустаршыня Экспертнага савета Уладзімір Карачэўскі. Яго падтрымаў дырэктар Дэпартамента інфармацыйнай палітыкі і міжнародных сувязей Вадзім Дуда, які дэбютаваў на савеце.

Ад Беларусі вылучаны тры праекты. Гэта скульптурныя творы — бюсты касманаўтаў П. Клімука, Ю. Раманенкі, У. Кавалёнка, В. Савіных, А. Лявонава, Г. Цітова, Г. Падалкі — ды скульптурныя кампазіцыі народнага мастака Івана Міско; цыкл жывапісных работ «Мужнасць» народнага мастака Гаўрыіла Вашчанкі; канцэртныя праграмы Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Г. Цітовіча. Мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор — народны артыст Беларусі Міхаіл Дрынеўскі.

Расійская Федэрацыя прадставіла восем праектаў: сімфанічная кампазіцыя «Жывая музыка перамогі» (дырыжор — народны артыст СССР Юрый Башмет, кампазітар — заслужаны дзеяч мастацтваў РФ Уладзімір Бяляеў); роля Сервантэса — Дон Кіхота ў мюзікле «Чалавек з Ламанчы» (выканаўца — народны артыст СССР Уладзімір Зельдзін); калекцыя паўлавапасадскіх шаляў і мадэляў касцюма «Букет для славянкі» ў тэхніцы лапікавага шыцця з паўлавапасадскіх купонаў на аснове крою народнага касцюма (аўтары — заслужаныя мастакі Расіі Ірына Дадонава і Віктар Зубрыцкі, мастакі Алена Жукава, Уладзімір Стулаў, Тацціяна Сухарэўская, Алена Фаварытава, Валерыя Фадзеева, Ніна Бабровіч); харавая фантазія «Ражаство» (кампазітар — заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі Сяргей Церханаў). Адразу некалькі праектаў Расійскай Федэрацыі прадстаўлена па літаратуры. Гэта двухмоўны зборнік вершаў (анталогія) «З веку ў век. Беларуская паэзія» (аўтар праекта і старшыня рэдкалегіі, аўтар прадмовы да серыі — Сяргей Глаўсюк, укладанне, прадмова і заўвагі да кнігі Любові Турбіной і Аляксандра Кажадуба); зборнікі паэзіі «Барвовая медзь», «Адкрыцці», «Вачыма дрэў» паэта Мікалая Траццякова; кнігі «Лісты дружбы», «Ведаю, ты вернешся», «Дзіцячыя песні пра галоўнае» (аўтар праекта і укладальнік — Вадзім Носаў, укладальнік — Наталля Раманава); пераклады на рускую мову кніг вершаў А. Ставера «Сугучча», рамана ў вершах Н. Гілевіча «Родныя дзеці», вершаў, балад і паэм У. Караткевіча (перакладчык — Уладзіслаў Арцёмаў); кнігі «Храмы Беларусі XIX ст. у складзе Расійскай імперыі: перастварэнне спадчыны», «Манастыры ўсходняй і заходняй традыцый: спадчына архітэктуры Беларусі», «Архітэктура гарадоў Верхняга Прыдняпроўя XII — сярэдзіны XIX стст.» (аўтар Інэса Слюнькова); кнігі «Скобелеў», «Масты памяці», «Маргелаў», «Генерал арміі Васіль Маргелаў», «Генерал Георгій Шпак», «Сімяон Полацкі», тэлесерыял «Народ, спаконвечна нам родны», радыёспектакль «Уладзімір і Рагнеда» (аўтар — заслужаны работнік культуры Расіі Барыс Косцін).

На пытанне, па якіх крытэрыях будуць ацэньвацца літаратурныя творы, Іван Бамбіза адказаў: «Бясспрэчна, ацэньвацца будзе мастацкая значнасць твора. А асноўны крытэрый — каб у іх была закладзена ідэя яднання народаў. У гэтым галоўны сэнс Саюзнай дзяржавы».

Нягледзячы на тое, што прадстаўлена 11 праектаў, прэмій, як заўсёды, будзе толькі тры. Цяпер настае час грамадскага абмеркавання работ. Дарэчы, іх шырокая прэзентацыя адбудзецца на «Славянскім базары ў Віцебску».

*Афіцыйна*

# Пра будзённае з надзённым

Чарговае пасяджэнне Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі пачалося на высокай лірычнай ноце.

**Рына НОВАК**

Намеснік міністра культуры краіны Васіль Чэрнік зачытаў прывітальны адрас Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі заслужанаму дзеячу культуры, паэту Уладзіміру Карызну ў сувязі з яго 75-годдзем. Пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь павіншаваў з юбілеем старшыня СПБ Мікалай Чаргінец. Добрыя словы прагучалі таксама ад творцаў з Мінскага гарадскога аддзялення СПБ. Уладзімір Карызна ў адказ прачытаў прачулыя вершы.

Падводзячы вынікі паездкі творцаў на Брэстчыну (паводле распараджэння Прэзідэнта краіны іх арганізуюць Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Саюз пісьменнікаў Беларусі), Мікалай Чаргінец падкрэсліў, што вандроўкі будуць працягвацца. Наступная плануецца на Віцебшчыну.

Другое творчае пытанне, вынесенае на Прэзідыум, — «Аб правядзенні конкурсу "Лепшы твор 2012 года"». Сакратар СПБ Генадзь Пашкоў агучыў лічбы: на конкурс у намінацыі «Проза» вылучаныя 7 кніг, «Паэзія» — 8, «Дзіцячая літаратура» — 5, «Крытыка» — 3, «Краязнаўства» — 2, «Песенны жанр» — 2. Безальтэрнатыўны пакуль з'яўляюцца намінацыі «Драматургія», «Гумар і сатыра», «Пераклады», на якія пададзена па адной заяўцы. Было падкрэслена: паводле ўмоў конкурсу, узнагароджаныя лаўрэаты не могуць удзельнічаць у ім другі раз. Абмяркоўвалася таксама магчымасць заснавання іншых прэмій у галіне літаратуры: ініцыіраванне прэміі ад урада краіны і ад Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Сярод іншых пытанняў парадку дня — прыём у СПБ (прынятыя творцы, якія пішуць у розных жанрах: публіцыстыкі, крытыкі, літаратуразнаўства, сатыры і гумару, прозы і паэзіі), вылучэнне кандыдатур пісьменнікаў на дзяржаўныя ўзнагароды.

# Паміж Беларуссю і Украінай — струна

**Раіса СІНЯЎСКАЯ**

У Кіеве адбылася IX міжнародная выстаўка-кірмаш, у якой узялі ўдзел айчынныя выдавецтвы «Беларусь», «Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі», «Вышэйшая школа», «Мастацкая літаратура», «Адукацыя і выхаванне», а таксама РВУ «Выдавецкі дом «Звязда». Ганаровым госцем выстаўкі стала Расія, якая прадставіла калектыўны стэнд «Чытаем разам».

Як адзначыла намеснік дырэктара РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» Ала Корбут, удзел у падобных кніжных кірмашах стаў добрай традыцыяй, але сёлетняя сустрэча ў сталіцы Украіны мела на мэце не толькі прэзэнтаваць ужо выдадзеныя кнігі, але і абмеркаваць падрабязнасці новых беларуска-ўкраінскіх праектаў: кнігі «Залатая струна» з серыі «Сугучча сэрцаў» і зборніка перакладаў Ніны Мацяш «Перазовы». Бакі ўзгаднілі канцэпцыі выданняў, іх структуру і знешні выгляд, высока ацанілі творчыя прапановы Выдавецкага дома «Звязда», выказалі намер падрыхтаваць і правесці прэзентацыі кніг на ўкраінскай зямлі.

— Найбольш наведвальнікаў беларускага стэнда цікавілі кнігі па гісторыі, мастацтве, дзіцячая літаратура, публіцыстыка, звязаная з архіўнымі даследаваннямі, і, як ні дзіўна, паэзія, — распавяла Ала Генрыхаўна. — Адна з украінскіх чытачак была неверагодна шчаслівая, сустрэўшы на нашай паліцы кнігу ўлюбёнага беларускага творцы, нават напрасіла перадаць яму ліст з удзячнасцю. Канечне, у першую чаргу цікавіліся нашай вучэбнай літаратурай. У Кіеве ўжо ведаюць, што мы прывозім самыя якасныя выданні, і, упэўнена, цікавых сумесных праектаў у нас будзе яшчэ шмат!

У межах выстаўкі таксама прайшлі прэзентацыі, сустрэчы з прадстаўнікамі выдавецкіх арганізацый, былі абмеркаваныя надзённыя пытанні кнігавыдання і кнігараспаўсюджвання.

# Права на маналог

У дні VIII Беларускага міжнароднага медыяфоруму ў Інстытуце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта вось ужо восьмы раз праводзілася летняя школа журналістыкі. Сёлета яна прайшла ў фармаце прэс-клуба на тэму «Фарміраванне новага вобраза культурнай журналістыкі».

**Марына ВЕСЯЛУХА**

Каб абмеркаваць аспекты і шляхі ўдасканальвання прафесійнага майстэрства, павышэння прэстыжу культурнай журналістыкі, а таксама прыцягнення ўвагі да праблем і дасягненняў культуры праз СМІ, у імправізаваным клубе сабраліся дасведчаныя арт-журналісты, рэдактары аддзелаў культуры вядучых рэспубліканскіх СМІ, тэатральныя і музычныя крытыкі, мастацтвазнаўцы.

— Прыемна, што сёлета медыяфорум у цэлым і школа журналістыкі ў прыватнасці прысвечаны такой няпростай тэме — культуры, гісторыка-культурнай спадчыне, — у сваім прывітальным слове падкрэсліў дырэктар-галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч. — Імкнучыся хутчэй праінфармаваць чытача, мы часта перш за ўсё кажам пра палітыку, эканамічную сітуацыю, сацыяльныя праблемы. А культура застаецца нібыта па-за ўвагай. Я ж лічу, што калі нават у грамадска-палітычнай газеце будзе недастаткова культурнага матэрыялу, то грамадства рызыкуе страціць свае сацыяльныя, палітычныя і іншыя аспекты развіцця.

Як павінна асвятляцца культура: з пункту гледжання нацыянальнай парадыгмы ці з улікам агульнасусветных тэндэнцый? Ці патрэбна вяртаць памяць пра знакамітых выхадцаў з Беларусі? Якое месца павінны займаць матэрыялы пра культуру ў агульнай колькасці тэкстаў грамадска-палітычных газет? На гэтыя і многія іншыя пытанні шляхам іх актыўнага абмеркавання спрабавалі знайсці адказы як дасведчаныя журналісты-практыкі, так і студэнты.

Думаецца, летняя школа журналістыкі з'яўляецца эфектыўнай формай арганізацыі навучання будучых майстроў пяра. Хоць і ў досыць «сціснутым» фармаце, яна дае шырокае поле для разважанняў, дазваляе кожнаму ўдзельніку выказаць уласнае меркаванне і пачуць думку кампетэнтных спецыялістаў.

*Конкурсы*

# Адкрыць малую радзіму

Газета «Звязда» сумесна з Беларускай Энцыклапедыяй імя Петруся Броўкі аб'явіла чарговы конкурс на веданне нашай гістарычнай спадчыны, які мае назву «Мясціны, знітаваныя з душой». Лепшыя творчыя работы будуць змешчаны ў краязнаўчым выпуску «Ігуменскі тракт».

**Раіса МАРЧУК**

— Да ўдзелу ў конкурсе заклікаюцца абсалютна ўсе: ад студэнтаў адпаведных спецыяльнасцей — археолагаў, музейшчыкаў, гісторыкаў, культуролагаў — да тых, хто проста цікавіцца гісторыяй і культурай сваёй малой радзімы, — распавяла вядучая «Ігуменскага тракта» Ніна Шчарбачэвіч. — Да творчага спаборніцтва прымаюцца артыкулы, у якіх распавядаецца пра штосьці адметнае, звязанае з мясцінамі, у якіх жывуць, нарадзіўся або некалі бываў аўтар. Гэта могуць быць аповеды пра слынных асоб, важныя падзеі і даты, незвычайныя будынкі і паркі, прадметы даўніны. Галоўная ўмова — арыгінальнасць. Нам цікава ваша ўласнае бачанне гісторыі сваёй мясцовасці.

Конкурс распачаўся 5 мая, у Дзень друку, бо менавіта праз сродкі масавай інфармацыі можна адкрыць шырокаму свету тое лепшае, што ўтойвае малая радзіма. Падвядзенне вынікаў — напярэдадні Дня пісьменства, у пачатку верасня. І гэта сімвалічна, бо ў публіцыстыцы наша спадчына робіцца здабыткам сучаснікаў, а ў літаратурных творах самабытная нацыянальная культура можа быць занатавана для нашчадкаў на стагоддзі.

Дарэчы, многія чытачы «Звязды» пішуць у рэдакцыю, што ім падабаецца чытаць «Ігуменскі тракт», і прапануюць для публікацыі свае краязнаўчыя даследаванні. Звычайна іх змяшчаюць пад рубрыкай «Гісторыя з канверта».

Тры пераможцы конкурсу атрымаюць прызы ад выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» — выданні. Першае — фотаальбом «Полацк. 1150», які прысвечаны 1150-годдзю беларускай дзяржаўнасці і духоўнасці. У другім выданні «Д. Струкаў. Альбом малюнкаў 1864 — 1867» прадстаўлена каля 200 праваслаўных цэркваў і храмаў іншых канфесій на тэрыторыі Беларусі, якія да нашага часу не захаваліся, малюнкі згубленых прадметаў царкоўнай даўніны, замалёўкі курганоў і гарадзішчаў, панарамы старадаўніх беларускіх гарадоў. Трэцяя кніга з серыі «Энцыклапедыя рарытэтаў» — «Беларусы ў фотаздымках Ісака Сербава. 1911 — 1912». Аснову альбома складаюць фотаздымкі беларускага этнографа І. Сербава, якія былі зроблены падчас экспедыцыі ў Беларусь, што праводзілася па заданні Паўночна-Заходняга аддзела Імператарскага Рускага геаграфічнага таварыства.

— Работы можна дасылаць на адрас: г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, газета «Звязда», — зазначыла Ніна Шчарбачэвіч. — Ці на электронны адрас: *igumenski@mail.ru* з паметкай «Мясціны, знітаваныя з душой». Не забудзьце ўказаць ваша месца пражывання, а таксама населены пункт, пра які вядзецца аповед. Максімальны аб'ём работ — 2,5 друкаваныя старонкі. Запрашаем пісаць актыўна. Мы глыбока перакананы, што ў Беларусі пачынаецца новая хваля духоўнага адраджэння. Таму хочацца, каб ніхто не застаўся ўбаку ад яе, каб кожны змог зрабіць свой пасільны ўнёсак. Толькі так, старонку за старонкай адкрываючы схаванае хараство нашай Бацькаўшчыны, яе годнае аблічча мы створым не толькі ў нашым разуменні, але і ва ўяўленні ўсяго беларускага грамадства.

*Масты дружбы*

# Калмыцкі досвед пра Хатынь

**Максім ЖАЛЕЗІНКА**

Толькі цяпер на вочы патрапіла манаграфія Рымы Ханінавай «Давід Кугульцінаў і Міхаіл Ханінаў: дыялог паэтаў» (Эліста, 2008). У гэтым грунтоўным даследаванні ўпершыню вывучаны і абагульнены творчыя і жыццёвыя ўзаемаадносіны двух калмыцкіх пісьменнікаў — Д. Кугульцінава (1922 — 2006) і М. Ханінава (1919 — 1981) у перыяд іх актыўных стасункаў — з канца 1950-х да канца 1970-х гг.

У другой главе манаграфіі асобна вылучаны наступны раздзел — «Хатынь як памяць у паэзіі Давіда Кугульцінава і Міхаіла Ханінава». Як вядома, Д. Кугульцінаў прысвяціў народнаму паэту Беларусі Аркадзю Куляшову верш «Хатынь». А М. Ханінаў, які партызаніў у Беларусі, стварыў паэму «Званы Хатыні». Рыма Ханінава вось што піша пра легендарнага беларускага партызана, якога на Міншчыне і Магілёўшчыне звалі Міша Чорны: «Калмыцкі паэт сябраваў з беларускімі пісьменнікамі: Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Васіль Быкаў, Іван Шамякін, Пётр Шасцерыкоў, Аляксей Пысін, Генадзь Бураўкін, Сяргей Грахоўскі і інш. Займаўся перакладамі беларускай паэзіі (Янка Купала, Якуб Колас, Максім Танк, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў і інш.), выпусціў кнігу лірыкі Я. Купалы на калмыцкай мове…»

Несумненна, манаграфія кандыдата філалагічных навук Р. Ханінавай — варты ўнёсак і ў гісторыю беларуска-калмыцкіх літаратурных сувязей.

# Вальс для пераможцаў

Рэгіянальны фестываль песні і музыкі «Майскі вальс» на прызы кампазітара Ігара Лучанка, які праходзіў у Мар'інай Горцы, назваў пераможцаў. Гран-пры конкурсу заваявала Кацярына Гаўрылюк з Дукорскага Дома культуры Пухавіцкага раёна. Пераможцы вызначаліся і ў трох намінацыях — за высокі ўзровень выканальніцкага майстэрства і творчы ўнёсак у развіццё песеннай і музычнай культуры, прапаганду песеннага і музычнага мастацтва і захаванне традыцый. Лепшымі названы народны ансамбль інструментальнай музыкі «Каданс» Заслаўскай ДШМ, салістка з мар'інагорскай СШ № 2 Аляксандра Едчык і выканаўца з г. Чэрвеня Андрэй Каленік.

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ**

# Жыве славянскае адзінства

**Мікіта СУПРУНЧУК**

Свята, якое яднае нямала народаў — Дзень славянскага пісьменства, — сёлета адзначылі і ў Сербіі: у шэрагу гарадоў прайшлі тэматычныя вечары і фестывалі, канферэнцыі і публічныя чытанні. Спецыяльныя праграмы падрыхтавалі Саюз пісьменнікаў Сербіі, універсітэты ў г. Крагуевац (партнёр Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя А. Куляшова) і ў г. Нові-Сад (партнёр Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны), іншыя арганізацыі.

У сталіцы Сербіі ля помніка салунскім братам Кірылу і Мяфодзію адбылася ўрачыстая цырымонія ўшанавання іх памяці. Удзельнічалі ў ёй супрацоўнікі гарадской адміністрацыі на чале з намеснікам мэра Бялграда Зоранам Алімпічам, адукацыйных устаноў, культурных таварыстваў, Сербскай Праваслаўнай Царквы, а таксама пасольстваў Балгарыі, Македоніі, Расіі і Украіны. Беларусь прадстаўлялі Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Сербіі Уладзімір Чушаў і супрацоўнікі пасольства Дзяніс Сідараў і Анатоль Трацэўскі.

Славістычнае таварыства Сербіі таксама традыцыйна святкуе гэты дзень на філалагічным факультэце Бялградскага ўніверсітэта. Прыемна, што там гучалі і беларускія песні — іх выканалі студэнты, якія вывучаюць беларускую мову.

Жыве, мацуецца славянскае адзінства і ў іншых праектах. Так, сёлета ў жніўні ў Мінску пройдзе найбуйнейшы кангрэс па славянскіх мовах, літаратурах і культурах — XV Міжнародны з'езд славістаў, абмяркоўваецца магчымасць правядзення наступнага — у 2018 годзе — у Бялградзе.

# З паштоўкамі знаёміцца Беласток

**Сяргей ШЫЧКО**

У Польшчы прайшла прэзентацыя альбомаў беларускага калекцыянера Уладзіміра Ліхадзедава.

Лаўрэата прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «За духоўнае адраджэнне» Уладзіміра Ліхадзедава добра ведаюць у Беластоку. Тут у друкарні «Ортдрук» выходзяць яго філакартычныя альбомы. Таму і прэзентацыя кніг мінскага збіральніка старых паштовак у Гістарычным музеі Беластока выклікала цікавасць у многіх насельнікаў гэтага горада. Адкрыў сустрэчу віцэ-мэр Беластока Аляксандр Сосна. Уладзімір Аляксеевіч Ліхадзедаў перш-наперш звярнуў увагу прысутных на альбомы, звязаныя з выявамі, прысвечанымі Т. Касцюшку, А. Міцкевічу, Ю. Славацкаму. Беластоцкія краязнаўцы, аматары гістарычнай даўніны з асаблівай цікавасцю знаёміліся з кнігай «Юльюш Славацкі на старых паштоўках канца XIX — пачатку XX стагоддзя». Яно і зразумела. Пад адной вокладкай з выявамі паштовак змешчаны і пераклад паэмы Ю. Славацкага «Міндоўг — кароль літоўскі» на беларускую мову.

*Абрысы*

Прэзентацыя кнігі «Куды блінок закаціўся», якая адкрыла новую серыю «Казачны куфэрак» РВУ «Выдавецкі дом «Звязда», адбылася ў сталічнай бібліятэцы № 2 імя Н. Крупскай. У кнізе змешчаны творы 13 аўтараў: гэта празаічныя і вершаваныя казкі. Мастацкае афармленне — Марыі Каратаевай. Удзел у імпрэзе ўзялі аўтары зборніка Раіса Баравікова і Уладзімір Мазго, якія сустрэліся з вучнямі 2 — 3 класаў СШ № 178 г. Мінска. Пісьменнікі распавялі пра гісторыі напісання казак, прачыталі свае новыя творы: вершы, загадкі.

Музей гісторыі горада Гомеля запрашае сёння а 18-й гадзіне на прэзентацыю новай навукова-папулярнай кнігі Мікалая Плавінскага «Узбраенне беларускіх земляў X — XIII стагоддзяў». У кнізе апісваюцца асноўныя катэгорыі старажытнарускага ўзбраення, паходжанне, час і асаблівасці выкарыстання пэўных відаў наступальнай зброі і засцерагальнага ўзбраення. Тэкст суправаджаецца шматлікімі ілюстрацыямі і фотаздымкамі найцікавейшых знаходак на тэрыторыі Беларусі.

Урачыстым шэсцем другакласнікаў СШ № 2 з зялёнымі сцяжкамі пачалося свята ў Барысаўскай гарадской бібліятэцы № 2, якое ладзілася ў межах праекта «55 колераў «Вясёлкі». Сюрпрызным момантам тэатралізаванага дзеяння стаў герой часопіса «Вясёлка» Вася Вясёлкін, які спусціўся да дзяцей на прыгожым парашуціку і запрасіў іх у казку «Як зрабілася вясёлка». У «зялёнай» зале бібліятэкі прайшоў лялечны спектакль па казцы Н. Галіноўскай «Выпадак у краме». Гучалі вершы, песні, выступленні юных гітарыстаў, праводзіліся гульні. Да імпрэзы былі падрыхтаваны кніжныя выстаўкі «Сябруйце з "Вясёлкай"», «Зялёны колер "Вясёлкі"» і выстаўка-пано «Беларусь у вершах Н. Галіноўскай».

Міністэрства культуры Беларусі і Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа запрашаюць спецыялістаў сферы навуковага коласазнаўства, гісторыі беларускай літаратуры XIX — XX стст., гісторыкаў, архівістаў, журналістаў, культуролагаў, спецыялістаў музейнай справы да ўдзелу ў XXVIII Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Зямля — аснова ўсёй Айчыне», прысвечанай 90-годдзю выхаду з друку «Новай зямлі» Якуба Коласа. Канферэнцыя адбудзецца 1 лістапада бягучага года.

Лісты з архіва

# «Дык хай гэты партрэт мой гаворэ…»

**У кожнага з нас ёсць сямейны альбом. Яго мы паказваем гасцям, разгортваем у хвіліну душэўнага неспакою. На гэтых старонках ёсць і нашы здымкі, пяшчотна прыклееныя бацькамі, з альбома пазіраюць на нас твары блізкіх людзей.**

Ці заўважалі вы, як змяніліся фотаздымкі за сто гадоў? Цяпер мы карыстаемся лічбавымі фотаапаратамі, а здымкі захоўваем у камп'ютарах, рэдка раздрукоўваем. Ды і раздрукаваныя, яны вельмі адрозніваюцца ад здымкаў канца XIX — пачатку XX стагоддзя. На тых старых фотаздымках адчуваецца нейкая своеасаблівая магія. Разгортваем пажаўцелыя старонкі альбома, бярэш у рукі старую картку — і перад табой узнікаюць твары людзей, якіх ужо даўно няма ў нашым свеце, але іх энергетыка жывая. Кожны такі фотаздымак — сапраўдны твор мастацтва, бо кожны зроблены своеасабліва, непаўторна. Да фатаграфавання раней звычайна рыхтаваліся доўга, чакалі, бо гэтая падзея была незвычайнай справай, сапраўдным святам для ўсёй сям'і. Таму фотаздымкаў у чалавека было няшмат.

Як, напрыклад, у Максіма Багдановіча. Яго асабістых здымкаў засталося вельмі мала, нават у сямейным фотаальбоме, які захоўваецца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва. У фондах Літаратурнага музея Максіма Багдановіча таксама ёсць здымкі паэта, яго родных і блізкіх. Давайце паспрабуем з дапамогай іх уявіць віртуальны альбом сям'і Максіма Багдановіча. Якім ён можа быць? Просты скураны альбом, а можа, вялікі, цяжкі з залачонай зашчапкай? Давайце разам пагартаем яго старонкі, выправімся ў падарожжа ў часе і прасторы.

На першай старонцы альбома, вядома ж, павінны быць здымкі бацькоў Максіма. Вось фота прыгожага, сур'ёзнага настаўніка Адама Ягоравіча, бацькі паэта. Здымак зроблены ў фотамайстэрні знакамітага мінскага майстра Майсея Страшунера. Адам Ягоравіч сфатаграфаваны амаль адразу пасля заканчэння Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі. Побач, вядома ж, фатаграфія яго любай жонкі Марылькі. Яна, маладая, з каротка пастрыжанымі валасамі, апранутая ў прыгожую сукенку. Дарэчы, да нашага часу захаваліся тры такія фотаздымкі. Альбом сям'і Багдановічаў пачынаецца з Мінска. У гэтым горадзе пачалося вялікае каханне Адама і Марылькі, тут нарадзіліся іх дзеткі: старэйшы сын Вадзім, потым — Максім. Але так здарылася, што праз паўгода пасля нараджэння Максіма сям'я пераехала ў іншы горад — Гародню. І на наступных старонках ужо фотаздымкі, зробленыя ў тутэйшых майстэрнях. На першым з іх мы бачым маленькага Максіма, які стаіць на падстаўцы побач з маці. Максім апрануты ў белую сукеначку. Мяркуецца, што гэты здымак зроблены пасля хрышчэння хлопчыка. Але, магчыма, ён хоча нам паказаць мару маці пра маленькую дачушку. Таму і на наступным здымку, дзе маленькі Максім стаіць побач са старэйшым братам, хлопчык таксама апрануты ў сукеначку. На наступнай старонцы — ужо ўся сям'я, у якой да гэтага часу з'явіўся яшчэ адзін сынок, Леў. Са здымка на нас глядзяць шчаслівыя бацька, маці і трое сыноў. Максім так даверліва прытуліўся да маці, нібыта адчувае, што хутка ім давядзецца расстацца назаўсёды.

На пазнейшых фотаздымках Максім з братамі стаіць побач з цёткай, Марыяй Ягораўнай. Яна прыехала з далёкай Адэсы ў Гародню, каб замяніць асірацелым пляменнікам маці. У вачах пяцігадовага Максіма мы бачым ужо недзіцячы сум. Гора было вялікім не толькі для дзяцей, але і для самога Адама Ягоравіча. Таму ён вырашыў пераехаць у іншы горад, які б не нагадваў яму пра страту любай жонкі. Сям'я перасяляецца ў Ніжні Ноўгарад. Тут Максім пачаў вучыцца ў мужчынскай гімназіі, але ўвесь вольны ад заняткаў час ён праводзіў у сваіх цётак: слухаў прыгожыя беларускія казкі і песні, гуляў з іх дзецьмі. На старонках альбома з'яўляюцца здымкі Марыі Ягораўны, Магдалены Ягораўны і іх дзетак. Сярод фотаздымкаў сям'і Гапановічаў вылучаюцца здымкі Нюты, стрыечнай сястры Максіма і лепшай сяброўкі. Тут яе дзіцячыя здымкі і здымкі ўжо маладой прыгажуні. Нюце Максім падпісаў асобнік свайго першага зборніка вершаў «Вянок» і зрабіў для яе пераклады вершаў пад назвай «Зеленя».

На старонках нашага альбома знайшоў сваё месца здымак хроснай маці паэта — Вольгі Епіфанаўны Сёмавай. З яго на нас глядзіць вельмі сур'ёзная жанчына ў цёмнай сукенцы з прыгожым



Максім Багдановіч. 1909 г.

карункавым каўняром. Вольга Епіфанаўна была загадчыцай Пінскай жаночай прагімназіі, жанчынай вельмі прагрэсіўных поглядаў. Менавіта ёй Максім Багдановіч паказаў свае першыя вершы на беларускай мове, дзякуючы ёй пачалося знаёмства паэта з газетай «Наша Ніва», дзе ў 1907 годзе надрукавалі яго першае апавяданне «Музыка».

У 1908 годзе сям'я Адама Багдановіча пераязджае ў Яраслаўль. І на старонках альбома з'яўляюцца цудоўныя здымкі фотаатэльэ сапраўдных майстроў пачатку XX стагоддзя. Менавіта ў Яраслаўлі была зроблена большая частка здымкаў Максіма Багдановіча, якія захаваліся да нашых дзён.

Вось мы бачым Максіма-гімназіста. Першы здымак зроблены ў 1909 годзе ў фотамайстэрні Пракопа Іваніцкага. Каштоўнасць вызначаецца аўтографам паэта на адваротным баку. Рукой юнага Максіма Багдановіча напісаны верш:

*Я, нядужны, бязскрыдлы паэт,*
*Помню, раз пазабыў сваё горэ,*
*Бо ў той час атрымаў ваш прывет.*
*Я — нядужны, бязскрыдлы паэт:*
*Мо не выкажа вам трыалет,*
*Дык хай гэты партрэт мой гаворэ,*
*Як нядужны, бязскрыдлы паэт*
*На гадзіну забыў сваё горэ.*

Гэты здымак паэт адправіў свайму сябру Сяргею Палуяну ў падзяку за падтрымку яго вершаў. Пасля заўчаснай смерці Сяргея фота захоўвалася ў яго стрыечнага брата Уладзіміра Бахонкі, пазней вярнулася ў Беларусь, у Літаратурны музей Янкі Купалы. У 1991-м здымак перадалі музею М. Багдановіча.

Не менш каштоўны фотаздымак зроблены ў год заканчэння Яраслаўскай мужчынскай гімназіі, перад паездкай у Вільню і Ракуцёўшчыну, у 1911 г. у фотамайстэрні А. Свяйкоўскага. На адвароце таксама захаваўся аўтограф, зроблены рукой паэта:

*Я вспоминаю дом старинный,*
*На тихой улице фасад,*
*И небольшой уютный сад,*
*И двор просторный и пустынный…*

Здымак быў падараваны гімназічнаму сябру Максіма Багдановіча Мікалаю Рафаілавічу Какуеву. Паводле ўспамінаў сябра паэта Дзiядора Дзябольскага, Максім у апошнія гады навучання ў гімназіі блізка пазнаёміўся з сям'ёй Какуевых і стаў часта бываць у іх. Фотаздымак пасля смерці Мікалая Какуева захоўвала яго сястра Ганна Рафаілаўна, якой паэт прысвячаў свае вершы. Пазней сын Ганны Мікалай Лілееў перадаў здымак Ніне Барысаўне Ватацы, якая ў 1981 годзе падаравала яго ў фонды Літаратурнага музея М. Багдановіча.




Аўтограф Максіма Багдановіча на здымку 1909 г.

У 1911 годзе Максім паступае вучыцца ў Дзямідаўскі юрыдычны ліцэй у Яраслаўлі, і наступныя здымкі зробленыя падчас навучання. У альбоме мы бачым фота, на якім Максім Багдановіч у бібліятэцы сярод ліцэістаў. У бібліятэках паэт пісаў свае крытычныя артыкулы і апавяданні. Многія з іх былі надрукаваныя ў газетах і часопісах. Вельмі плённа Максім супрацоўнічаў з газетай «Голас». І таму на нашай наступнай старонцы групавы здымак — Максім Багдановіч сярод супрацоўнікаў гэтага выдання. Паэт стаіць у другім радзе, пасярэдзіне. Высокі, прыгожы, з цёмнымі густымі валасамі і вусамі. Арыгінал фотаздымка не захаваўся. Менавіта з яго пазней была зроблена выкадроўка, якая доўгі час захоўвалася ў Адама Багдановіча. Гэтае фота лічыцца апошнім здымкам паэта.

У 1917 годзе скончылася зямное жыццё Максіма Багдановіча. І ў нашым альбоме мы замацавалі апошні фотаздымак. Але стварыць віртуальны альбом можна і далей. Далучыце сюды і свае здымкі як нашчадкаў маладога беларускага генія, якія далей панясуць яго словы і памяць.

**Алена КНІГА,**
**навуковы супрацоўнік**
**Літаратурнага музея**
**Максіма Багдановіча**

# Этнограф, але і пісьменнік

**29 мая Міколу Гайдуку споўнілася б 80. У гэтай нататцы з нагоды юбілею я хачу прыгадаць яго, бо перачытваю кнігі і допісы. Вучуся ў яго. А ў Міколы Гайдука ёсць чаму павучыцца і сёння, і праз сто гадоў.**



Даследаваць свой край вучуся і вучыўся ў Міколы Рамановіча. Але ўжо шмат гадоў яго няма сярод нас, хаця і сёння ён мог бы яшчэ хадзіць і ездзіць па ўсёй Беласточчыне, збіраць беларускія песні, паданні, казкі, запісваць геаграфічныя назвы, звычаі, абрады, пісаць творы.

Пагартаем беларускі тыднёвік «Ніва» (Беласток), напрыклад, за мінулыя дзесяцігоддзі, і ўбачым творы Міколы Гайдука амаль у кожным нумары. Ён пісаў, бо ўмеў пісаць, умеў падаць усё — ад вершаў да падручнікаў, ад краязнаўчых матэрыялаў да гістарычных даследаванняў — цікава, арыгінальна, шчыра і аб'ектыўна. Ён працаваў на Беларусь, на свой народ, які жыў з ім побач і па той бок мяжы, гэта значыць у нас, у Беларусі.

У беларускіх выдавецтвах у Міколы Гайдука выйшла кніг больш, чым на Беласточчыне. І ўсе яны неяк адна за адной з'явіліся ў 1990-х гадах. Спачатку пабачыла свет «Трызна» (1991), якую склалі гістарычныя апавяданні. Прадмову да кнігі напісаў Барыс Сачанка. Наогул, Мікола Гайдук ведаў амаль усіх беларускіх пісьменнікаў, з многімі сябраваў. У прадмоўцы Барыс Іванавіч адзначаў, што творчасць Міколы Гайдука — «гэта даніна любові і павагі да роднага краю, жаданне хоць што-кольвечы зрабіць дзеля яго велічы і славы, далучыць да яго новых прыхільнікаў і шанавальнікаў».

Пасля «Трызны» выходзіць «Паратунак» — кніга гістарычных эсэ пра простых беларускіх воінаў і знакамітых князёў, пра барацьбу княстваў, пра паратунак перад крыжацкім нашэсцем. Годна прадстаўленыя ў выдадзеным вобразы Міндоўга, Давыда Гарадзенскага, Ягайлы і Вітаўта. «Зразумела, у цэнтры гэтага займальнага падарожжа пераважна мінулае так роднага і дарагога Міколу Гайдуку краю — Падляшша. Але ў ім, бы ў вялікай кроплі, бы ў чыстым люстры, добра бачыцца ўся беларуская гісторыя. Бо зямля, размешчаная паміж Бугам і Бобрай, дзе параскіданы старажытныя гарады і мястэчкі Драгічын, Бельск, Супрасль, дзе шуміць славутая Белавежская пушча і прывольна пасуцца лясныя волаты-зубры, была здаўна вельмі цесна звязана сваім гістарычным лёсам з усёй Беларуссю, доўгі час уваходзіла ў склад Літоўска-Беларускай дзяржавы», — так напісаў у прадмове да гэтай кнігі Вячаслаў Чамярыцкі.

Мікола Гайдук любіў беларускі фальклор, асабліва песні, паданні Беласточчыны. Ён іх дбайна збіраў, запісваў. У Мінску ў 1996 і 1997 гадах выходзяць кнігі «Белавежскія быліцы і небыліцы» і «Песні Беласточчыны». Добра сказаў Сакрат Яновіч, што «Мікола Гайдук — этнограф, але і пісьменнік, пісьменнік, але і этнограф». Калі літаратар — выдатны этнограф, то ён будзе добрым гісторыкам і пісьменнікам. Мікола Гайдук — адзін з такіх.

А колькі цудоўных артыкулаў беластоцкі літаратар і краязнавец прысвяціў дзеячам беларускай культуры! Амаль усе яны былі апублікаваныя ў беларускім тыднёвіку «Ніва». Гэта артыкулы пра Петруся Броўку, Ігната Дварчаніна, Уладзіміра Дубоўку, Міхася Забэйду-Суміцкага, Янку Купалу, Леапольда Родзевіча, Максіма Танка, Генадзя Цітовіча ды многіх іншых. Роўна паўстагоддзя таму ў друку з'явіўся і яго даследчы артыкул «Адам Міцкевіч аб Беларусі і беларусах».

Мікола Гайдук застаўся ў гісторыі нашай культуры як творца эпічнага складу. Эпічным спакоем, як напісала некалі Вольга Шынкарэнка, поўняцца яго выдатныя кнігі. Пісьменнік заўсёды быў перакананы, што беларусы любяць глядзець у сваё мінулае вачыма легенд. Нашу мінуўшчыну я заўсёды бачу праз яго гістарычныя кнігі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# Поруч з традыцыяй




**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

Чацвёрты нумар «Полымя» запрашае чытача ў свет традыцыйнай беларускай паэзіі, прадстаўленай творамі Мар'яна Дуксы, Валерыя Максімовіча, Івана Капыловіча і Міхася Куляша.

Натуральна, большасць сталых беларускіх літаратараў — паэтытрадыцыяналісты, не схільныя да эпатажу і яркіх эксперыментаў, што не замінае пісаць добрыя вершы (найбліжэйшы прыклад тут — М. Мятліцкі). Але згадаем постструктуралістаў, паводле якіх літаратура — дэспатычная сіла, што навязвае аўтару гатовыя стылістычныя, жанравыя, кампазіцыйныя, моўныя стэрэатыпы. Дакладнасць, трапнасць выказвання немагчымыя без супрацьстаяння рою моўных клішэ, таму творчая адметнасць — гэта ўласцівасць альбо вельмі спецыфічных асоб, альбо плён цяжкага змагання з самім сабой, з шаблоннасцю ўласнага мыслення і трывіяльнасцю мовы.

Пісьменнік, які ў пэўнай літаратурнай сістэме пазіцыянуе сябе як наватар, мае быць пільным і крытычна ставіцца да найбольш пашыраных стэрэатыпаў. А вось паэт-традыцыяналіст цалкам упаўнаважаны што-нішто выкарыстоўваць. Адсюль і небяспека эпігонства: натхненне прыносіць трапны радок ці цікавы вобраз, а далей у галаву лезуць штампы, труізмы ды сталыя эпітэты. Пакуль муза не ўцякла, верш дапісваецца, але неяк не так… Гэтая сітуацыя знаёмая кожнаму літаратару, вось толькі не кожнаму дадзена пераадолець сілу стэрэатыпаў дзеля максімальнага творчага самавыяўлення. Сутыкаліся з гэтым, бадай, і аўтары «Полымя» — прытым, што ў кожнай вершаванай падборцы ёсць і надзвычай удалыя творы.

У вершах гэтага нумара чуюцца М. Багдановіч, П. Панчанка і А. Куляшоў, уздымаюцца тэмы, заўсёды актуальныя для нашай літаратуры: захапленне родным краем, запозненая ўдзячнасць да маці, пашана да творчага таленту. Паэт, мастак, рэстаўратар — гэта, адпаведна класічным уяўленням, «светалюбны абраннік» Бога, і яго праца вартая ўвагі ці нават пакланення.

Самыя праніклівыя, мяккія вершы, у якіх аўтары найбольш індывідуальна выказаліся пра тое, што даўно баліць нашай паэзіі, — гэта творы, прысвечаныя пакінутай, але незабыўнай вёсцы: «Упарта ў маленькую вёску / праз вокны збягае мой сон» (М. Дукса). Гэтаксама кожны па-свойму адчувае, бачыць прыроду — дзівіцца раскошы летняга хараства («Улетку» В. Максімовіча), фіксуе пачатак чаканай вясны («Напрадвесні» М. Куляша).

Вядома, творчасць кожнага аўтара мае свае адметнасці: для М. Дуксы ўласцівыя публіцыстычныя інтанацыі, памкненне заўважыць дысгарманічныя праявы сучаснасці. В. Максімовіч найбольш дасканала валодае паэтычным інструментарыем: анафары, ампліфікацыі, сінтаксічны паралелізм робяць яго вершы дынамічнымі, бурлівымі, яркімі. І. Капыловіч у адрозненне ад іншых аўтараў, якія пішуць выключна чатырохрадкоўямі, паспяхова звяртаецца да пяцірадковых строф, што надае творам задумлівасці і плыткасці.

У кожнай паэтычнай нізцы ёсць вершы, якія вылучаюцца на фоне іншых. Для прыкладу можна прывесці эцюд «Пра вечнае» В. Максімовіча: паэт засяроджваецца на апошніх хвілінах чалавечага жыцця і выкарыстоўвае антытэтычныя і адначасова ўзаемадапаўняльныя вобразы салоўкі і зязюлі, зямлі, смерці і вечнасці. У невялікім творы аўтар паспявае нагадаць і пра заўсёдную, часам вельмі неабходную сувязь між прыродай і чалавекам, і пра веліч, бесперапыннасць жыцця. Побач варта адзначыць верш М. Дуксы «Палыхліва-калючыя ружы…» з развагамі пра дарослых дзяцей, нашчадкаў наогул. «Лепей што — ці разумныя дужа, / ці прытульныя родныя дзеці?» — спрабуе вызначыць паэт і параўноўвае паспяховых, здольных дзяцей з пекнымі, але халоднымі ружамі. Адметнасць думкі вызначае і далікатнае стаўленне да слоў, да выяўленчых сродкаў — і менавіта такія творы сапраўды вартыя ўвагі чытача.

Цэлыя паліцы паэтычных зборнікаў можна было б скарыць, прыкладам, да «Анталогіі пяці вершаў», якая прэзентавала б творчасць шматлікіх аматараў прыгожага пісьменства — але ў памеры, абмежаваным пяццю тэкстамі. Такое сур'ёзнае і годнае выданне стала б выдатнай магчымасцю пакінуць добры след у літаратуры — бо суадносн асць трапных і «проста» вершаў у кожнага свая.

# Казырны туз перамагае даму




**Дзяніс МАРЦІНОВІЧ**

У літаратуры неаднаразова здараюцца сітуацыі, калі пэўная творчая асоба спрабуе сябе адразу ў некалькіх жанрах, але найбольшай рэалізацыі дасягае толькі ў адным з іх, тады як іншыя застаюцца ў цені. Гэтыя разважанні наўпрост датычацца Алены Паповай, якая ў сярэдзіне 1970-х імкліва ўварвалася ў айчынную тэатральную прастору. Доўгі час спектаклі паводле яе п'ес («Аб'ява ў вячэрняй газеце», «Улюбёнцы лёсу» і іншыя) не сыходзілі з рэпертуару беларускіх тэатраў. Прадстаўленыя на ёй і цяпер («Лістапад. Андэрсен»), праўда, у меншай ступені. Але проза Паповай чамусьці не настолькі вядомая. Хоць першая публікацыя ў буйным жанры — раман «Узыходжанне Зенты», надрукаваны ў маскоўскім часопісе «Знамя», — уключалася ў лонг-ліст прэміі «Антыбукер».

Новая аповесць Алены Паповай «Тры дамы ў пошуках кахання і смерці» надрукаваная ў красавіцкім нумары часопіса «Нёман». У аснове сюжэта — гісторыі жанчын (Бубновай, Чырвовай і Крыжовай), адзінокіх і нешчаслівых у асабістым жыцці. На выхадных яны выбіраюцца ў невялікую вандроўку і трапляюць у прыгарадную кавярню «Падарожнік». Па чарзе выходзяць у дамскі пакой, але адтуль трапляюць у «сваё ўжо непапраўнае мінулае», дзе нічога не могуць змяніць. Прычым, яны пераносяцца ў сітуацыі, калі здзяйснялі памылкі, якія прыводзілі да трагедый або расстанняў. Крыжовая дама ўскосна вінаватая ў смерці двух мужоў, Бубновая здраджвае свайму першаму каханню, паводзіны Чырвовай уплываюць на яе разрыў з мужам. Мінулыя ўчынкі гераінь становяцца псіхалагічным ключом для тлумачэння іх лёсаў і цяперашняга жыцця. Напрыклад, у дзяцінстве Крыжовая дама настойліва просіць пагуляцца з любімай фігуркай сваёй мамы — балерынай, увасобленнем вытанчанасці і ўнутранай прыгажосці, — а потым разбівае яе. Тут бачацца адсутнасць душэўнай тонкасці, абыякавасць і эгаізм, якія праяўяцца ў сталыя гады.

Адначасова А. Папова малюе агульны псіхалагічны тыпаж, распаўсюджаны ў сучасным грамадстве: «Усе трое былі з пароды «жонак». Не блытаць з жанчынамі-адзіночкамі. <…> Трапляючы ў склад адзіночак (у адрозненне ад адзіночак натуральных), яны марнеюць, чахнуць, бляknуць, вянуць, проста раставараюцца, губляючы жаданне жыць. <…> Жанчыны-адзіночкі — кошкі. Жанчыны-жонкі — сабакі. Так што сышліся тры дамы пароды сабачай, збіліся маленькім статкам і пачалі жыць разам (духоўна, зразумела)».

Якое ж выйсце з душэўнага крызісу прапануе аўтар для гераінь? Першая альтэрнатыва адкідваецца апрыёры: Пікавая дама, сімвал року і нават — у пэўнай ступені — смерці (згадаем аднайменную аповесць Пушкіна), «была ім несімпатычная і яны, не згаворваючыся, не дапусцілі яе ў сваю кампанію». Другі варыянт — цалкам пераключыцца з мінулага на сучаснасць. Адказ А. Паповай — у сцэне сумеснага прагляду тэлебачання. Па ўсіх праграмах ідуць перадачы пра злачынствы і войны, сваркі і плёткі. Нават у чароўнай Венецыі, пра якую марыць Бубновая дама, надараецца паводка.

У пэўнай ступені перанос гераінь у мінулае — першы крок да іх «выздараўлення». Характэрны штрых: калі ў Крыжовай дамы гіне муж, яна, 23-гадовая, «вядома, рыдала нястрымна, але забылася пра яго менш, чым праз год». І толькі ў сталым узросце адчувае сапраўдны жах той сітуацыі. Нездарма пісьменніца характарызуе маладосць галоўных гераінь як «мінулае, у якім кожны адказвае за сябе». Таму падарожжа ўспрымаецца як крок да асэнсавання гэтай адказнасці.

Але ключавым становіцца эпізод, калі гераіні вяртаюцца ў горад, а па дарозе ў іх машыну ледзь не ўразаецца МАЗ. Пасля шчаслівага выратавання яны ўязджаюць у горад з «падораным ім будучым». Але магчымасць жыць заслужаная дзякуючы пакаянню, якое прагучала як у словах, так і ў думках. Менавіта яно становіцца тым казырным тузом, які перамагае пікавую даму. Той факт, што пасля здарэння гераіні больш не сустракаюцца, сведчыць, што гульня для іх завершана (бо які сэнс гуляць на адзіноце?), а самі яны могуць перагарнуць старонкі мінулага і знайсці шчасце.

# «Хочаш, я пакажу табе кіно?»




**Алена КАРП**

Сёлета «Маладосці» споўнілася 60. Чытачы «ЛіМа» маглі сачыць за падрыхтоўкай да юбілею і прымеркаванымі да яго мерапрыемствамі. А цяпер можна яшчэ і патрымаць у руках плён гэтых перадсвяточных клопатаў — «Скрозь "Маладосць"», як абяцае падзагаловак, «не самую сумную кніжку», і юбілейны красавіцкі нумар.

Натуральна, у апошнім шмат матэрыялаў, прысвечаных гісторыі часопіса. Бадай, яны і зацікавяць чытача найбольш. Але на архівах і мемуарах спынімся крыху пазней: несправядліва будзе зусім абмінуць увагай падборку вершаў Веранікі Мандзік «На ўзмежку майго юнацтва».

Гэта даволі класічная жаночая лірыка, якая, вельмі верагодна, парадуе прыхільнікаў традыцыйнай паэзіі. Ахайнасць і чысціня вершаванага радка, роўная, без надрыву, але пяшчотная інтанацыя, небанальна пададзеныя — за кошт асабістага досведу, перажывання — даволі стандартныя формулы шчаслівага і нешчаслівага кахання — ёсць спадзяванне, што мы яшчэ пачуем імя маладой паэтэсы.

А цяпер абяцаная публіцыстычная частка. Калі б «Маладосць» была больш масавым і больш глянцавым часопісам, то матэрыял «Валянцін Ждановіч ва ўспамінах дачкі Валерыі» назвалі б бомбай. Але ў той рэальнасці, якую мы маем, не надта шырокае кола аматараў будзе задаволена паціраць рукі, здзіўляцца і ўражвацца, а аглядальнік адзначыць, што публікацыя важкая, важная і — падаецца, гэта істотна для ўспамінаў — этычная.

У цэнтры кожнай невялікай зацемкі — пэўны герой або падзея, фон да якіх стварае сама эпоха. І фон гэты настолькі выразны, што кожная нататка набывае немалы патэнцыял. «Нараджэнне», «Зялёнае паліто», «Першыя ўспаміны» з аднолькавым поспехам маглі б стаць матэрыялам для сямейнай сагі або кінасцэнарыя. Зразумела, у Валерыі Ждановіч былі іншыя задачы, але «кінематаграфічны» патэнцыял сваіх гісторый яна адчувае: «Часам даходзіла да вельмі рызыкоўных сюжэтаў…»

Між тым, гэтыя вострасюжэтныя хады не аздоба ці прынада, а чыстай вады дакументалістыка, факты і толькі факты. І датычацца яны не выключна адданага, нязменнага з 1965 па 1992 гг. супрацоўніка часопіса «Маладосць», спярша фотакарэспандэнта, пазней — рэдактара аддзела публіцыстыкі Валянціна Ждановіча, а і яго паплечнікаў, сяброў, людзей, якія працавалі на беларускую культуру. Яны жылі ў бурны, неспакойны час. Можа, гэта і правакавала іх быць таксама неспакойнымі, неабыякавымі, зрывацца з месца дзеля нейкіх праектаў, вандровак, удзельнічаць у грамадскім жыцці. Напрыклад, Вадзім Клакоцкі «ўсё жыццё па-донкіхоцку бескампрамісна змагаўся за захаванне жывой прыроды…» «Па-донкіхоцку бескампрамісна» — вельмі дакладная характарыстыка, якая пасуе ці не кожнаму герою ўспамінаў. Маці Валянціна Ждановіча падчас вайны як каштоўнасць выносіла з Мінска ў Койданава дванаццаць тамоў энцыклапедыі. Гэта складана прымерыць на наш час. Магчыма, і тады было складана, бо мусіла прыкрывацца самаіроніяй: «"Дурная Валька!" — пасмейвалася яна сама з сябе».

Хоць усялякія ўздыханні на тэму «няма таго, што раньш было» выглядаюць агульным месцам, трэба прызнацца, што гэтае светлае донкіхоцтва, моц і маральнае здароўе герояў успамінаў выклікаюць ці то шкадаванне па страчаным, ці то зайздрасць. І гэта пры тым, што чытач ні на хвіліну не забывае: перад ім жывыя людзі, якія з аднолькавай верагоднасцю могуць трапіць у камічную сітуацыю або апынуцца ў трагічных абставінах.

Успаміны каштоўныя яшчэ і тым, што Валерыя Ждановіч узнаўляе тагачасны кантэкст. І ў фокус трапляе і тое, што ў свой час замоўчвалася: «"За кадрам" хвалебных рэпартажаў засталіся апавяданні першага беларускага касманаўта пра пасляваеннае дзяцінства, перадзел Берасцейскага Палесся паміж Беларуссю, Польшчай і Украінаю… Пра тое, што з Чарнігаўскага ваеннага вучылішча лётчыкаў-выпрабавальнікаў выйшла разам з ім 200 курсантаў, а праз дванаццаць год жывых засталося пару чалавек…» Можна скласці ўяўленне і пра сацыяльныя інстытуты: пасляваенная школа, універсітэт, армія. Аўтарка абыходзіцца без глянцу, але і без аднатонных фарбаў. І гэта, падаецца, аптымальна для ўспамінаў — называць рэчы сваімі імёнамі, не маўчаць пра балючыя, складаныя пытанні і мець уласную пазіцыю.

Аздабляюць нумар і пратаколы пасяджэнняў рэдакцыйнай калегіі «Маладосці» 1963 г. Цяпер — праз 40 гадоў — нешта здаецца недарэчным, нешта — галасам здаровага сэнсу, а штосьці хочацца цытаваць без каментарыяў.



Уладзімір ВАСЬКО

## Лёс

*Я сам сабе не лепшы*
*лёс стварыў,*
*не тую "кашу"*
*зранку заварыў.*
*Я на памылках*
*коўзаўся ў жыцці,*
*не ўмеў да мэты*
*правільна ісці.*
*Ішоў я на святло —*
*трапляў у змрок.*
*Мне падстаўлялі*
*ножку незнарок.*
*А я, наіўны,*
*давяраў усім*
*і сапсаваў дарогу*
*назусім.*
*Я думаў, зло*
*абыдзе, абміне,*
*не дакранецца пальцам*
*да мяне,*
*А атрымалася наадварот.*
*Ды я шчаслівы:*
*мой жыве народ,*
*і Беларусь мая жыве,*
*жыве,*
*і конь мой пожню*
*позьнюю жуе.*

## Хадзюкі

**Хрысціне Лялько**

*Мы на свята прыехалі ў госці*
*у мясціну, дзе сосны наўкол.*
*Тут жыла, тут цвіла ў*
*маладосці*
*паэтэса Хрысціна Лялько.*

*Гэты хутар мне казкай*
*здаецца,*
*ды з чыёйсьці ўдалай рукі*
*ён у свет неабдымны*
*ўвальецца.*
*Называецца ж ён Хадзюкі.*

*Добра тут. І ўтульна, і ціха.*
*Цёплы лес. Белы сад. Дзікі мёд.*
*І Хрысціна, нібы салаўіха,*
*сустракае сонца ўзыход.*

*Хоць цяпер яна і ў сталіцы,*
*толькі цягне магнітам сюды,*
*каб на родны куток*
*памаліцца*
*і напіцца крынічнай вады.*

## На ўзгорку маладосці

*...А вось той бераг,*
*тыя Пышкі —*
*лясны прыгродзенскі*
*масіў.*
*Гляджу адсюль, як быццам*
*з вышкі,*
*на далягляд рачны*
*і сінь.*
*Тут мы студэнтамі*
*гулялі.*
*Як голас наш*
*тады звінеў!*
*Як моцна сэрцы*
*трапяталі!*
*Якім быў смех,*
*якім быў спеў!*
*Дзе вы цяпер,*
*мае сяброўкі?*
*Дзе вы, найлепшыя*
*сябры?*
*Стаю.*
*А поруч вецер*
*гонкі*
*і ўздых загадкавы*
*ў бары.*

## Пра вечнае (фантазія)

*Як адлёт жураваў,*
*развітанне з табою балюча*
*адгукнулася ў сэрцы маім*
*праз вякі.*
*Ты была для мяне*
*і травою лясною гаючай,*
*і ракой, што гайдае*
*лазы астраўкі.*
*Перажурыцца стагоддзі*
*у радасцях светлых і крыўдах,*
*пераменіцца воблік*
*зялёнай, пакутнай зямлі,-*
*будзеш ты прылятаць*
*на сваіх непараненых крылах,*
*буду я прылятаць —*
*толькі Бога аб гэтым малі.*
*Не, нішто не ўмірае!*
*Мне вечнай здаецца планета*
*і вечнымі людзі,*
*якія ступаюць па ёй,*
*і вечнаю ты,*
*і вечным каханне паэта,*
*і вечным імя дарагое тваё.*

## У непагадзь

*Бы воўк (ці толькі*
*падалося),*
*мільгнула штосьці*
*між кустоў.*
*Ах, гэта сырасць,*
*гэта восень!*
*Ах, гэта неба*
*ў сто пластоў!*
*Хачу да ніткі*
*прамокнуць.*
*Хай дождж цыбаты*
*лье і лье.*
*Эх, каб дзяўчыну*
*ў шчочку цмокнуць*
*і прасушыцца*
*ля яе.*

## У дарозе

*За полем — лес,*
*за лесам — поле.*
*Вось так ішоў бы*
*цэлы дзень.*
*Па міласэрнай*
*божай волі*
*і лашчыць сонца,*
*й цешыць цень.*
*А сэрца поўніцца*
*свабодай,*
*і я ўсяму сусвету*
*рад,*
*і кліча новай*
*асалодай*
*шырокі родны*
*далягляд.*

Фота Кастуся Дробава



Пётр СЯМІНСКІ

## Серанады зорных ветравеяў

***

*Серанады зорных ветравеяў —*
*Песні мары пра бясконцы лёс,*
*Пра цяплынь уяўнае надзеі*
*Дыялог няўрымслівых нябёс.*
*Праз ідэй нячутныя каралі*
*Ззяе сэнс таемнейшай з рулад:*
*Нашы продкі Біблію пісалі*
*Пад уплывам зорных серанад.*
*Выцякае з серанадаў зорных —*
*Быць даўжэй за эры могуць дні,*
*Трэба рваецца ў новыя прасторы,*
*Не баяцца неба глыбіні...*

***

*Мараў памкненні не ведаюць*
*краю,*
*Выбух сусвету ім — сон на зары.*
*Што фантазёрства*
*людское жадае,*
*Розуму здзейсняць калісь ваяры.*
*Стала жыццём тое,*
*што не здалося*
*Помслівай цемры*
*вандальных пустэч.*
*Свет затунельны*
*без рознагалоссяў*
*Дорыць надзею*
*бясконцых сустрэч.*
*Так замыкаецца жорсткага круга*
*Часу*
*бязлітаснасць новай зарой.*
*Зорнага ветру нясе завіруха*
*Штучных галактык ганца*
*за сабой.*

***

*Прывабны позірк небасхілу*
*Сусветаў ззяннем агнявым*
*Праз прымхаў,*
*трызненняў тэкілу*
*Надзею сэрцам нёс жывым.*
*Сярод бясконцасці няўяўнай*
*Самаабгонны караван*
*Зямных машын, ідэй, праяваў*
*Тараніць зорны акіян.*
*Маўклівай бездані прасторы*
*Асвоіць Андрамеда ход,*
*І там міргне нам не ў гуморы*
*Сусвету погляд, нібы лёд.*
*Наш розум, хай і не імгненна,*
*Да явы набліжае плынь…*
*Аб чым маўчыць так задумённа*
*Міжзорны позірк далячынь?*
*Галактык розных капітаны*
*Вітальны выстраяць парад…*
*Не будзе толькі разгаданы*
*Дрыготкі зоркавы пагляд.*

## Аксіёма

*Пачуцці, нібы аксіёмы,*
*Як зоркапад, што нёс зіму…*
*Табе я — проста незнаёмы*
*Якіхсьці трыста дзён таму.*
*Той незабыўны стрэл Амура,*
*Сустрэчы на бяду ўсяму,*
*Размовы ў стылі каламбура*
*Якіхсьці трыста дзён таму.*
*Бясконцых спрэчак перагуды:*
*Хто вінаваты і чаму*
*Не сталі дні чаканым цудам*
*Якіхсьці трыста дзён таму…*
*Каменных зрокаў захапленні*
*Сасёнак росту гордаму,*
*І думкі ўсе аб тым імгненні*
*Якіхсьці трыста… год таму.*



Ларыса МАРДАНАВА

## Кола Сансары

* * *

*Ажываю тады, калі сэрцам пішу...*
*Расчыняю вакно. І лячу ў вышыню.*
*Толькі ў гэта імгненне жыву!*

*Калі сіл не хапае, то падаю ў бруд.*
*Як падняцца з каленяў і зноўку ажыць?*
*Я заплачу, ды толькі без слёз.*

*Ці змагу я хоць штосьці? Мінаюць гады.*
*Мае вусны дранцвеюць. Няўжо ўсё дарма?*
*Ці знайду ў гэтым свеце сябе?*

*Ды не верце вы мне. Бо ўсё гэта — падман.*
*У трызненні начным толькі словаў гульня,*
*Каб сумніўную славу знайсці.*

* * *

*Пасля смерці я зноўку ў свет гэты*
*прыйшла,*
*Каб імя напісаць на пустым надмагіллі.*
*Нежывая Пустэча народзіць Жыццё,*
*Ды не стану сюды у адчаі вяртацца.*

*Тут у сценах замшэлых —*
*самота бацькоў.*
*А суседка чамусьці крыўдуе на маці.*
*Ну а ты на каленях трымаеш дзіця*
*І не ведаеш, хто з яго вырасце заўтра.*

*Сонца дыск падрумянены месяц глыне,*
*І Вышэйшыя Веды спароздзяць Спагаду.*
*Зразумець хоць бы раз ці паспею Жыццё?*
*Толькі круціцца вечнае Кола Сансары...*

* * *

*Навастрыла іржавы свой нож —*
*Хоць бы раз няхай блісне лязо!*
*Дэман ночы, душу мне ўстрывож!*
*Схамянецца адвечнае зло.*

*Гэта сталь рассячэ вашы сны...*
*І застыне крывавы ваш час*
*Ля падножжа каменнай сцяны,*
*Што даўно падзяліла ўсіх нас.*

*Без крыві іржавее Зямля.*
*Ахвярую зноў сына свайго.*
*У ім сіла і праўда мая.*
*Ды сыходу вам мала яго.*

*На памінках вы скачаце ў жар,*
*Патрабуеце новых ахвяр.*
*А я — маці — ад злосці гару,*
*Зноўку нож затупелы вастру.*

* * *

*Адлятаю я сёння у заўтрашні дзень.*
*Зразумець бы, у думках знаходжуся дзе?*
*Пад начнымі нябёсамі стынуць дарогі.*
*У свет ценяў вядуць мяне збітыя ногі.*

*Паміраю калі, нараджаюся зноў.*
*І у целе маім цяпер новая кроў.*
*Увесь свет захварэў. Гэты свет —*
*не для нас.*
*Мёртвых душ надыходзіць*
*бязлітасны час.*

*Хтосьці скажа: у гэтай дзяўчынкі бяда.*
*І хваробы не змые нябёсаў вада.*
*Ды, апроч свету цёмнага, свет ёсць другі.*
*Не кранутыя ценем густыя лугі...*

* * *

*Я чакаю, калі ж ты ўжо станеш маім.*
*Нараджаюцца сны, як над хатаю дым.*
*Бы драпежніца, п'ю тваю чорную кроў —*
*Новай сілай спатоліцца цела ізноў.*

*Ты адзін не спазнаеш у свеце таго,*
*Што мы зведаем разам. Цябе усяго*
*Не хапае ўва мне. Не здзіўляйся цяпер,*
*Адрадзіся, ўваскрэсні. І вер мне. І вер...*

*Два разы па палове — не значыць Адно.*
*Асалода жыцця, як бясконцасць кіно.*
*Толькі зрэнкі блішчаць нашых*
*стомленых воч.*
*Без мяне ты ні кроку не ступіш у ноч.*

**Пераклад з удмурцкай Рагнеда МАЛАХОЎСКАГА**

Уладзімір ЛІПСКІ

# Хутчэйнечымтак шукае маму

*Апавяданне*



Жыла ў адным звычайным горадзе звычайная дзяўчынка. Гэта яна так думала, што звычайная. А ўсе, хто яе ведаў, лічылі, што яна незвычайная.

Чаму? Ну мяркуйце самі.

Пытаюцца ў яе:

— Абедаць будзеш?

— Хутчэй не, чым так.

— Мама ў цябе ёсць?

— Хутчэй не, чым так.

— У школу ходзіш?

— Хутчэй не, чым так.

Яе і празвалі — дзяўчынка Хутчэйнечымтак. Хаця яна мела сапраўднае імя — Лізавета. Часта казала пра сябе:

— Я хутчэй Ліза, чым Вета.

І разумееце, яна паведамляла праўду, хаця сама пра гэта і не ведала. Адкуль жа ёй ведаць, што мама яе кінула, калі дзяўчынцы споўніўся ўсяго годзік. Можа, яна і была раней Лізай, пасля стала Ветай і, урэшце, — Лізаветай?

Чаму адбываецца такая блытаніна з імёнамі?

А вы самі ўявіце: людзі знаходзяць на вакзале дзяўчынку. Яна, захутаная ў пялёнкі, плача. Гаварыць не ўмее. Адкуль жа ёй ведаць, як яе раней звалі? Так з'яўляецца новае імя.

Вось і наша Лізавета — невядомка сярод выхаванцаў-сірот. Можа, сапраўды, яна Хутчэйнечымтак, а не Лізавета?

Аднойчы вось што надумала. Сабралася і пайшла шукаць сваю маму. Думаеце, яна спытала дазволу ў дырэктрысы? Хутчэй не, чым так. Думаеце, яна сказала пра гэта каму-небудзь са сваёй групы? Хутчэй не, чым так.

У адным месцы металічнай агароджы Лізавета даўно прыкмеціла дзве ўвагнутыя ў розныя бакі рэйкі. Вось у гэтую адтуліну яна і праціснулася. Як толькі апынулася на гарадской вуліцы, адразу пачала ўзірацца ў жанчын.

Вой, колькі ж іх тут!

Адны ішлі пад руку з мужчынамі. І болей нікога не прыкмячалі вакол. Другія з сумкамі і пакетамі некуды спяшаліся. Трэція рулявалі легкавушкамі. І толькі адна жанчына была заклапочаная, як бы нешта згубіла. Лізавета рашуча падышла да яе, з надзеяй спытала:

— Цёця, вы некага шукаеце?

— Ага, Лізка збегла ад мяне.

— Лізка? — ледзь не ўскрыкнула Лізавета, і сэрца яе ўскочыла ў пяткі.

— Мо бачыла яе дзе-небудзь?

Лізавета прыжмурыла адно вока, усміхнулася і загадкава прызналася:

— Хутчэй не, чым так.

— Што хітрыш, дзяўчо?.. Ты мо і заманіла маю Лізку?..

Лізавета ўсё зразумела, ёй адразу стала сумна і захацелася на грубасць адказаць грубасцю:

— Ага, я ўкрала вашу сабачку і з'ела яе.

Хутчэйнечымтак з усяе сілы пабегла па вуліцы, толькі пабліскvалі падэшвы сандалікаў, быццам па асфальце падскаквалі шэрыя вераб'і.

У страха вочы вялікія. Лізавеце здавалася, што за ёй гоняцца і цётка, і яе сабака. І яна, як толькі параўнялася з першай аркай паміж дамамі, нырнула ў гэты тунэль. Выскачыла ў зацішны двор. Тоўстыя шызыя галубы спакойна дзяўблі зярняты. Пад сонцам цешылі сваю лістоту кашлатыя ліпы. Каля пад'езда сядзеў нечы паласаты кот і драмаў. Супакоілася і Лізавета. Крочыла па вужакаватым тратуары і зноў пачала думаць пра маму: дзе яе шукаць?

Цішыню парушыў хрыплы жаночы голас:

— Куды скіравала, барышня?

Лізавета ўздрыгнула, калі зірнула ў бок лавы. На ёй сядзела Баба Яга і лупата пазірала на яе.

— Куды?.. У магазін мама паслала, — не маргнуўшы вокам адказала Лізавета.

— Дай, барышня, мне якога рубліка. Пашкадуй слабую, галодную бабу.

У Лізаветы вадзіліся свае невялікія грошы. І яна магла б сказаць хутчэй не, чым так, але, каб адвязацца ад бамжыхі, выцягнула з кішэні пяцірублёўку і падала ёй.

— Хай жа табе, барышня, пашанцуе ў магазіне, — сказала Баба Яга і яшчэ нешта мармытнула, ды Лізавета ўжо нічога не хацела чуць.

Яна паспешна кіравала да другой аркі, якая выводзіла на новую вуліцу. На ёй відне́ўся людны магазін. Туды яе цягнула магнітам. Але перад вачыма ўсё яшчэ стаяла жабрачка з хрыплым голасам.

«Мо яна і ёсць мая мама? — мільганула думка. — Але хутчэй не, чым так, бо мам, кажуць, заўсёды шкода, а гэтую — аніколечкі».

З такімі дарослымі думкамі ішла Лізавета па гарадской вуліцы. І ёй было радасна. Яна — на волі! Вакол няма агароджы. Ідзі куды вочы глядзяць, куды ногі вядуць. Нечакана нават для самой сябе пачала не крочыць, а падскокваць, як конік, то на адной назе, то на другой. Ды раптам паляцела як бы напярагонкі з матыльком, які абследаваў прытратуарную клумбу. Так неўпрыкмет яна і ўляцела ў вялізны гандлёвы пчальнік.

Па магазіне Лізавета швэндалася, як па музеі, у які некалі хадзілі сваёй групоўкай. Пазіраць на ўсё можна, а чапаць рукамі — барані божа. Ды яна і не збіралася нічога браць, хаця слінкі й цяклі, калі бачыла каробкі цукерак, тартоў, вафелек. Яна што, прыйшла сюды аглядаць пакупкі? Хутчэй не, чым так. Яна шукае маму.

Лізавета тайком узіралася ва ўсіх жанчын. І кожным разам у яе абрыўна тахкала сэрца. Во, спадабалася мама, якая выбірае дзіцячыя трусікі. Валасы ў яе гладка зачасаныя, вочы вясёлыя. Але ж каля яе ўжо круціцца дзяўчынка. І Лізавета перавяла позірк на іншую жанчыну.

За прылаўкам, дзе прадаюцца памада, духі, крэмы, стаіць таўстуха, падобная да дзетдомаўскай замшы. Позірк востры, твар строгі. У яе адна думка: каб ніхто без грошай нічога не ўзяў. «Такая мне ў мамы не падыдзе, — думае Лізавета і канчатковa прымае рашэнне. — Хутчэй не, чым так».

Доўга яна хадзіла па магазіне-музеі. На выхадзе адстаяла чаргу каля касы. І толькі пытанне касіркі вярнула яе ў рэальны побыт.

— Ты што купляеш, дзяўчынка?

Лізавета нічога не хацела купляць, але раптам, каб не выглядаць белай варонай у чарзе, выпаліла:

— Пячэнне!

— Давай праб'ю.

— А яно там, на паліцы. Я не брала, — ціха, як бы вінавата, прамовіла Лізавета.

Касірка раздражнёна крыкнула ў залу:

— Маня!.. Падай пачак пячэння!..

У чарзе ніхто не накручваў нервы. Толькі касірка буркнула:

— Другі раз прыходзь з мамай. І тавар не забывай браць…

Лізавета хацела ёй сказануць па-дзетдомаўску: «Ты свой твар не забывай мыць», але моўчкі выняла з кішэні памятыя грошы, спакойна разлічылася за пячэнне.

На вуліцу выйшла з палёгкай, як заўсёды выходзіць з душнай душавой. Не знайшла і тут маму. Дзе яна ходзіць-швэндаецца? Чаму сама не шукае дачку?

Лізавета перайшла па «зебры» вуліцу, пакіравала ў парк з фантанам, асфальтаванымі алеямі і мноствам лавак. Ёй хацелася выбраць такое месца, каб там можна было спакойна паласавацца пячэннем.

Яна ўпадабала лаўку, на якой сядзела жанчына з кнігай. Ціхенька, як мышка, прымасцілася на краёчак, зашабуршала папяровым пачкам, выцягнула адтуль пячэнінку. Схрумала адну лустачку, захацела другую. Перад тым перахапіла з клятчастай спаднічкі кавалак ласунку, укінула і яго ў рот.

— Смачна? — спытала суседка па лаўцы і так міла зірнула на Лізавету, што ў той адразу растала душа.

— Ага, — даверліва прызналася дзяўчынка і пацікавілася: — А вы пра што чытаеце?

— Пра каханне.

— О, з кахання дзеці выраджаюцца.

— Ты адкуль пра гэта ведаеш?

— Хлопцы нашы казалі.

Жанчына закрыла раман, павярнулася да малой і такой дасціпнай незнаёмкі. У яе, відаць, таксама растала душа, а вочы заіскрыліся на сонцы.

— Дзетанька, а ў цябе мама ёсць?

— Цэлых пяць, — не маргнуўшы вокам адказала Лізавета.

— Як жа іх завуць?

— Мама-нянька — Любоў Андрэеўна, мама-повар — Эма Іванаўна, мама-выхавацелька — Святлана Сяргееўна, мама-дырэктрыса — Жанна Максімаўна, а мама-замша — Ірына Мікалаеўна.

Лізавета перахапіла ўсхваляваны позірк прывабнай жанчыны, выкарыстала міг маўчання і, не чакаючы новых роспытаў, выстраліла сваімі запытаннямі:

— А вас як завуць?.. А ў вас ёсць свая дачка?..

Жанчына падсела бліжэй, дастала з сумачкі для Лізаветы шакаладку, а для сябе — белую насоўку, пачала спавядацца:

— Імя маё — Ларыса Сцяпанаўна. У мяне, Лізка, былі і муж, і дачушка. Загінулі ў дарожнай аварыі. Адна я цяпер на ўсім белым свеце…

— І я адна, — прызналася дзяўчынка, якой служаць аж пяць мам.

Жанчына, якая чытала раман пра каханне і спакойна грэлася на паркавай лаўцы, абняла Лізавету, прытуліла да сябе, і з яе душы вырвалася нечаканае прызнанне:

— Дачушка залатая, якая ж ты ўжо дарослая…

Лізавеце хутчэй хацелася, чым не хацелася сказаць самыя прыемныя словы незнаёмай цёці, але яна пакуль устрымалася. Прыгадала павучанне сваёй замшы: «Не кідайцеся на шыю першаму сустрэчнаму. Мы — вашы баявыя ратавальнікі».

Ларыса Сцяпанаўна і дзяўчынка Хутчэйнечымтак моўчкі пазіралі ў неба. Дзве светлыя аблачынкі задумліва плылі ў нейкую сваю далеч, ды нечакана пачалі збліжацца, растварацца адна ў адну. І раптам у высі ўтварылася пуховая коўдра, а на ёй нібыта сядзелі дзве шызыя галубкі. Навокал — бязмежны касмічны блакіт. Над усёй зямлёй, над усім гарадскім паркам зіхацела млявае, пяшчотнае сонца.

Эдуард КАРНІЛОВІЧ

# Акацыя расцвіла

У дзяцінстве шмат чаго здараецца, што застаецца ў памяці на ўсё жыццё. Было гэта на пяты ці шосты год пасля вайны. Вераснёўскай нядзельнай раніцай прыйшоў да нашай маці ляснік Іван Ляновіч і сказаў:

— Начальнік патрабуе, каб я сабраў мяшок насення жоўтай акацыі. Дзе мне займацца гэтай дрэбязой! Вочы ўжо не тыя. Дазволь узяць у лес тваіх хлапчукоў. Няхай сабраць дапамогуць. За кожны кілаграм — заплацім.

Прайшло тры гады, як паранеў бацька памёр. Жылі мы небагата, таму маці, якая часам збірала капейкі на запалкі, не разважала:

— Раз людзям трэба, ідзіце, дзеткі, — згадзілася яна. — Усё роўна прагалёкаеце дзень без карысці. А праца ўсякая яшчэ нікому не пашкодзіла.

Не губляючы часу, я і малодшы брат Грыша выправіліся ў дарогу. Алею высокіх акацый знайшлі за вёскай Палачанкі, дзе калісьці быў панскі маёнтак. З аднаго боку ад нас цямнеў густы яловы лес, які ўсе звалі Барсукі, а з другога раскінуўся стары панскі сад, даволі запушчаны за вайну. Пахмура сталі знявечаныя яблыні, слівы, але і цяпер занадта прыгожай здавалася паўнютная алея высокіх магутных ліп, якія мужна выстаялі і ў ліхалецце. З хваляваннем глядзелі мы на пышныя дрэвы, стараючыся хутчэй знайсці прыдатнае месца. Нарэшце, узрадаваныя, знайшлі. Пажоўклыя стручкі тут цэлымі гронкамі віселі на тонкіх галінках.

— Вось тут і збірайце, — сказаў ляснік, — а пад вечар я прыеду па вас на падводзе. Пачынайце, не лянуйцеся.

Увесь дзень мы з Грышам не адыходзілі ад кустоў, не ведаючы толкам, што трэба рабіць. Мы спрытна лазілі па акацыях, зрывалі з галінак сухія стручкі, з шамаценнем вылускваlі з іх маленькія чорныя зярняткі і сыпалі ў кансервавую бляшанку. А калі яна напаўнялася, радасна крычалі знаёмае нам «ура!» і высыпалі зерне ў мяшок. Пасля кожнай бляшанкі рукі нашы працавалі хутчэй і спрытней. А праз гадзіну-другую гэта незвычайная праца і зусім захапіла нас. Даручэнне старэйшых — гэта ж добрае спадзяванне. Мы не маглі зняславіць сябе. Падганяла і жаданне зарабіць. Мы задумалі за свае грошы купіць да дня нараджэння маці падарунак — кнігу беларускіх народных песень. Яна вельмі любіла спяваць, але спявала толькі тое, што запомніла ад сваёй маці ці ад сябровак.



Мяшок паўнеў. І мы напаўняліся прыемным пачуццём ад таго, што хутка праца будзе закончана і ў нас будуць грошы на падарунак маці. Але атрымалася зусім не так, як мы думалі, як мы хацелі.

Ляснік у той дзень прыехаў са спазненнем, маўклівы. Праўда, намі застаўся задаволены. Пакрэхваючы, клаў мяшок на падводу і ўсміхаўся:

— Малайцы! Штосьці атрымалася. Як толькі здам насенне на базу, адразу разлічуся з вамі. Дзякуй вам, хлапчукі!

Марудна прайшоў месяц, другі. Іван Ляновіч чамусьці не заходзіў да нас. Не зайшоў ён праз паўгода і праз год. А на другі — раптоўна памёр.

— Прапала наша праца, — з прыкрасцю скардзіліся мы.

— Што вы, дзеткі, не перажывайце, — супакойвала нас маці. — Праца ніколі не прападае.

У праўдзівасці яе слоў я пераканаўся пазней, ужо дарослым. Я стаў інжынерам-канструктарам, і жыццё часам кідала мяне па свеце. У многіх гарадах і вёсках бачыў я алеі прыгожых акацый. І кожны раз, быццам водгукі незабыўнага дзяцінства, у душы ўспыхвалі іскрынкі радасці. Вясной мінулага года я прыехаў у Вялікі Ноўгарад, на семінар. Прагульваючыся ля сцен старажытнага Крамля, убачыў цудоўны разгалісты куст жоўтай акацыі. Яна пышна расцвіла і выпраменьвала столькі святла, свежасці і густога мядовага водару, што нікога не пакідала абыякавым. Прыемным пахам чаравала кожнага, і над ёй з гулам віліся пчолы-працаўніцы. З замілаваннем глядзелі прахожыя на гэта лясное дзіва, асвятляючы мяне сваімі ўсмешкамі. А я, узрадаваны, стаяў ля акацыі і думаў: «А можа, мая?»

Сорамна прызнацца, думаў яшчэ і пра тое, як скардзяцца школьнікі і студэнты сваім бацькам: «Я так рыхтаваўся да заняткаў, усё вывучыў, але дарэмна — не выклікалі». Няўжо і сёння іх жывуць такімі дзівакамі?

# Берасцейскі макракосмас

Асацыяцыі, звязаныя з Брэстам, відавочныя: успаміны пра Вялікую Айчынную вайну. Яе пачатак і першая неспадзяванка для захопнікаў. Гітлераўскі план бліц-крыгу зламаўся менавіта тут. Злы рок злым сілам.

Аднак для карэнных жыхароў, беларусаў Брэст — не толькі горад-змагар. Гэта і старажытнае Бярэсце — унікальны археалагічны, адзіны ў Еўропе, музей сярэднявечнага ўсходнеславянскага горада. І Камянецкая вежа, і Белавежская пушча, пасля наведвання якой уражаныя Пахмутава і Дабранраваў стварылі песню-гімн на многія гады. І яе прыўзнялі ў паднебныя вышыні нашыя родныя «Песняры». Вось такая інтэрнацыянальная су-творчасць. У рэгіёне захаваўся той пласт культуры, зрушыць які досыць цяжка. А вось спасцігнуць — неабходна.


Фота Яўгена Пясецкага

Ускладанне кветак у Мемарыяльным комплексе «Брэсцкая крэпасць-герой».

## УВАХОДЗІНЫ

Дэлегацыя пісьменнікаў здзейсніла вандроўку ў гэты паўднёва-заходні горад у другой палове мая — чырвоным полымем адцвіталі каштаны. Насамрэч, на плошчы побач з грамадска-культурным цэнтрам і будынкам аблвыканкама свае ярка-чырвоныя свечачкі-кветкі скіравалі ў неба рэдкі для нашых краёў від каштана — чырвоны. Ён менш марозаўстойлівы, і тутэйшы цёплы клімат яму — як выратаванне.

«Брэст — горад акацый, пірамідальных таполяў і каштанаў», — падкрэсліў адну з адметнасцей абласной сталіцы намеснік старшыні аблвыканкама Леанід Цупрык, які сустракаў дэлегацыю і яшчэ ў аўтобусе пачаў знаёміць з горадам. Уезд у яго палягаў праз мікраён, які адбудаваўся за апошнія пяць гадоў. У ім жа — Свята-Васкрасенскі сабор, храм-помнік Вялікай Перамогі, пабудаваны ў 1995 годзе, — ён быў асвечаны Патрыярхам Маскоўскім і ўсяе Русі Алексіем, а на адкрыцці прысутнічаў Прэзідэнт краіны. Цяпер тут рэалізуецца праграма «Залатыя купалы» — неўзабаве храмы ўпрыгожаць залачоныя цыбулінкі. А яшчэ ў Брэсце папулярны бейсбол, шмат ёсць басейнаў, але ўсе яны загружаны напоўніцу, і паплаваць у іх бывае праблематычна: жадаючых шмат.


Фота Яўгена Пясецкага

Бронеаб'екты на тэрыторыі Мемарыяльнага комплексу, атрыманыя дзякуючы садзейнічанню генерал-лейтэнанта Мікалая Чаргінца.

## 60×40

«Задача ўлады — стварэнне трывалай эканамічнай базы, — падкрэсліў старшыня аблвыканкама Канстанцін Сумар. — Але і падтрымка творчых праектаў — у прыярытэтах улады». Валавы прадукт у вытворчасці тут вырас у параўнанні з мінулым годам на 5 працэнтаў. Гэта высокі, другі па краіне паказчык. Вобласць — аграрная. 80 працэнтаў прамысловасці працуе на ўласнай сыравіне. З таго, што вырабляецца, рэгіёну патрэбна толькі 40 працэнтаў. Астатняе — прадаецца. Стасункі ўсталяваны са 114 краінамі. Праводзяць мадэрнізацыю прамысловасці. Але Брэстчына — унікальны рэгіён, дзе актыўна падтрымліваюцца літаратурныя ініцыятывы. Яшчэ ў 2006 годзе тут была заснавана абласная літаратурная прэмія імя Уладзіміра Калесніка. Уручэнне яе адбываецца падчас свята «Лунінская восень» — яшчэ адзін значны творчы праект. Летась памер прэміі павялічылі ўдвая. Зрэшты, і стасункі з «Выдавецкім домам «Звязда» тут досыць актыўныя. Цягам апошніх гадоў былі выдадзеныя «Палеская Элегія» М. Купрэева, «Урокі першага кахання» В. Гапеева, «Белай вежы свет» В. Грышкаўца, «Нямцэвічы. Сапраўдныя гісторыі» А. Гладышчука, «Палескія былі Івана Супрунчыка» В. Лабачэўскай, «Роднае, шчымлівае» А. Крэйдзіча, «Літаратурная Берасцейшчына» В. Ляшук і Г. Снітко ды інш.

Пад вокладкай «Літаратурнай карты Берасцейшчыны» сабраныя мясцовыя творцы. У выканкаме прымаюцца заяўкі на фінансаванне кніг з бюджэту. Можна згадаць і акцыю «Брэст чытае дзецям» — карысных праектаў шмат. Так што цалкам лагічна, што вандроўкі літаратараў прывялі ў рэгіён, дзе шмат ініцыятыў творцаў ужо рэалізавана і шмат чаго плануецца на будучыню. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец уручыў Уладзіміру Сумару сувенір і медаль «За вялікі ўнёсак у літаратуру». Была ўручаная таксама срэбраная манета, выробленая да юбілею Максіма Танка, дыпломамі і Ганаровымі граматамі СПБ адзначаныя старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі СПБ А. Крэйдзіч, Л. Красеўская, З. Дудзюк. Паўсюль, дзе праходзілі сустрэчы з грамадскасцю і моладдзю — у аблвыканкаме і Баранавіцкім гарвыканкаме, ва ўніверсітэтах — уручаліся стосы кніг: з тых, што выдаюцца ў серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі», асабістых кніг творцаў. Універсітэты — Брэсцкі дзяржаўны імя А. С. Пушкіна, які мае ўстойлівыя традыцыі навучання, і малады Баранавіцкі дзяржаўны — прадаставілі свае аўдыторыі для гутарак з моладдзю. У Брэсцкай ВНУ 11 гадоў рэктарам прафесар Мечыслаў Часноўскі, які выкладае гісторыю знешняй палітыкі Беларусі і гісторыю міжнародных адносін. Універсітэт па даўняй звычцы не-не ды назаве хтосьці настаўніцкім інстытутам. І мае рацыю: і цяпер 60 працэнтаў выпускнікоў — гэта будучыя педагогі. Фармат гутаркі, якая адбылася ва ўніверсітэцкім навукова-асветніцкім цэнтры імя У. Калесніка, рэктар вызначыў коратка: «Усё гаворац госці». Што не выключала, між тым, пытанняў. У старшыні СПБ Мікалая Чаргінца пыталіся пра хрэстаматыі па беларускай літаратуры, пра ролю пісьменніка ў сучасным грамадстве, пра крыніцы натхнення і тое, калі ж для студэнтаў будзе бясплатны праезд у транспарце і якія прэферэнцыі могуць быць створаны для маладых у бліжэйшым часе. Ва ўніверсітэце, які ўмоўна падзяляецца на дзве часткі: старыя карпусы і новыя, пры дапамозе кіраўніцтва краіны створана лабараторыя-зімовы сад. Тут у мікраклімаце, неабходным для іх развіцця, растуць экзатычныя расліны і гняздуюцца самыя вялікія папугаі ў свеце — ара, дзюбы якіх лічацца найбольш моцнымі сярод пярнатых, а іх розум некаторымі спецыялістамі прыраўноўваецца да інтэлекту чатырохгадовага дзіцяці. Калі папугая доўгі час пакінуць без кантактаў, то, пакрыўджаны няўвагай, ён можа выскубці з сябе ўсё пер'е. Гаспадары ў зімовым садзе — не толькі студэнты фармацэўтычнага факультэта ды навукоўцы, а і аматары прыродазнаўчых навук, усе, хто ў вольны час пашырае кругагляд. Нават дзеткі з захапленнем бавяцца ў пясках «пустыні» — міні-секцыі, дзе прадстаўлены шматлікія віды раслін паўднёвых краін.


Фота Яўгена Пясецкага

Старшыня Баранавіцкага гарвыканкама Віктар Дзічкоўскі з кнігамі ўдзельнікаў сустрэчы.

## ГОРАД МАЛАДЫХ

Прэферэнцыі для моладзі пісьменнікі змаглі ўбачыць у Баранавіцкім універсітэце: інтэрнаты для студэнтаў больш нагадваюць двухпакаёвыя кватэры на пяць чалавек. І будынак ВНУ — здаецца, пабудаваны са шкла. Усё рацыянальна, утульна, камфортна. Прасторна і светла. Менавіта ў Баранавічах у вялікай зале ўніверсітэта адбылася камерная сустрэча-дыялог творцаў з будучымі спецыялістамі. Аказваецца, такое магчыма: спалучэнне дзелавога кірунку размовы з лірычным. Калі пасля абмеркавання сур'ёзных тэм — пра эканоміку і палітыку дзяржавы — загучалі лірычныя песні паэтаў-бардаў. З годнасцю прадстаўляў горад старшыня Баранавіцкага гарвыканкама Віктар Дзічкоўскі. У будынку выканкама — галерэя партрэтаў былых уладароў і кіраўнікоў горада, які ўзнік на скрыжаванні чыгунак. Віктар Дзічкоўскі з любоўю расказваў пра назвы мястэчак, якія раскінуліся ў ваколіцах горада альбо ўвайшлі ў яго сучасную структуру, ды звязаныя з імі найпрыгажэйшыя легенды. «Мы стараемся захоўваць гістарычныя назвы, — падкрэсліў старшыня гарвыканкама і дадаў, як зразумелае: — Чаму ж павінны быць бяспамятнымі?» Згадаў старшыня і пра адметны імідж горада, у тым ліку і ў якасці мэблевай сталіцы. Прадпрыемства «Лагуна», на якім цяпер працуе каля 1300 спецыялістаў, развівалася з нуля. «На нашых крэслах сядзяць прэзідэнты многіх краін!» — падкрэсліў Віктар Дзічкоўскі. Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі — у тым ліку. Трывалы падмурак — справа неабходная. Для таго, каб насельніцтва ведала свае правы, менавіта ў гарвыканкаме працуе грамадская юрыдычная прыёмная. Нам давялі: штогод у яе звяртаецца каля 3 тысяч наведвальнікаў. Калі б яны не знайшлі тут адказу, куды б са скаргамі завёў іх лёс?..

У горадзе дзейнічае 558-ы авіяцыйны рамонтны завод, заснаваны 26 чэрвеня 1941 года. Цяпер ён абслугоўвае амаль усе краіны СНД, устаноўлены кантакт з больш як 20 краінамі далёкага замежжа, рамантуе сучасную тэхніку, у тым ліку самалёты МІГ-29 і СУ-27. Вядомы Баранавіцкі баваўняны камбінат — з самымі сучаснымі тэхналагічнымі лініямі.


Фота Рагнеды Малахоўскага

Пачуццё палёту.

**P. S.:** А яшчэ — былі сустрэчы з жыхарамі сядзібы «Рынькаўка», прадстаўнікамі славутага СП «Санта Брэмар» і «Белалка», аглядная экскурсія па Баранавічах і знаёмства з калектывамі мастацкай самадзейнасці. Цудоўная музыка і спевы — пра родны край, сваю старонку і пра людзей. На Брэстчыне яны асабліва шчырыя і адкрытыя, адухоўленыя новымі праектамі.

Гэтымі днямі ў Брэсцкай абласной бібліятэцы імя М. Горкага сабраліся сябры з Беларусі, Украіны, Расіі і Польшчы на міжнародны «круглы стол» да 450-годдзя выдання Брэсцкай Біблії. Працяг будзе...

**Ірына ТУЛУПАВА**



*На паліцы*

# Школа радасці

**Максім СВЕТЛАБОРСКІ**

Дзевяць казак для дзяцей уключыў у сваю новую кнігу «Талісман» Ганад Чарказян. Умоўна творы можна падзяліць на дзве групы. Першая — дыдактычныя, павучальныя казкі, якія з'яўляюцца своеасаблівым духоўным тэстаментам папярэднікаў наступным пакаленням. Другую групу складаюць творы, дзе ў цэнтры ўвагі пісьменніка знаходзяцца зносіны дзяцей з жывёльным светам, з'явы прыроды.

І ў першых, і ў другіх казках Ганад Чарказян выступае тонкім, назіральным педагогам. Дабрыня, спагада, чалавечая чуласць становяцца мастацкімі крытэрыямі, з дапамогай якіх аб'ёмна, рэльефна вымалёўваюцца кампазіцыйныя пабудовы фантазій, прыдумак пісьменніка. Напрыклад, казка «Верабейчык Цік-Цілік і кот Мурлыка» — пра ката-драпежніка і яго ахвяру вераб'я. Кот Мурлыка, палюючы на вераб'ёў, адну са сваіх ахвяр не з'еў, а прынёс да сябе ў жытло. «Хацінка ў Ката Мурлыкі была не простай, а жалезнай, з маленькімі трохкутнымі дзірачкамі знізу і невялікім круглым акенцам, якое для цеплыні было заткнута анучай. Праўда, гэты дом Кот Мурлыка не сам пабудаваў, проста вынеслі з хаты старую металічную печку, кінулі за хлеўчуком, у ёй Кот Мурлыка і ўладкаваў сабе жытло.

Мяркуючы па тым, колькі ў доме было пер'я і птушыных абгрызеных косткак, жыў у ім Кот Мурлыка ўжо даўно.

І пры Верабейчыку Цік-Ціліку Кот Мурлыка не памяняў сваіх звычак: жыў дзеля поўнага задавальнення — гуляў, калі хацеў, спаў колькі хацеў, але ж самае жахлівае, кожны дзень прыносіў яму здабычу. Часцей за ўсё гэта былі вераб'і…»

Здарылася так, што Мурлыка захварэў. Верабей стаіць перад выбарам — дапамагчы кату вылечыцца ці ўцякаць падалей ад птушынага ворага. Цік-Цілік застаўся. Дапамог кату выкараскацца з хваробы. «Доўгімі гадзінамі сядзеў Цік-Цілік каля яго ложка і ўсё шчабятаў яму пра нешта».

Мурлыка вылечыўся і выправіўся. А лекарам яго стаў Верабей Цік-Цілік. Дапамаглі дабрыня, ласка.

Некалі вялікі педагог Васіль Сухамлінскі пісаў: «Ідэя дабра становіцца як быццам часцінкай тваёй сутнасці, яна непадзельная ад тваіх думак, пагляду, перакананасці. Ідэя дабра — гэта мерка, з якой ты падыходзіш да тлумачэння і ацэнкі чалавечых адносін…» У казках Ганада Чарказяна істотнае месца займае тэма змагання дабра і зла. Як, прыкладам, у казцы «Заячы "дзякуй"». Пісьменнік у розных творах спрабуе стварыць шырокі свет прыгожых зносін дзяцей з жывёламі, птушкамі. Ад фантазій і наіўных уяўленняў дзяцей пра навакольную рэчаіснасць Г. Чарказян бярэ найбольш выразныя цагліны і выбудоўвае трывалы падмурак прыгажосці, чысціні, светласці. У дзеях і памкненнях сваіх герояў. Атрымліваецца ж ізноў, як у геніяльнага педагога: «Дзеці павінны жыць у свеце прыгажосці, гульні, казкі, музыкі, малюнка, фантазіі, творчасці…»




*Чарказян, Г. Б.
Талисман: сказки для детей сред. шк. возраста / Ганад Чарказян; пер. на рус. яз. И. Бурсова и В. Липневича; худож. Галина Хинко-Янушкевич. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2013. — 80 с.*

«Вожык-мастак» — на мой погляд, твор, які дзеці павінны чытаць разам з дарослымі. А мо нават варта ўключыць яго ў праграму пазакласнага чытання. І яшчэ — каб уважліва, па пунктах, разабраць усе складнікі, калі хочаце, «светапогляду» Вожыка-мастака. Галоўны герой казкі выяўляе сябе назіральным, уважлівым да прыродных з'яў персанажам. Зусім не выпадковая і канцоўка ў казкі: «…мама Вожыка-мастака, шчаслівая, праводзячы позіркам свайго сына, падумала: «Галоўнае, што сярод мноства цяжкасцей дзеці могуць знаходзіць крупінкі прыгажосці і радасці, якія нас акружаюць… Няхай рэдкія крупінкі, але ўсё ж…»

Сапраўднай «школай радасці» з'яўляюцца казкі Ганада Чарказяна, сабраныя ў кнізе «Талісман». Дзевяць твораў, якія пераўвасоблены на рускую мову Валерыем Ліпневічам і Іванам Бурсавым (піша ж і мысліць Ганад Чарказян па-курдску), — гэта як дзевяць урокаў у «школе радасці». І першнаперш, як мне падаецца, іх трэба выкласці тым, хто толькі пачынае чытаць і пісаць. Хаця і напісана ў выходных дадзеных: «Для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту». З апошнім усё ж не магу пагадзіцца. А што да мастацкага афармлення кнігі, то над ім рупілася Галіна Хінка-Янушкевіч. Несумненна, у колеры (выдадзены зборнік у адну фарбу, з чорна-белымі ілюстрацыямі) мастацкія рашэнні таленавітага, чуйнага да слова кніжнага графіка глядзеліся б куды лепей. І ўсё ж кніга — як зместам, так і паліграфічным выкананнем — радуе. «Талісман» Ганада Чарказяна — яшчэ адно сведчанне трывалай увагі Выдавецкага дома «Звязда» да сучаснай дзіцячай літаратуры Беларусі.

*Фестываль*

# Паэзія без межаў

«Сугучча слоў жывых», Міжнародны фестываль рускай паэзіі ў Беларусі, панаваў у Брэсце. Пяты раз горад над Бугам сустракаў майстроў паэтычнага слова і юных паэтаў з усіх рэгіёнаў краіны, а таксама з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Кішынёва ды іншых гарадоў. Гэтым разам ён быў прысвечаны 1150-годдзю славянскага пісьменства.

**Валерый ГРЫШКАВЕЦ**

Ініцыятарам і арганізатарам свята па традыцыі стала Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне «Русское общество», а прайшоў фестываль пры ўдзеле Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі і пры падтрымцы Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, Генеральнага консульства Расійскай Федэрацыі ў Брэсце, Брэсцкага абласнога і гарадскога выканаўчых камітэтаў. Галоўныя руплівцы мерапрыемства — старшыня «Русского общества» Сяргей Моладаў і яго намеснік, паэтэса і творчы натхняльнік фэстаў Любоў Красеўская.

Паэтычнае слова вольна разносіцца па свеце, не прызнаючы межаў, мастацкае слова — нябачны інструмент, які адкрывае сэрцы, дазваляе глыбей спазнаваць жыццё, свет і чалавека ў свеце. Паэтычны фестываль — сход тых, для каго літаратура не проста творчасць, а цэлы свет узаемаадносін, суперажыванасцей, імкненняў і бясконцага руху наперад — насустрач жыццю.

У межах фестывалю адбыўся фінальны тур рэспубліканскага літаратурнага конкурсу маладых паэтаў «Мы народжаны дзеля натхнення» — ён праходзіў сярод маладых паэтаў Беларусі. Пераможцам міжнароднае журы фестывалю прызнала маладога паэта з Гродна Рамана Жытко, другое месца заняла Вольга Астапенка з Гомеля, трэцяе — Людміла Клачко з Мінска. «Прыз глядацкіх сімпатый» атрымала Ірына Чарняўская з Мінска, Вольга Агапонава з Гродна перамагла ў намінацыі «За лепшае чытанне свайго твора».

Ярка выступілі на фестывалі прадстаўнікі мастацкай самадзейнасці горада, творчыя калектывы Брэсцкай музычнай гімназіі № 4 і Брэсцкага дзяржаўнага каледжа чыгуначнага транспарту.

Майстры паэтычнага слова і іх маладыя калегі ўзялі ўдзел у Ночы музеяў «Майская ноч» у Брэсцкім музеі «Выратаваныя мастацкія каштоўнасці», дзе чыталі свае творы. Акрамя таго, паэты правялі творчыя сустрэчы з моладдзю горада.

# Ці лёгка намаляваць зорку?

Сталічная кнігарня «Кніжны салон» стала пляцоўкай для прэзентацыі аповесці Алега Ждана «Свята працягваецца, або Шчаня, веласіпед і гуз на лбе».

**Даніла АРЦІМОВІЧ**

Здольнасць любога творцы інтэнсіўна працаваць у розных жанрах не можа не выклікаць міжвольнага захаплення. Нагадаем, Алег Ждан досыць доўга распрацоўваў у літаратуры дзве тэмы: «жыццё рабочага, гараджаніна ў першым пакаленні, які працуе на вялікім заводзе, і быт правінцыйных гарадоў Беларусі». Нядаўна ў яго з'явіліся два гістарычныя раманы («Князь Мсціслаўскі» і «Гасударыня і епіскап»), аповесць «Геній». Цяпер пісьменнік звярнуўся да дзіцячай аўдыторыі.

Паводле прызнання аўтара, ідэя кнігі нарадзілася ў яго нечакана. Калі яго сыны вучыліся ў школе, з імі ўвесь час здараліся розныя гісторыі, якія станавіліся для бацькі сюрпрызамі. Ён запамінаў, а потым запісваў іх. А пазней, калі ў творцы з'явіліся ўнучкі, ён падумаў, што ім будуць цікавыя гісторыі з жыцця іх тат і мам.

Галоўны герой кнігі — першакласнік Андрэй Бабушкін, які лічыць сябе няўдачнікам. Аднойчы ён пераблытаў класы і трапіў замест 1 «А» у 1 «Б». Другі раз у яго знікла фарма-матроска для танца «Яблычак». Неяк у яго «ўвялі» веласіпед. Потым у Андрэя выпаў малочны зуб, з-за чаго ён моцна перажываў. Праўда, вучыцца хлопчык нядрэнна, але з-за рассеянасці можа схапіць двойку або нават кол. А. Ждан праз расповеды Андрэя тонка перадае адчуванне дзіцёнка, для якога ўчора дзень быў шчаслівым, пазаўчора — яшчэ больш, а вось сёння не шанцуе — і ўсё. Але ж герой жыве паўнавартасным, насычаным жыццём.




Мове аповесці ўласцівы гумар, а змест і вобразы адлюстроўваюць дзіцячую псіхалогію. Напрыклад, Андрэй расказвае чытачам гісторыю пра самы любімы дзень тыдня. На першым месцы — нядзеля, на другім — субота, на трэцім — пятніца і г. д. Але панядзелак вызначае наступны тыдзень. І хлопчык верыць, што калі атрымае добрую адзнаку, усе дні пройдуць цудоўна, калі дрэнную — выправіць сітуацыю можна будзе толькі ў наступны панядзелак.

Падчас прэзентацыі, у якой узялі ўдзел сталічныя школьнікі, урыўкі з кнігі чытаў як сам аўтар, так і дзеці. Пасля завяршэння імпрэзы усе жадаючыя змаглі атрымаць кнігі з аўтографам аўтара.

## Нататкі рамантычнага маркетолага



Кацярына СІМАН

# Дзённік — гэта я…

Распачынаючы чарговы артыкул, я кожны раз разумею, наколькі пакутлівая праца пісьменніка. Як складана знайсці новую тэму, калі ў папярэдняй пастаўлена ўжо кропка. Менавіта гэтыя разважанні выклікалі з'яўленне пытання: а як людзі ўвогуле пішуць? І галоўнае, навошта?

Не раз мы з вамі разважалі пра тое, што век новых тэхналогій дае магчымасць літаральна кожнаму з нас паспытаць шчасця на літаратурнай ніве. Але ці так гэта лёгка? Ці кожнаму з нас дадзены гэты талент? Нездарма ж кажуць: пісаць варта тады, калі не можаш не пісаць. Вымаўляць словы варта тады, калі яны лепшыя, чым цішыня. І пісаць варта тады, калі словы не сапсуюць белы ліст, а дапоўняць яго, нібыта праявіўшыся пад полымем вашай душы. Бо без яе не будзе Кнігі.

Пісьменніцтва — гэта мастацтва. Нават пры самай выдатнай тэхніцы і астатніх віртуозных уменнях — грош цана гісторыі, у якой няма душы, страсці, шчырасці. Як жа гэтага дасягнуць? Як улавіць тое самае дыханне жыцця, якое моцнай ніткай сшые канву вашага расповеду? Трэба проста не забывацца жыць і не спрабаваць з дапамогай мудрагелістых слоў узвысіцца над паўсядзённасцю. У ёй няма нічога кепскага. Шчасце якраз і ёсць у будзённасці, на якую глядзіш шырока расплюшчанымі вачыма — з радасцю, захапленнем і здзіўленнем.

Напэўна, таму нямала выдатных літаратурных талентаў вырасла на глебе дзённікаў. На мой погляд, такія расповеды маюць права заняць вартае месца ў шэрагу літаратурных вопытаў і стыляў. Для кагосьці такое жыццё, раскладзенае на дні і падзеі, стане асновай для стварэння гісторыі сваёй сям'і. Для іншага гэта будзе выдатны спосаб знайсці і спазнаць сябе. У адным з артыкулаў на гэтую тэму было сказана так: «Вядзенне дзённіка — гэта выключна карысны занятак <…> дзённік — гэта лепшы сябра: сам плачашся, сам сябе шкадуеш. Гэта выдатная пляцоўка для самааналізу. Дзённік — гэта я. Ён не крытыкуе, не раіць, а проста адлюстроўвае мяне такой, якая я насамрэч. Мне не так важна, што падумаюць ці скажуць пра мяне чужыя людзі, намнога важней зрабіць так, каб пазней было не сорамна перачытваць уласныя запісы пра сябе…» Пагадзіцеся, гэта не самы горшы матыватар набыць прыгожы нататнік, ручку і пачаць адкрываць сябе сабе. А там, глядзіш, і загарыцца іскра таленту новага Джэка Лондана ці Вірджыніі Вульф.

Што рабіць, калі ўласнае жыццё не такое багатае на ўражанні, як гэтага хацелася б? Часта людзям так проста падаецца. Трэба адысці далей, змяніць ракурс зроку… І вось палатно вашага жыцця становіцца ўрадлівай глебай калі не для рамана, то дакладна для яркай аповесці. Гэтае ўменне прыходзіць з досведам, з кожнай сотняй, тысячай слоў, нанізаных на кончык пяра. Таму калі жадаеце выйсці за межы асабістага дзённіка і паспрабаваць стаць літаратарам-пачаткоўцам — слухайце. Слухайце ўсё, што жыццё вам прыносіць з кожным подыхам ветру, з кожнай паўфразай, выхапленай у гомане натоўпу.

Складана паверыць, але ў Брытаніі нават існуе клуб так званых «назіральнікаў». Яго сябрамі з'яўляюцца пісьменнікі, тэлевядучыя, карэспандэнты, сцэнарысты і калумністы, якія выкарыстоўваюць пачутыя гісторыі ў якасці свежых ідэй. Свет вакол настолькі перапоўнены «зачэпкамі», што часам складана ўявіць, куды сапраўднага літаратара можа прывесці ўсяго адна фраза. Паэтэса Джо Бел неяк распавяла, што калісьці сустрэла жанчыну, якая запыталася, ці не бачыла Джо яе аловак. Гэты эпізод натхніў творцу на новае апавяданне…




# Цэнтр скарыназнаўства

**Музей-лабараторыя Францыска Скарыны, што працуе ў структуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны, не так даўно адсвяткаваў сваё 20-годдзе. Сёння ён мае значны досвед у даследаванні творчай спадчыны нашага першадрукара, гісторыі ўніверсітэта і з'яўляецца адным з найважнейшых цэнтраў культурнай і выхаваўчай работы ў ВНУ.**

Музей-лабараторыя Ф. Скарыны адкрыты ва ўрачыстай абстаноўцы 15 мая 1993 г. у сувязі з тым, што за значныя заслугі ў выкладанні, вывучэнні і навуковым даследаванні шматграннай творчай спадчыны Ф. Скарыны 29 лістапада 1988 г. Савет Міністраў БССР прысвоіў Гомельскаму ўніверсітэту імя першадрукара, асветніка і вучонага Францыска Скарыны. Першымі непасрэднымі стваральнікамі музея-лабараторыі былі тагачасны рэктар універсітэта, член-карэспандэнт НАН Беларусі, доктар фізіка-матэматычных навук прафесар Л. А. Шамяткоў, загадчык кафедры беларускай мовы, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, доктар філалагічных навук прафесар У. В. Анічэнка, прарэктар па вучэбнай рабоце, кандыдат філалагічных навук дацэнт М. М. Воінаў і аўтар гэтых радкоў.

Спадчынай Ф. Скарыны і гісторыяй універсітэта цікавяцца школьнікі і навучэнцы сярэдніх навучальных устаноў, студэнты ВНУ Гомеля і вобласці, вучоныя і грамадскія дзеячы з розных гарадоў Беларусі. У свой час наведалі і працягваюць наведваць музей-лабараторыю прадстаўнікі многіх краін: Вялікабрытаніі, Бельгіі, Германіі, Даніі, ЗША, Італіі, Казахстана, Канады, Кітая, Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Францыі і Швецыі.

Тут, у экспазіцыі музея-лабараторыі, прадстаўлены творы беларускага выяўленчага мастацтва пра Францыска Скарыну, а таксама навуковая і мастацкая літаратура, копіі або арыгіналы соцень скарыназнаўчых артыкулаў, у тым ліку санет Алеся Салаўя «Францішак Скарына» (1948, Аўстрыя), артыкулы з «Касцёльнай энцыклапедыі» (1902, Польшча), публікацыі гісторыка П. Крачэўскага (1926, Прага), мікрафільмы дзвюх кніг Сімяона Полацкага, першай у свеце навуковай манаграфіі па творчасці першадрукара — кнігі П. У. Уладзімірава «Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданні і мова» (1888), мастацкія і дакументальныя фільмы пра Ф. Скарыну і яго час, матэрыялы пра Кірылу Тураўскага і Міколу Гусоўскага, скарынаўскія партрэты мастакоў П. Сергіевіча, Л. Шчамялёва, М. Басалыгі, А. Цыркунова, М. Байрачнага, творы скульптараў А. Глебава, Ю. Платонава, Э. Астаф'ева. Да найбольш каштоўных мастацкіх экспанатаў музея-лабараторыі адносіцца жывапіснае манументальнае палатно Пятра Сергіевіча «Скарына ў друкарні».

Падчас падрыхтоўкі да 80-гадовага юбілею ўніверсітэта, які адзначаўся ў 2010 г., музей-лабараторыя Ф. Скарыны папоўніўся яшчэ адной экспазіцыяй «Развіццё ГДУ імя Ф. Скарыны». Тут прадстаўлены копіі і арыгіналы фотаздымкаў, дакументаў, дыпломаў і грамат, сувеніры, значкі, узнагародныя і памятныя медалі, асабістыя рэчы найбольш знакамітых выкладчыкаў і выпускнікоў.

За 20-годдзе навуковай і даследчай дзейнасці ў падраздзяленні праведзена вялікая работа па перакладзе твораў Ф. Скарыны на сучасную беларускую мову, сабрана мноства скарыназнаўчых матэрыялаў, літаратуры, ксеракопій, выразак з газет, складзены вялікія алфавітныя і тэматычныя бібліяграфіі па скарыназнаўстве, сабрана ўся паэзія пра Ф. Скарыну да 2000 г. Кіраўніцтвам і супрацоўнікамі музея-лабараторыі праводзіцца значная навукова-даследчая работа. Адзін з арганізатараў музея-лабараторыі доктар філалагічных навук прафесар У. В. Анічэнка (1924 — 2001) за стварэнне скарыназнаўчай школы ў Гомельскім універсітэце, поспехі ў вывучэнні і даследаванні мовазнаўчай Скарыніяны ў 1988 г. быў удастоены Дзяржаўнай прэміі БССР. Яго самай буйной скарыназнаўчай працай з'яўляецца трохтомны «Слоўнік мовы Скарыны». Цяпер куратар музея-лабараторыі — прарэктар па выхаваўчай рабоце, кандыдат філалагічных навук дацэнт С. І. Ханеня. Адной з праблем яго даследаванняў з'яўляецца літаратурны аспект творчай спадчыны Ф. Скарыны.

Музей-лабараторыя Ф. Скарыны падтрымлівае пастаянныя творчыя сувязі з Полацкім музеем беларускага кнігадрукавання, Інстытутам славяназнаўства РАН, Інстытутам Адама Міцкевіча ў Варшаве, грамадскім аб'яднаннем «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў», Беларускім інстытутам навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.

**Канстанцін УСОВІЧ,**
**загадчык музея-лабараторыі Ф. Скарыны**

## На паліцы

# Жывое слова з мінулага

**Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў Калінкавіцкага дзяржаўнага краязнаўчага музея пачынаючы з мая 2006 года свет убачыла больш як дзесяць выпускаў краязнаўчага бюлетэня «Калінкавіцкі летапіс», у якім расказваецца пра гісторыка-культурную спадчыну гэтага рэгіёна. Стварыць падобнае выданне было вырашана падчас падрыхтоўкі да 450-годдзя Калінкавіч (юбілей святкавалі у кастрычніку 2010 г.).**

Уладзімір ЛЯКІН

Канцэпцыю запазычылі ў краязнаўцаў Браслаўшчыны і супрацоўнікаў Навагрудскай цэнтральнай раённай бібліятэкі, якія выпускаюць бюлетэні «Павет» і «Жывая даўніна» адпаведна. Калінкавіцкія даследчыкі паставілі сабе задачу: давесці да ўсіх, хто цікавіцца сваім мінулым, раней не вядомыя гістарычныя матэрыялы. Была і пэўная мэта: напісаць да юбілею горада яго цэласную гісторыю, якой тады яшчэ не існавала.

Праўда, падобныя спробы прадпрымаліся ўжо двойчы. У 1966 годзе па ініцыятыве мясцовых улад у раённай газеце «За камунізм» апублікавалі распрацаваную і зацверджаную праграму складання гісторыі калінкавіцкай зямлі. Аднак праца не была завершана і фактычна звялася да змяшчэння ў райгазеце некалькіх артыкулаў. Адзіны і прыкметны поспех той праграмы — выяўленне ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве БССР «рэвізскай казкі» (матэрыялаў перапісу) Рэчыцкага павета Менскай губерні з дадзенымі па мястэчку Каленковічы (сённяшнія Калінкавічы). Дата складання гэтага дакумента — 1793 год — і была прынята як час заснавання паселішча.

У другі раз да складання калінкавіцкай гісторыі звярнуліся ў 90-я гады мінулага стагоддзя пры падрыхтоўцы да выдання гісторыка-дакументальнай хронікі «Памяць. Калінкавіцкі раён». У Нацыянальным архіве Беларусі быў выяўлены дакумент-хроніка, які дазволіў перанесці дату ўзнікнення Калінкавіч з 1793 на 1560 год. У гэтым рарытэце ўпершыню згадваліся некаторыя ўладальнікі паселішча, мясцовы праваслаўны храм і школа пры ім, былі падрабязна апісаны падзеі Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, мірнага будаўніцтва. Разам з тым дарэвалюцыйны перыяд гісторыі ўласна Калінкавіч застаўся амаль не асветленым, а некаторыя аднесеныя да гэтага часу падзеі (напрыклад, стварэнне чыгуначнай станцыі і чыгуначнага вузла) былі датаваны няправільна.

За апошнія сем гадоў нявялікім тыражом, з рознай перыядычнасцю было выпушчана дзесяць нумароў бюлетэня. Першы ўбачыў свет у маі 2006 года і ўключаў у сябе пяць артыкулаў пад рознымі рубрыкамі. Наступныя выдаваліся ўжо без рубрык і прысвячаліся пэўным тэмам.

Праз год выйшаў другі бюлетэнь, увага яго была скіравана на помнік гісторыі і архітэктуры: комплекс былога калегіюма езуітаў у вёсцы Юровічы Калінкавіцкага раёна.

Дарэчы, пасля выпуску шостага бюлетэня па хадайніцтве мясцовага Савета ветэранаў пры райвыканкаме была створана працоўная група па ўвекавечанні на Мемарыяле герояў, узведзеным на цэнтральнай плошчы горада, імёнаў загінуўшых у гады вайны калінкавічан. Матэрыялы выдання пастаянна друкаваліся на старонках раённай газеты «Калінкавіцкія навіны». Асобныя артыкулы публікаваліся ў газетах «Рэспубліка», «7 дней», «Гомельская праўда», часопісе «Нёман» і інш. У краязнаўчы музей паступіў шэраг водгукаў і падзяк чытачоў бюлетэня з Беларусі і з-за мяжы. Праца стваральнікаў «Калінкавіцкага летапісу» была адзначаная Ганаровай граматай Упраўлення па ўвекавечанні памяці абаронцаў Айчыны і ахвяр войнаў Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь і Ганаровай граматай Калінкавіцкага раённага Савета дэпутатаў.

У ліпені 2012 года ўбачыў свет ужо бюлетэнь № 10, прысвечаны жыццю і творчасці выхадца з Калінкавіч, вядомага ў пачатку 30-х гадоў мінулага стагоддзя беларускага паэта Зміцера Віталінава (псеўданім), а пасля ваеннага празаіка Дзмітрыя Сергіевіча (1912 — 2004). У гэтым нумары прыведзены ўрыўкі з яго твораў, у якіх аўтар распавядае пра Калінкавічы і жыхароў горада.

Цяпер рыхтуецца чарговы, адзінаццаты, нумар, прысвечаны ваеннаму дзённіку кіраўніка калінкавіцкай антыфашысцкай маладзёжнай арганізацыі «Смугнар» Канстанціна Ярмілава (1925 — 1942).

На мой погляд, гэтае краязнаўчае выданне зрабіла прыкметны ўнёсак у складанне цэласнай гісторыі нашага горада, раскрыла нямала забытых старонак, садзейнічала фарміраванню гістарычнай памяці мясцовых жыхароў.

# Элементарная эстетика

Французское слово alimentaire, известное нам несколько в другом звучании, значит «первичный», «необходимый» и употребляется, как правило, в отношении продуктов, которые мы покупаем каждый день. Они необходимы не только как основа меню, но и как основа нашей жизнедеятельности. Иначе говоря, одной икрой-устрицами сыт не будешь. Современная кухня всё чаще отдаёт предпочтение «элементарным» продуктам — впрочем, преподнося их необычайно разнообразно, стильно и аппетитно.

## МОДА НА ГРИЛЬ

*La grille* — «решётка» — старейшее и простейшее приспособление для приготовления пищи. Еда получается вкусной,




сочной и ароматной — шашлыки, стейки из мяса, рыбы или овощей с хрустящей корочкой. Кто откажется полакомиться ими — и дома, и на природе?

Все знают, что жареное — вредно. Существует множество уловок, чтобы нейтрализовать этот вред при обычном приготовлении блюд на сковороде (а уж сковород-то развелось!). Гриль-блюда по сравнению с обычными жареными совершенно безопасны и, что немаловажно для многих, гораздо менее калорийны, так как гриль-технология требует минимума жиров.

Искусство жарки на гриле несложно. Освоить его предлагают составители книги **«Электрогриль» (серия «Техника на кухне»)**. Оказывается, на гриле можно готовить не только банальные колбаски и даже всегда желанные шашлыки, но и бургеры, теплые салаты и десерты. Шашлык, впрочем, можно сделать не только из мяса, но также из рыбы, печёнки и овощей. Такие незамысловатые «приправы», как мёд или фисташки, создадут совершенно неповторимый вкус лёгких и полезных блюд, а из приправ традиционных понадобятся только перец, кинза, тмин, кунжут, чеснок. Стоит ли напоминать, что всё это ещё и очень красиво, причём — само по себе!

## МУЛЬТИ-, А УМЕЕТ ВСЁ




Поистине, современное человечество стремится к простоте — и ещё бы ему не стремиться! Слишком много энергии отнимает существование в целом, чтобы отдавать кухне столько сил, сколько, скажем, прежние домохозяйки. Да и остались ли домохозяйки в прежнем смысле слова? Женщины, работающие на дому, — да; но разве будут они часами стоять на кухне? Разве имеет время (и желание!) на такую, с позволения сказать, роскошь женщина в декретном отпуске? Пожилая дама на пенсии? «Хозяйственный» мужчина? Подросток, предоставленный самому себе до возвращения родителей с работы (а он тоже хотел бы покушать хорошо)?..

Всем этим и многим другим категориям желающих хорошо (практично, полезно и вкусно) питаться, стоит приобрести мультиварку и с ней соответствующую брошюру **«Мультиварка»** из той же серии, что и выше. Она позволяет варить, припускать и жарить, тушить и запекать, варить и готовить на пару, жарить просто и «на гриле». Рецепты предлагаются несложные, но весьма аппетитные: лосось с молодым картофелем, мясное суфле, гуляш из индейки с лечо — первые три наугад выбранные позиции. Разумеется, представлены и первые блюда, и, конечно, десерты. Пожалуй, и мне без мультиварки не обойтись.

## КУЛИНАРНЫЕ ШЕДЕВРЫ «ИЗ ТОПОРА»

Именно так готовили в советское время. В магазинах не было «ничего», а столы на




праздники ломились от яств. Как не вспомнить эти застолья и не оценить заново всю любимых с детства праздничных и повседневных блюд? **«Хиты советской кухни» (серия «С пылу, с жару»)** дают эту возможность. Кто устоит, чтобы не приготовить полузабытые (а зря: ведь полезные и натуральные!) вкусности: салат «Мимоза», холодец, грибную икру, печёночный торт, вермишелевую запеканку с творогом, настоящие борщи и щи («Московский» и «Петровские»), фрикадельки, окрошку, правильный плов... и много чего ещё. Ах да: и макароны по-флотски! «Хворост»! Котлеты по-киевски!

Что характерно: как и сказки-легенды-сказания-мифы, старые рецепты существенно «мутируют». Это к тому, что, если вы и не изменяли советской кухне, на вашем столе она приняла уже далеко не советское (а какое угодно другое — скажем, современное буржуазное) исполнение и, главное, наполнение. Так, из салата «Под шубой» давно исчезли яблоки, из салата с печенью трески — зелёный горошек, курица из «Оливье» давно уступила место колбасе-ветчине. Право, стоит вернуть «брендам» их оригинальность!

## НЕ «МАЙСКИМ» ЕДИНЫМ

Конечно, «с пылу, с жару», прежде всего, бывает хлеб. **«Ароматный хлеб по-домашнему»**, освоенный вами и вашей хлебопечью (или духовкой), —




то, что позволит не зависеть от работы хлебозаводов, близлежащих магазинов и даже от вроде бы продвинутых частных пекарен — если вы покупаете хлеб из такой, скорее всего, он вам уже приелся, сколь бы ни разнообразен был там ассортимент.

Думаете, сложно научиться самим печь хлеб, замешивать тесто? Не более, чем заместить блины, — а это уж каждый может! И тогда — захотели хлеб «белый» — поставили пшеничный на йогурте, захотели «серый» — завели гречневый, или чесночный с орехами и травами, или на пиве с горчицей. А может, вы хотите оранжевый хлеб? Можно: тыквенный, итальянский с базиликом, морковный с фенхелем. Жёлтенький — луковый с сыром. Ну, а может, вам захотелось... торта, но никак нельзя в преддверии пляжного сезона? Тогда угостите себя «Праздничным» хлебом на вине и оливковом масле, с орехами, окороком, сыром, маслинами и майораном. Не сладко?! Белый с цукатами подойдёт? Банановый с манго? С розмарином и изюмом? Одним словом, берите инициативу в свои руки и помните: в умеренном количестве хлеб можно и нужно всегда!

Если вошли во вкус, то наверняка озаботитесь «фундаментальным» знанием о хлебе. Тогда для вас — нечто вроде «хлебной энциклопедии»: **«Домашний хлеб: 100 лучших рецептов со всего света»**. Как и когда испекли первый хлеб? Как готовить хлеб разными способами? Как готовить традиционный хлеб разных стран — французский, испанский, индийский, финский, ирландский, швейцарский, сицилийский стромболи с моцареллой и пармезаном (естественно, с пряностями),




марокканский мелуи — тоже пряный — из манно-пшеничной крупы с пряностями, еврейскую халу, хачапури — несть им числа, этим «хлебным» вкусностям! Булочки, кстати, — тоже «хлеб». Пироги, караваи, куличи и кексы, опять-таки всех стран и народов, тоже просятся в нашу духовку и на наш стол. Есть что испечь и есть о чём помечтать.

## ИСПАНСКИЙ КОЛОРИТ

Кулинарный путеводитель по Испании — так можно определить жанр книги **«О-ла! Блюда испанской кухни» (серия «Кухни народов мира»)**. «Блюда» — нечто вроде приложения к этому шикарному изданию с бесчисленными видами итальянских городов и городков, а также фотозарисовками на тему «Как, где и что они едят». И если вы собираетесь даже не в Испанию, а в любую южную страну, вам будет интересно узнать о привычках питания. Если всё же планируете побывать именно в Испании, стоит узнать об истории её самых знаменитых блюд (как, например, олья подрида) и, конечно, узнать, что они собой представляют, чтобы в тамошних ресторанах-кафе не задавать некомпетентных вопросов («А это из чего?») и не заказать, часом, несовместимые блюда и напитки.

Конечно, вы слышали о богатстве и разнообразии испанской кухни. Это не случайно: она вобрала в себя традиции самых разных и очень отдалённых друг от друга кулинарий. У истоков её стояли итальянские легионеры-завоеватели, отчасти сгладившие свою историческую вину тем, что завезли в Испанию чеснок и оливковое масло, без которых теперь там не обходится почти ни одно блюдо. Затем вторглись арабские завоеватели — они привили испанскому рациону рис, шпинат, баклажаны, арбузы, персики, лимоны, мандарины и, главное, — миндаль. А потом испанцы сами стали завоевателями и «вывезли» из Нового Света помидоры, картофель, перец чили, паприку и шоколад. В XVIII столетии испанцы воспылали любовью к французской кухне и многое заимствовали из неё. В этой эклектике оригинальным был и остаётся стиль питания: спокойно-неторопливый, подразумевающий в приготовлении и приёме пищи эстетический акт, своеобразное пище- и жизнетворчество.

Не случайно открывает книгу «тапас» — не просто традиционные лёгкие закуски, но символ образа жизни. Распространённое развлечение испанцев — неспешное передвижение из бара в бар, где они выпивают по бокалу вина или пива, заедая фирменной закуской-тапас. В каждом баре она своя. Её подают немного, но она очень красива и питательна. Съев в течение дня 3-4 порции, вы не адски голодны к позднему ужину, когда спадает жара и испанцы садятся за стол «по-настоящему». Помимо того, что «тапасная» практика красива, она ещё и мудра:




есть нужно понемногу и часто! А прибавьте неотделимый от такого «режима» общительный образ жизни...

Издательство «Харвест» выпустило еще ряд книг той же серии, посвящённых грузинской, узбекской, татарской и башкирской, армянской, индийской, китайской, итальянской кухням.

**Анна СКОЛЬЦОВА**

# Нават калі вы не любіце оперу...




**«Шаляпін супраць Эйфелевай вежы» — хіба прамінеш кнігу з такой забаўляльнаю назвай! А пагартаўшы, ужо не захочаш выпускаць яе з рук. Паглыбіўшыся ў чытанне, пашкадуеш толькі пра вымушаны перапынак, бо аднаго вечара будзе замала, каб, не адрываючыся ад 500-старонкавага фаліянта, наталіцца захапляльным, густым ад фактаў, жывых думак і грунтоўных высноў расповедам пра Фёдара Шаляпіна. І ўрэшце зразумееш: у тваёй хатняй бібліятэцы з'явілася ўнікальная настольная кніга!**

Магутная і неадназначная натура, сусветна прызнаны геній, рэфарматар опернага тэатра, «найвялікшы сярод вялікіх» рускі спявак, акцёр, які да ўсяго меў яркі талент — маляваць... Кнігу пра яго напісаў знакаміты сербскі бас Браніслаў Яціч, вядомы і мінскай публіцы. Аўтар манаграфіі марыў, што калі-небудзь яна пабачыць свет у перакладзе на родную мову Шаляпіна. Ды сталася так, што не ў Расіі, а ў Беларусі ўпершыню з'явілася рускамоўнае выданне гэтай салідная кнігі.

«Шаляпін супраць Эйфелевай вежы» (пераклад з сербскай Наталлі Вагапавай; навуковы рэдактар Уладзіслаў Іваноў; музычны кансультант Канстанцін Костыраў) — сумесны праект Беларускага саюза музычных дзеячаў і выдавецтва «Чатыры чвэрці», прымеркаваны да 140-годдзя з дня нараджэння Фёдара Шаляпіна, якое адзначаецца сёлета. У нас увага да яго асобы адмысловая: гісторыкі даводзяць, што Фёдар Іванавіч прыязджаў некалі з канцэртамі ў Мінск ды Магілёў, даследаванне «шаляпінскага следу» ў Беларусі працягваецца. А пад патранатам БСМД створана Шаляпінскае таварыства Беларусі, якое ўзначальвае наш славуты оперны бас Алег Мельнікаў — лаўрэат І прэміі Першага ўсесаюзнага конкурсу імя Ф. Шаляпіна ў Казані.

Прэзентацыя выдання адбылася ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Беларусі падчас музычнага вечара «Прынашэнне Фёдару Шаляпіну». Камерная зала імя Ларысы Александроўскай паядноўвала і захопленых феноменам незабытага сусветнага куміра, і аматараў жывых класічных спеваў. У канцэртнай праграме, якую вёў і каменціраваў знаны дзеяч айчыннай опернай сцэны Віктар Скорабагатаў, бралі ўдзел вядучыя майстры тэатра ды іх маладзейшыя калегі Уладзімір Пятроў, Алег Мельнікаў, Ганна Гур'ева, Таццяна Кнутовіч, Аляксей Мікуцель, Дзмітрый Трафімук, «чалавек-аркестр» — канцэртмайстар Георгій Карант. І найшаноўны госць — Браніслаў Яціч.

Колькі слоў пра яго. Нарадзіўся ў 1956 годзе ў горадзе Новi-Сад у тэатральнай сям'і. Паступіўшы пасля заканчэння гімназіі на філасофскі факультэт Новісадскага ўніверсітэта на кафедру рускай мовы і літаратуры, пачаў, у якасці хобі, займацца спевамі ў музычным вучылішчы. Калі педагогі адкрылі ў ім задаткі опернага спевака, таленавіты студэнт пачаў удасканальвацца ў Бялградзе, затым у Акадэміі мастацтваў у Новi-Садзе, у Расіі (Маскоўская кансерваторыя). Стаўшы салістам, а ў 1989 годзе і прэм'ерам опернай трупы Сербскага нацыянальнага тэатра ў Новi-Садзе, Б. Яціч пры стварэнні сцэнічных вобразаў натхняўся прыкладам легендарнага рускага баса. Сёння ў рэпертуары Б. Яціча каля 70 оперных партый, а таксама басовыя партыі ў вакальна-сімфанічных творах, рамансы. Ён выступаў на оперных сцэнах многіх еўрапейскіх сталіц. Актыўна канцэртуе, працуе ў журы міжнародных конкурсаў. Вядомы як аўтар і ўдзельнік праекта «Славянскія басы», як пісьменнік і перакладчык.

Што ж натхніла паспяховага майстра напісаць кнігу, якая разбурае павярхоўныя і стэрэатыпныя ўяўленні пра Шаляпіна, яго мастацкі свет, пра оперную творчасць наогул? Падчас вечарыны-прэзентацыі Б. Яціч расказаў:


*Аўтограф ад Браніслава Яціча.*

— З маладых гадоў я пачаў займацца Шаляпіным, заўважыўшы, што было ў оперы да яго і што змянілася пасля. Збіраў матэрыялы (напісана багата артыкулаў і кніг, з іх дзве — самога Шаляпіна). Але высветліў, што цэласнай біяграфіі няма. На аснове аўтабіяграфіі ды ліставання паспрабаваў узнавіць яго жыццяпіс папулярнай мовай, каб зразумела і цікава было ўсім, тым нават, хто не ходзіць у оперу. Сам Шаляпін заўважыў, што сістэма мае сэнс для гульні ў рулетку, але для оперы яна непрыдатная. Ды ўсё ж такі нейкая сістэма існавала і ў яго: прынамсі, у методыцы падыходу да ролі, у вызначэнні адрозненняў ад мастацтва драматычнага артыста, у размежаванні часу драматычнага і часу музычнага... Мая кніга, магчыма, — найперш для спевакоў, для іншых спецыялістаў опернага жанру, але рэкамендую яе ўсім аматарам гэтага мастацтва, хто наведвае спектаклі, любіць пранікаць у «тэатральны час». У маім рэпертуары ёсць творы, якія выконваў Шаляпін. Я заўсёды імкнуўся яго пастулаты «пераплаўляць» у свае спевы; яго думкі, эстэтычныя і этычныя погляды засвоіць і ніколі не здраджваць таму шляху, па якім ішоў Шаляпін і які нам паказаў.

А вось на што звярнула ўвагу кіраўнік выдавецкага праекта, дырэктар выдавецтва «Чатыры чвэрці», член праўлення Беларускага саюза музычных дзеячаў Ліліяна Анцух:

— Назаву тры прычыны, з-за якіх у выдавецтве «Чатыры чвэрці» ўзяліся за гэты праект. Першая: тэма кнігі абсалютна адпавядае нашай выдавецкай палітыцы. Другая: калі азнаёмілася з рукапісам, убачыла ўнікальную кнігу, бліскучы бестселер. Трэцяя: цудоўныя саюзнікі — Шаляпінскае таварыства Беларусі і яго лідар Алег Мельнікаў, Беларускі саюз музычных дзеячаў і першы намеснік яго старшыні Наталля Вітчанка... Ды і сам Браніслаў Яціч, які толькі аднойчы завітаў у наша выдавецтва і пакінуў рукапіс, а потым уключыўся ў інтэнсіўную творчую перапіску... Мы думалі пра чытача: ахвяраваўшы ілюстрацыямі, клапаціліся пра тое, каб зрабіць кошт новага выдання максімальна даступным для кожнага, каго яно зацікавіць. А зацікавіцца не толькі тыя, хто спявае, але ўсе неабыякавыя да добрых змястоўных кніг, і ў многіх дамах манаграфія «Шаляпін супраць Эйфелевай вежы» стане прыемным штодзённым чытаннем. Для нашага ж выдавецтва гэта «вястун» будучай шыкоўнай кнігі, у скураным пераплёце, іншага фармату, багата ілюстраванай... Такое магчыма.

Эталонам для некалькіх пакаленняў зрабілася мастацтва Ф. Шаляпіна. Чаму? Разважаючы над гэтым, Б. Яціч і стварыў незвычайную мастацка-дакументальную кнігу, дзе закранае розныя аспекты жыцця і творчасці генія, «знутры» сваёй прафесіі даследуе яе таямніцу. Пад вокладкай — чатыры буйныя часткі: «Жыццёвы шлях», «Легенда і рэальнасць», «Супраць Эйфелевай вежы», «Ф. І. Шаляпін: мастацкі метад». Мноства падраздзелаў інтрыгуе ўжо самімі назвамі: «Гісторыя любові да тэатра», «Фізічнае аблічча», «Самакантроль спевака», «Мышачны самакантроль», «Праблема натхнення», «Вызваленне ад уласнага "я"», «Грым і сцэнічная дэталь»... Арыгінальны аўтарскі тэкст, забяспечаны спасылкамі на першакрыніцы, уключае элементы трапнай кампіляцыі, дыялогі, запазычаныя з шаляпінскай аўтабіяграфіі. Пісьменнік дапускае дасціпныя літаратурныя прыдумкі, сінтэзуючы, напрыклад, радкі з лістоў са сваім творчым уяўленнем. Дапаўняючы аповед і выказванні сучаснікаў героя кнігі — сведкаў яго няўдач і трыумфу, пікантных і нават анекдатычных сітуацый. Перад чытачом раскрываецца трагізм «праметэеўскай адзіноты» Шаляпіна, яго абгрунтаваная перакананасць у тым, што праблемы опернага мастацтва, як і мастацтва наогул, адлюстроўваюць агульны стан сучаснай цывілізацыі; яго пратэст супраць рынкавых стасункаў у мастацтве і трывожнае прадчуванне згубнай ідэалогіі спажывецкага грамадства і камерцыялізацыі ўсіх сфер жыцця...

У прэзентацыі кнігі Браніслава Яціча ўзялі ўдзел госці з Расійскай Федэрацыі: старшыня тамтэйшага Шаляпінскага таварыства, прадстаўнік Міжнароднага саюза музычных дзеячаў Юрый Цімафееў (Масква) і Святлана Сямікаленава, звязаная навуковым супрацоўніцтвам са славутымі маскоўскімі музеямі — тэатральным імя А. Бахрушына ды музычным імя М. Глінкі. Яны перадалі беларускім калегам расійскія выданні, прымеркаваныя да 140-годдзя Ф. Шаляпіна.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

## *Унікальны праект*

# Фундамент нацыі

**Сёлета Выдавецтвам Беларускага Экзархата сумесна з шэрагам паплечнікаў быў рэалізаваны сапраўды ўнікальны праект — факсімільнае ўзнаўленне Полацкага Евангелля канца XII — пачатку XIII ст. Каб прадставіць само выданне шырокай публіцы і прыгадаць асноўныя моманты працы над факсіміле, за «круглым сталом» у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі сабраліся амаль усе ўдзельнікі праекта.**


*Факсімільнае ўзнаўленне Полацкага Евангелля канца XII — пачатку XIII ст.*

— Полацкае Евангелле нездарма называюць першакнігай беларускага народа. Можа быць, гэта не самы старажытны помнік пісьменства на нашых землях, але ён захаваўся амаль цэласна ў параўнанні з больш раннім Тураўскім Евангеллем. Больш за тое, і моўны аналіз, і гісторыя гэтай кнігі дазваляюць звязваць яе з беларускім культурным кантэкстам, — адзначыў намеснік дырэктара на навуцы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша. — Праект па падрыхтоўцы факсімільнага ўзнаўлення гэтага помніка беларускай кніжнай культуры рэалізоўваўся на працягу больш як пяці гадоў. Работа праходзіла ў цесным узаемадзеянні адразу некалькіх арганізацый: ідэйным рухавіком было Выдавецтва Беларускага Экзархата, навуковую падтрымку аказвала Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Расійская нацыянальная бібліятэка, Расійская дзяржаўная бібліятэка ад пачатку таксама актыўна ўключыліся ў гэты працэс.

І вось праект рэалізаваны. Але яго прадстаўленне ў НББ стала толькі першым важным крокам, бо асноўныя прэзентацыі яшчэ наперадзе — яны адбудуцца падчас святкавання 1025-годдзя хрышчэння Русі.

Пра адметнасці працы над кнігай распавёў выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата Уладзімір Грозаў:

— Перш чым было праведзена скановане арыгінала з дапамогай высакаякаснай сертыфікаванай апаратуры, сам асобнік Евангелля быў адрэстаўраваны. Каб узнавіць культуру тагачаснай вытворчасці кнігі, амаль два гады нашы рамеснікі праходзілі навучанне ў Празе, у самым вялікім музеі кнігі ў Еўропе. Над сканіраваннем Полацкага Евангелля, што сёння захоўваецца ў прыватнай калекцыі ў Лондане, працаваў адзін з лепшых беларускіх фотамастакоў Георгій Ліхтаровіч. Падрыхтоўка тыражу выдання будзе скончана толькі ў наступным годзе, бо кожны асобнік гэтай унікальнай кнігі вырабляецца ўручную. Адметна і тое, што ўсе ўласцівасці старажытнага пергамента, на якім напісаны рукапіс, захаваны ў факсіміле.

За кожным асобнікам факсімільнага ўзнаўлення Полацкага Евангелля — праца многіх сотняў людзей. Як падкрэсліў Уладзімір Усеваладавіч, гэты праект задумваўся і рэалізоўваўся не з мэтай здзівіць шырокую грамадскасць, не для таго, каб кніга захоўвалася проста ў музеі. Выданне рыхтавалася перш за ўсё для моладзі: каб паказаць, што гэтая кніга — аснова, фундамент нашага пазіцыянавання ў свеце.

Таму надзвычай прыемна, што Полацкае Евангелле не ляжыць пад шклом, не хаваецца. Не трэба баяцца яго гартаць, бо трываласць у вырабе кнігі, закладзеная яшчэ нашымі продкамі, дазваляе многім людзям не чытаць, перагортваць старонкі, трымаць у руках. А гэта добрая магчымасць адчуць гонар за сваіх продкаў, за нашу культуру.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Звязаныя паясамі

Сапраўдным святам нашай нацыянальнай культуры можна лічыць выстаўку Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі «Партрэты ўладароў і магнатаў Вялікага Княства Літоўскага», «Слуцкія паясы». Экспазіцыя складаецца са збору Львоўскага гістарычнага і Валынскага краязнаўчага музеяў. Істотна, што вышэйзгаданыя ўстановы разам з НММ РБ шчыльна супрацоўнічаюць, імкнуцца захаваць агульныя гісторыка-культурныя набыткі. Дакрануцца да духоўнай спадчыны беларускага і ўкраінскага народаў можна да 26 жніўня.

## ПАРТРЭТЫ ЎЛАДАРОЎ І МАГНАТАЎ ВКЛ

З-за складаных умоў XX ст. на тэрыторыі цяперашняй Беларусі захавалася вельмі мала гістарычных помнікаў і твораў старажытнага мастацтва, у прыватнасці — партрэтаў мінулых стагоддзяў. Яшчэ ў пачатку мінулага стагоддзя многія беларускія рэзідэнцыі мелі «галерэі продкаў», якія зніклі падчас дзвюх сусветных войнаў і рэвалюцыі 1917 года. Асобныя партрэты захаваліся ў музеях Беларусі і суседніх краін, як гэта адбылося са зборамі Радзівілаў.

Нацыянальны мастацкі музей Рэспублікі Беларусь пастаянна вядзе работу па пошуку і экспанаванні мастацкіх і гістарычных каштоўнасцей, якія маюць дачыненне да беларускай гісторыі, але знаходзяцца за мяжой. Калі ў 2012 годзе ў Літоўскім мастацкім музеі (Вільнюс) з вялікім поспехам прайшла выстаўка «Партрэты Вялікіх князёў літоўскіх і вяльможаў Вялікага Княства Літоўскага з украінскіх музеяў», у кіраўніцтва музея ўзнікла натуральнае жаданне паказаць яе ў Мінску. Бо менавіта ў эпоху ВКЛ склалася тэрыторыя цяперашняй Рэспублікі Беларусь, сфарміраваліся беларуская мова, пісьменства і кнігадрукаванне, культурныя традыцыі, выдатная архітэктура (дастаткова прыгадаць замкі ў Міры і Нясвіжы), дасягнула росквіту самабытнае мастацтва — іканапіс, культавая скульптура, гравюра, партрэт.

Для выстаўкі прадаставілі творы найбуйнейшыя і найстарэйшыя музеі Львова: Гістарычны музей і Нацыянальная галерэя мастацтваў, якія захавалі зборы яшчэ XIX — пачатку XX ст., а таксама Валынскі краязнаўчы музей, заснаваны ў 1928 г. Значная частка партрэтаў прадстаўляе вышэйшых дзеячаў Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага ў XIV — XVIII стст., звязаных з беларускімі землямі не толькі дзяржаўнымі справамі, але і важнымі падзеямі асабістага жыцця. Напрыклад, Уладзіслаў Ягайла абвянчаўся з Соф'яй Гальшанскай у Навагрудку, Стэфан Баторый пабудаваў каралеўскую рэзідэнцыю ў Гродне і меў намер перанесці сюды з Кракава сталіцу Рэчы Паспалітай. Уладзіслаў Ваза ў свой час наведваў Нясвіж, Ружаны і Жыровічы. Пакланіцца цудадзейнаму Жыровіцкаму абразу прыязджаў Ян Сабескі з сынам. З магнацкіх родаў на выстаўцы найбольш шырока прадстаўлены Радзівілы. Прычым, восем партрэтаў паходзяць з палаца ў Альцы на Валыні. Варта звярнуць увагу на шэраг твораў з серыі, якая знаходзілася ў маёнтку Радзівілаў (Мараўскіх) — Завушша (каля Нясвіжа), пэндзля мастака Канстанціна Александровіча.



*Ягайла. XIX ст. Мастак Міхал Гадлеўскі.*

Наведвальнікаў, бясспрэчна, зацікавяць партрэты красунь Барбары Радзівіл, Элеаноры Марыі Аўстрыйскай, жонкі караля Яна III Марыі Казіміры Сабескай і іншых пекных паненак. Дапаўняюць экспазіцыю украінскіх твораў дзесяць партрэтаў са збору Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Сярод іх — партрэт Уршулі Мнішак з роду Замойскіх работы мастака К. Александровіча. Побач дэманструецца партрэт яе сваяка Яна Караля Мнішака са збору Львоўскай нацыянальнай галерэі мастацтваў.

## СЛУЦКІЯ ПАЯСЫ

Слуцкія паясы прызнаныя ва ўсім свеце нацыянальнай рэліквіяй беларускага народа як унікальны від ручнога ткацтва і сімвал самавызначэння нацыі. Шэдэўры ствараліся з сярэдзіны XVIII да першай паловы XIX ст. на мясцовых мануфактурах, самай вядомай з якіх была Слуцкая.

На выстаўцы прадстаўлены 4 паясы розных мануфактур канца XVIII — пачатку XIX ст. са збору Львоўскага гістарычнага музея.

Паясы былі важнай часткай мужчынскага касцюма, сімвалам улады і багацця яго ўладальніка, суправаджалі чалавека ў розных жыццёвых сітуацыях. Прадстаўленыя на выстаўцы партрэты беларускай шляхты XVIII — XIX стст. даюць уяўленне пра ролю і значнасць пояса ў нацыянальным касцюме.

Самай вядомай у Рэчы Паспалітай была мануфактура графаў Патоцкіх у Станіславе (цяпер г. Івана-Франкоўск, Украіна). У Нясвіжы выраблялі «персідскія» або «стамбульскія» паясы па ўсходніх узорах. Высокі ўзровень майстэрства беларускіх ткачоў у Слуцку дапамог князю Міхаілу Казіміру Радзівілу вызначыцца з асноўным месцам вытворчасці паясоў. У 1758 г. ён запрасіў са Станіслава ткача Яна Маджарскага для працы спачатку на Нясвіжскай, а пасля — на Слуцкай мануфактуры. Майстар родам са Стамбула перанёс у Рэч Паспалітую ўсходнюю традыцыю вырабу шаўковых паясоў і навучыў свайму рамяству мясцовых ткачоў. Сярэднік упрыгожваўся папярочнымі палосамі з раслінным або геаметрычным арнаментам. Выявы на канцах паясоў выконваліся ў выглядзе стылізаваных букетаў кветак. Пояс упрыгожваўся махрамі, на аблямоўцы змяшчалі ткацкую марку з імем майстра («Ян Мажарски», «Лео Мажарски») або месцам вытворчасці («Слуцкъ», «Въ грдъ Слуцкъ»). З 1781 па 1801 год мануфактуру арандуе сын Яна Маджарскага Лявон Маджарскі. Ён развіў і ўдасканаліў дэкаратыўнае і колеравае рашэнне паясоў, пасняхова прадоўжыў іх вытворчасць.

Яшчэ ў перыяд росквіту вытворчасці з'явіліся фабрыкі, якія выпускалі паясы па ўзорах, распрацаваных у Слуцку, у прыватнасці ў Кракаве (Польшча).

На выстаўцы прадстаўлены два паясы слуцкай мануфактуры перыяду Лявона Маджарскага з пазнакамі «Въ грдъ Слуцкъ». У арнаментыцы канцоў выкарыстаны раслінныя матывы ў выглядзе стылізаваных кветкавых букетаў, полкі затканыя сярэбранымі і залатымі ніткамі. Адзін пояс выкананы на фабрыцы Францішка Маслоўскага ў Кракаве, пра што сведчыць пазнака на рагу пояса. Яго дэкаратыўнае афармленне адпавядае традыцыям слуцкай мануфактуры. У мастацкіх адносінах пояс прытрымліваецца ўзораў усходніх і слуцкіх. Чацвёрты пояс не мае сігнатур, але выкананы па лепшых узорах твораў Л. Маджарскага.

Можна не сумнявацца, што выстаўка стане выдатнай падзеяй у культурным жыцці не толькі Мінска, але і ўсёй краіны. Нагадаўшы пра агульнае мінулае, яна паслужыць умацаванню сувязей беларусаў з украінцамі, літоўцамі, палякамі.

**Таццяна ШЫМУК**

# Канфлікт чорнага і белага

З нагоды правядзення Дзён культуры Літвы ў Беларусі Нацыянальны мастацкі музей сумесна з Літоўскім мастацкім музеем прадстаўляе выстаўку графічных твораў народнага мастака Літоўскай ССР, графіка-наватара Стасіса Красаўскаса.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

Стасіс Красаўскас — незвычайная таленавітая асоба з яркім выяўленым індывідуальным мастацкім почыркам, па якім можна лёгка пазнаць яго творы. Вытокамі пластыкі графіка лічыцца мастацтва Рэнесансу і ўласцівае яму разуменне гармоніі, можна знайсці сувязь і з малюнкамі на грэчаскіх вазах. Мастаку яшчэ не споўнілася і трыццаці, калі ён стаў адным з вядучых графікаў Літвы. Пражыўшы кароткае жыццё (памёр, не дасягнуўшы 48 гадоў), ён пакінуў глыбокі след не толькі ў нацыянальным мастацтве, але і заявіў пра сябе далёка за межамі Літвы.

С. Красаўскас працаваў у розных тэхніках (ксілаграфія, літаграфія, лінагравюра, афорт), ствараючы самастойныя станковыя гравюры, а таксама шматлікія ілюстрацыі да літаратурных твораў. Лепшым яго працам уласцівы метафарычнасць, лаканізм і экспрэсія белых ліній на чорным фоне (цыкл «Акно» (1968), серыя «Рух» (1971), «Імкненне» (1972) і інш.).

Да найбольш вядомых твораў С. Красаўскаса належыць прадстаўленая ў экспазіцыі аўтацынкаграфія «Юнацтва» (1962), выкарыстаная ў якасці эмблемы часопіса «Юность», які выдаваўся ў СССР. Гэта работа адлюстравана і на надмагіллі мастака.

У галіне кніжнай графікі С. Красаўскас працаваў найбольш плённа. Асабліва гэта датычыць паэтычных твораў. Прадстаўленыя ў экспазіцыі ілюстрацыі да «Санетаў» Уільяма Шэкспіра (1967) — вельмі выразныя, музычныя, рытмічныя. У іх С. Красаўскас знайшоў крыніцу і падставу для шырокіх разважанняў пра свет, пра чалавека, для вольнага лунання фантазіі.



С. Красаўскас адмовіўся ад звычайнай сюжэтнай штодзённасці, іншы раз нават літаратурных персанажаў смела замяняў новымі лірычнымі героямі, якія існуюць у складанай узаемасувязі з паэтычным тэкстам, з'яўляюцца носьбітамі пачуццяў і думак, абуджаных літаратурай.

Мастак лічыў, што графіка — гэта канфлікт і паядынак чорнага і белага колераў: «Мяне больш за ўсё захапляе сам канфлікт. Яго рашэнне патрабуе філасофскага мыслення. Апынуўшыся ў гэтым уяўным свеце, пачынаеш думаць канкрэтнымі вобразамі. І ўсю тэматычную і шматколерную разнастайнасць нашага быцця трэба перадаць скупымі сродкамі — толькі чорным і белым».

У 1973 — 1975 гг. С. Красаўскас стварыў, мабыць, самую знакамітую сваю серыю — цыкл эстампаў «Вечна жывыя», частка якога прадстаўлена ў экспазіцыі. У аснову цыкла пакладзены сюжэт фрэскі невядомага нямецкага мастака на фасадзе кірхі ў Зеленаполлі (Калінінградская вобласць). У гэтай серыі, створанай мастаком незадоўга да смерці, вобразы вельмі абагульненыя, прыўзнятыя над канкрэтна-зямным іх значэннем, у іх прысутнічае бязмежная вера ў перамогу жыцця над смерцю.

# Уключайце ўяўленне!

Адкрыццё персанальнай выстаўкі «Чалавек» беларускага мастака-абстракцыяніста Аляксандра Забаўчыка, якому днямі споўнілася 55 гадоў, адбылося ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

— Назва выстаўкі — «Чалавек» — сімвалічная, — адзначыла дырэктар музея Наталля Шаранговіч. — Прадстаўленыя карціны адлюстроўваюць не столькі самога чалавека, колькі яго ўнутраны свет. Мастак фантазіраваў, хацеў нешта паказаць, але на самай справе ў наведвальнікаў ёсць магчымасць, гледзячы на гэтыя працы, пафантазіраваць самім. Тут нічога не навязваецца, наадварот, даецца магчымасць любому, хто глядзіць на гэтыя працы, адчуць свет вакол сябе і ўнутры сябе. У экспазіцыю ўвайшло больш як 40 жывапісных работ за апошнія пяць год: «Каін і Авель», «Начны лес», «Цягнік», «Каляды», «Венера», «Афелія», «Гамлет», таксама карціны «Галактыка» і «Караедафільм» з серыі «Дыялогі з караедамі» і інш.

У своеасаблівым маніфесце да выстаўкі Аляксандр Забаўчык заклікае: «Выкарыстоўваючы найстаражытныя мовы Зямлі — сляды, пакінутыя караедамі на дрэве, або малюнкі каралаў у моры, замяніць штучнасць у мастацтве на натуральнасць — успомніць пра ўяўленне». Мастак кажа пра тое, што людзі страцілі здольнасць глядзець унутр сябе і пераадольваць паўсядзённую руціну, пражываючы тыя ці іншыя жыццёвыя з'явы праз уяўленне, інтуітыўна схопліваючы і счытваючы простыя і мудрагелістыя мастацкія тэксты.

Абстрактная манера выканання пакідае гледачу вялікі прастор для асацыяцый. Так, у малочна-шэрай смузе на палатне «Вершнік» (2012) абрысы галоўнага персанажа ледзь адрозныя, таму сюжэт дамалёўвае ўяўленне гледача. На выкананай у барвовых і чорных тонах карціне «Асірыс» (2010), названай у гонар егіпецкага бога замагільнага свету, уважлівы назіральнік зможа адрозніць звярыную і чалавечую маскі, якія плаўна перацякаюць адна ў адну. Цікавая манера выканання «Аўтапартрэта» (2009) мастака: абрысы галавы і твару добра праглядаюцца праз сумесь чорнага, белага і шэрага колераў.

Жывапіс Аляксандра Забаўчыка на мяжы абстракцыі і фігуратыўнасці ўмоўна праводзіць сэнсавы водападзел паміж адбіткам рэальнага і інтэрпрэтацыяй гэтага рэальнага. Таму ў гледача, які прыйшоў на выстаўку, ёсць магчымасць скласці і перажыць сваю прыватную, асобасную трактоўку прадстаўленых палотнаў, стаць люстэркам рэальнасці, змадэляванай мастаком.

Выстаўка будзе працаваць да 8 чэрвеня.

**Таццяна ШЫМУК**

# Рэкі Аляксандра Гарцуева


Фота з сайта www.news.tut.by

Аляксандр Гарцуеў.

## ПАЧАТАК

«Усякі пачатак — цяжкі», — сцвярджае старажытны мудрэц...

Сапраўды, бярэшся за новую справу — і аж вочы заплюшчваюцца ад страху. Але ж трэба, трэба — вочы баяцца, а рукі ўжо нешта робяць.

Аляксандр Гарцуеў больш як тры дзесяцігоддзі адпрацаваў у тэатры імя Янкі Купалы. Спачатку акцёрам, потым рэжысёрам. Больш у яго жыцці тэатраў не было. Ён меркаваў, што і закончыць свой працоўны шлях на 1-й сцэне Беларусі. Тым больш што там было ўсё — родзічы (жонка і дачка па сённяшні дзень паспяхова працуюць у тэатры), успаміны маладосці і перамогі. Самая яркая з іх — спектакль «Не мой», які атрымаў пяць «Паўлінак» (наш айчынны «Оскар» — найвышэйшы прыз у галіне сцэнічнага мастацтва) на Першай нацыянальнай тэатральнай прэміі. Тады спектакль атрымаў узнагароды за лепшую жаночую ролю (Святлана Анікей), лепшую работу мастака-пастаноўшчыка, за сцэнаграфію і касцюмы (Барыс Герлаван і Алена Ігруша), лепшае музычнае афармленне (Алег Хадоска), за лепшую беларускую пастаноўку — Алена Калюнова і Аляксандр Гарцуеў. І, у рэшце рэшт, «Не мой» падзяліў з операй «Набука» Дж. Вердзі званне найлепшага спектакля нацыянальнага агляду 2011 г.

Артысты ўразілі сваёй дакладнасцю, самаадданасцю і пераканаўчым у абставінах (напрыклад, сам характар паводзін нямецкага салдата не толькі ў партызанскім асяроддзі, але і ў пасляваенным жыцці ў сталінскі час). Уразіла і выканаўца ролі маці Паліны — Т. Міронава. Яна як бы сцвярджае самую сутнасць беларускага этнасу: фантастычная прыстасаванасць да немагчымых умоў жыцця, ні з чым не параўнальная мяккасць, глыбінная сувязь з каранямі.

І галоўная прычына — Аляксандр Гарцуеў. Рэжысёр, які знаходзіцца ў росквіце прафесійных магчымасцей. Таму «Не мой» — паказчык не толькі этапнага спектакля, але і манеры, своеасаблівага почырку творцы, які на нашых вачах зрабіўся майстрам. Дарэчы, калі не так даўно ў прыватнай гутарцы я спытаў рэжысёра, якія тры спектаклі ён сам лічыць найбольш удалымі, ён назваў «Не мой», «Людзі на балоце», «Івона». Да іх мы яшчэ вернемся, а пакуль першая пастаноўка ў новым калектыве, куды А. Гарцуеў прыйшоў мастацкім кіраўніком, — «Тры Жызэлі» Андрэя Курэйчыка.

## ЖЫЦЦЁ ФРАНЦУЗСКАЕ І БЕЛАРУСКАЕ

Драма А. Курэйчыка «Тры Жызэлі» была адзначана прэміяй на конкурсе «Еўразія» ў 2004 г. і неўзабаве пастаўлена ў Новым драматычным тэатры рэжысёрам Аляксандрам Гарцуевым. Той спектакль пакінуў адчуванне размытасці, недакладнасці, былі вялікія прэтэнзіі да выканаўцаў. Ды і сама гісторыя падалася доўгай і крыху штучнай: цяжка было супаставіць французскае жыццё да Другой сусветнай вайны і існаванне людзей у савецкім калгасе пасля Вялікай Айчыннай.

І вось новая пастаноўка. Цяпер у Рэспубліканскім тэатры Беларускай драматургіі. Усё тая ж драматычная гісторыя і той самы рэжысёр-пастаноўшчык Аляксандр Гарцуеў. Дзеля чаго мастак вяртаецца да твора, чаму ў яго з'яўляецца жаданне «ўвайсці другі раз у тую ж раку». Можа, думка пра тое, што ў папярэднім вопыце не ўсё атрымалася (у гэтым сэнсе рэжысёр тэатра мае значную перавагу перад рэжысёрам кіно, які не можа нічога змяніць у сваім творы)? А можа, гэта выдатная магчымасць пазнаёміцца з творчым патэнцыялам акцёраў тэатра, які ён узначаліў як мастацкі кіраўнік?

Тэатральная гісторыя развіваецца ў трох рэчышчах. Мастак-пастаноўшчык Андрэй Меранкоў падзяляе сцэну на тры часткі. Бліжэйшая да гледачоў (уключаючы авансцэну) аддадзена «быццёвай прасторы», дзе віруе жыццё Жызэлі «вясенняй». Сярэдзіна сцэны застаецца для дзеяння Жызэлі «летняй». А на самым версе сцэны мы бачым Жызэль «асеннюю» і яе асяроддзе.

Спектакль, трэба прызнаць, не зусім дасканалы. Аднак ён мае не толькі тэатральную выразнасць, але і пэўны ўзровень мастацкага абагульнення. Зразумела, у тым ракурсе дакладнасці, у якім пабудаваны спектаклі А. Гарцуева, у «Трох Жызэлях» прысутнічае часам пэўная прыблізнасць. Яна абумоўлена, перш за ўсё, драматургічным матэрыялам.

Найбольш уражвае частка французская. Пры тым, што дыялогі падаюцца штучнымі, тым не менш лінія Жызэль (артыстка В. Буслаева) — Франсуа (І. Ясінскі) дастаткова цікавая. Як і паводзіны бацькі Жызэлі — Луі (К. Воранаў), які дэманструе разумны тэмперамент — характэрную рысу французскага менталітэту. Безумоўна, цалкам перадаць атмасферу французскага жыцця (тым больш на фоне сусветнай вайны) не ўдаецца — не хапае псіхалагічнай дакладнасці. І толькі эпізод з гібеллю жаніха Жызэлі кранае гледачоў сваёй непасрэднасцю і ўздымае ход спектакля на агульначалавечы ўзровень. На самым версе сцэнічнай прасторы мы сустракаемся з Жызэллю «асенняй», з жыццём людзей у савецкі час. Беларуская вёска падаецца рэжысёрам буйным планам. Аднак гераіня Таццяны Мархель і здалёк не нагадвае француженку. Гэта нашая, да апошняй кроплі крыві, беларуская вясковая жанчына. І таму рвецца повязь сюжэтнага дзеяння.

...Найбольшую вышыню спектакль знаходзіць вакол Жызэлі «летняй». Што і казаць, асабліва пасля спектакляў «Жанчыны Бергмана» і «Сонечка», амаль кожны спектакль з удзелам Л. Сідаркевіч ператвараецца ў тэатральную падзею.


Фота з сайта www.dverifest.livejournal.com

Сцэна са спектакля «Тры Жызэлі».

## ПРЫНЦЭСА БУРГУНДСКАЯ. ПРОБНЫ КАМЕНЬ

«Адаптацыяй» іншаземнай структуры ў наш айчынны «тэатр перажывання» стаў спектакль «Івона, прынцэса Бургундская», пастаўлены А. Гарцуевым па складанай п'есе Вітольда Гамбровіча. Вытанчаная абсурдысцкая драма з элементамі спецыфічнага «гамбровічаўскага» постмадэрну з аднаго боку і наша школа псіхалагічнага тэатра — з другога. Здавалася, уся ідэя ад пачатку была асуджана на няўдачу. Але рэжысёр змог тонка распрацаваць процістаянне: каралеўскі двор як цэнтр разбэшчанасці, дэгуманізацыі і крохкая, кволая Івона, уся постаць якой заклікае да чалавечнасці.


Фота з сайта www.belactors.info

Сцэна са спектакля «Івона, прынцэса Бургундская».

Пры ўсёй няроўнасці гэтага спектакля, пры пэўнай недакладнасці асобных дэталяў, пры крытычным стаўленні да асобных акцёрскіх работ трэба аб'ектыўна адзначыць, што А. Гарцуеў змог прадэманстраваць своеасаблівы рэжысёрскі почырк і замацаваў дасягненні псіхалагічнага тэатра, арганізаванага былым кіраўніком РТБД Валерыем Анісенкам.

Інакш як можна трактаваць напружаную цішыню ў зале і гарачыя водгукі гледачоў?

## «БЕЛАРУСКАСЦЬ» НА ТЭАТРАЛЬНАЙ СЦЭНЕ

За ХХ стагоддзе драма Янкі Купалы «Раскіданае гняздо» стала сімвалам айчыннага тэатра. Лепшыя пастаноўкі твора, пачынаючы з ажыццёўленай Першым таварыствам беларускай драмы і камедыі на чале з Ф. Ждановічам (1917) і заканчваючы дзвюма пастаноўкамі Б. Луцэнкі (1970-х і 1990-х гадоў), сталі вехамі айчыннага сцэнічнага мастацтва.

Але «Раскіданае гняздо» — твор загадкавы і таямнічы. Гэта не проста драма — гэта паэма, напісаная з эпічным размахам. Паэтычны пачатак вельмі цяжка перадаецца на сцэне, эпічнасць вымагае шырыні светапогляду і ментальнасці. Усё гэта патрабуе ад рэжысёра павышанага разумення «беларускасці», адчування глыбіні ўспрымання свету.

І вось — «Раскіданае гняздо» ў РТБД. Спектакль адразу бярэ гледачоў у палон напружанасцю дзеі, моцным сутыкненнем непрымірымых супярэчнасцей. У цэнтры спаконвечная беларуская каштоўнасць — зямля і барацьба за яе паміж панскім палацам і мужыцкай хатай.

Трагедыя сям'і Зяблікаў нават не ў тым, што пан выкідае іх з хаты, а ў гвалтоўным разлучэнні з іх «зямелькай», з якой «зжыўся, як з роднай маткай. Кожны каменьчык на полі і кожны кусцік на сенажаці змалку ўжо знаў, як сваіх пяць пальцаў на руцэ».

Напачатку спектакль насцярожвае сталага тэатральнага гледача: пасярод сучасных кардонных дэкарацый (мастак-пастаноўшчык Ігар Анісенка) з'яўляюцца героі ў сучасных касцюмах — няўжо гэта купалаўскае, пазначанае 100-гадовай пячаткай? Так, менавіта купалаўскае, глыбіннае, беларускае. Скрозь знешнюю сучаснасць (рэжысёр сцвярджае, што месца дзеяння — сельгаспасёлак на ўскраіне Мінска) праглядаецца тое векапомнае, спаконвечнае.

У першым акце мы сустракаемся з напалам жарсцяў, якія закручваюцца вакол Лявона. Марыля ў выкананні Л. Сідаркевіч — тонкая, чулая — адчувае ўсе хістанні пачуццяў мужа і дзяцей. Асабліва моцна актрыса выглядае ў той момант, калі імкнецца згуртаваць малых і выпраўляецца з торбай на плячах за Старцам у свет, незнаёмы, страшны... Вельмі цікавы і Старац у выкананні С. Шымко. Мяккі, спачувальны, дакладна беларускі. Але найвышэйшае дасягненне спектакля ў вобразах непрымірымых працаўнікоў — Сымона (М. Брагінец) і Паніча (Д. Паршын). Першы — стойкі і адважны, гатовы да барацьбы за праўду і спадчыну. Другі — элегантны, «высакалобы» і ўпарты, такі ж няўмольны ў сваіх дзеяннях.

На жаль, іншым персанажам не хапае дакладнасці. У Зосьцы (Н. Халадовіч) ніяк не спалучаюцца «меланхалічнасць» і існаванне ў сям'і Зяблікаў, Данілку (І. Ясінскі) бракуе летуценнасці. Незнаёмы (Д. Варанцоў) паўстае ў спектаклі крымінальнай істотай, што выглядае дзіўна і незразумела.

Спрэчны фінал спектакля можна трактаваць як папрок рэжысёру. Усё ж Купала так спадзяваўся на Вялікі народны сход. А сучасная крымінальная канцоўка не надта пераконвае ў мастацкім плане.

...Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі перажыў ужо некалькі этапаў свайго развіцця. І кожная спіраль, кожны спектакль з філасофскага пункту гледжання — значныя. У гэтым нас пераконвае сённяшняя іх творчая сумесная перамога.

Напачатку...

**Вадзім САЛЕЕЎ,**
**доктар філасофскіх навук,**
**тэатральны крытык**

# «Дзяды»: рэінкарНАЦЫЯ




«Тэатр Ч» створаны Андрэем Чорным у 2013 годзе. «Дзяды» — першая пастаноўка тэатра.

Аўтарам ідэі паставіць спектакль па творы Адама Міцкевіча з'яўляецца акцёр Юрый Жыгамонт.

Дзеля таго, каб лепей зразумець самога Адама Міцкевіча і яго паэму, уся трупа наведалася ў родныя мясціны паэта — Навагрудак і Завоссе.

Рамунэ Кудзманайтэ адзначыла надзвычайную адкрытасць і чуйнасць беларускіх выканаўцаў. «Мы разумелі адно аднаго з паўслова. Цяпер у мяне ёсць ідэі, увасобіць якія я хацела б менавіта з беларускімі акцёрамі».

Падчас працы над спектаклем трупу суправаджалі пастаянныя містычныя знакі. Напрыклад, спадарыня Рамунэ і прадзюсар Андрэй Чорны аднойчы знайшлі на вуліцы гадзіннік, стрэлкі якога спыніліся на 12.00. Нагадаем, што Густаў у першай дзеі чакаў, калі праб'е дванаццаць.

## ПЕРШАЯ І ДРУГАЯ

Мы не будзем гаварыць пра значнасць спектакля «Дзяды», пастаўленага літоўскім рэжысёрам Рамунэ Кудзманайтэ паводле аднайменнай паэмы Адама Міцкевіча. На тое знойдуцца ахвочыя. Перамываць косткі акцёрам таксама не збіраемся. Тым больш што і патрэбы такой няма. Зорны склад «Дзядоў» — Раман Падаляка, Юлія Кадушкевіч, Святлана Анікей, Сяргей Краўчанка, Алесь Малчанаў ды іншыя — выканаў сваю задачу: мурашы па скуры бегалі, дых пераймала, слёзы крыўды за «народ, беларускі народ» наварочваліся.

Мы будзем гаварыць пра рэжысёрскія знаходкі, а менавіта — сімвалы, якія і надаюць глыбіні традыцыйнай па сутнасці пастаноўцы.

Дзве дзеі спектакля вельмі моцна розняцца між сабой, што, зрэшты, абумоўлена і арыгінальным тэкстам. Першая — вечар на Дзяды, падчас якога мы сустракаем Густава, галоўнага героя. І ўжо тут чалавек, ласы да загадак, ашалее ад радасці. Другая дзея менш глыбокая сэнсава, але мацнейшая па гучанні. Кажучы метафарычна, першая дзея — гэта студня з вадою, бяздонная, цёмная і прыцягальная, другая ж — вогнішча, што шугае высока ў неба і апякае кожнага, хто сядзіць ля яго (чытай: у зале). Самы ж гарачы момант — маналог Конрада (персанаж-«рэінкарнацыя» Густава) у выкананні Рамана Падалякі. Як ведаеце, у Адама Міцкевіча паэт Конрад, знясілены гнеўным зваротам да Бога, страчвае прытомнасць і знаходзіцца ледзьве не на мяжы жыцця і смерці. У пэўны момант ты пачынаеш верыць, што акцёр сапраўды вось-вось упадзе ў транс — і спектакль спыняць на самым цікавым месцы. Цікава было б пабачыць спадара Рамана ў ролі Гамлета.

Дададмо яшчэ, што другая дзея спрэс публіцыстычная. Поўная дэкламацый пра волю чалавека, яго годнасць, непрымірымасць з рабствам і тыраніяй (згадайце гісторыю: маладых філаматаў-філарэтаў судзяць, таленавітую моладзь ссылаюць у Сібір, многія гінуць нізавошта). Гледачы некалькі разоў прыпынялі спектакль авацыямі.

Так, другая дзея ўплывае на эмоцыі гледача. Першая ж — неацэнны скарб для роздуму. І справа тут нават не ў афарыстычных выслоўях Адам Міцкевіча кшталту «хто не быў ніколі чалавекам, чалавек таму не дапаможа», але ў рэжысёрскіх знаходках.

## ЧАМУ ЛЮДЗІ НЕ ЛЁТАЮЦЬ, ЯК ПТУШКІ

Сяляне і духі, якіх яны выклікалі на Дзяды, час ад часу «ператвараюцца» ў птушак: у рухах, у гукавым суправаджэнні, у элементах вопраткі. І часцей за ўсё мы чуем і «бачым» галубоў, якія трывала атаясамліваюцца з воляй, дабрынёй, чысцінёй, бяскрыўднасцю, безабароннасцю. Адным словам, архетыпічны вобраз беларуса.

Аднак часам чулася і курыная квахтанне.

## ГЛЫБОКІЯ ВОДЫ

Увесь час (гаворым пра першую дзею) на сцэне знаходзяцца дзве ступы з вадою. Першае іх значэнне, а лепей сказаць, прызначэнне — абрадавае. Як тлумачыць спадарыня Рамунэ, ступы выкарыстоўваліся на Беларусі падчас выклікання духаў. Дарэчы, ні ў польскай, ні ў літоўскай абрадавай традыцыі такога няма.

Калі ж яшчэ крыху падумаць, на розум прыходзіць выраз «ваду ў ступе таўчы». Які сэнс ён набывае у кантэксце спектакля? Дарэмнасць чалавечых мар і жаданняў, што пацвярджаецца гісторыяй няшчаснага кахання Густава і Марылі. Таксама ўзгадваецца выраз «час бяжыць, як вада». А час у першай дзеі «Дзядоў» праходзіць выразным лейтматывам.

І зноў жа, вада — сімвал чысціні, тым больш святая вада. Калі Густаў распавядае сваю трагічную гісторыю і ў запале ўжо не мог трымаць сябе ў руках, яго літаральна акунае ў ваду ксёндз (С. Краўчанка) — чалавек царквы. Той самай вадою, дарэчы, у фінальнай сцэне людзі палівалі пасаджаныя імі дрэўцы. Вадою, якая памятае боль Густава, боль продкаў, боль дзядоў. Так вада становіцца яшчэ і памяццю, што мацуе дух нашчадкаў, не дае яму засохнуць, бы таму кволаму дрэўцу.

## ДАРЭЧЫ, ПРА ДРЭЎЦА

Упершыню «прывід» Густава з'яўляецца з дрэўцам на плячы. Пазней ён патлумачыць ксяндзу: гэта кіпарыс, які памятае дотык каханай Марылі. Дрэўцу Густаў паведамляў сардэчныя таямніцы. Гэты ж кіпарыс герой просіць пасадзіць на сваёй магіле.

Прыгадайце: мужчына мусіць пабудаваць дом, вырасціць сына і пасадзіць дрэва. А мы што маем? Сухое, бяссільнае, як і яго гаспадар, дрэўца, адарванае ад роднай зямлі. Вось яшчэ адзін ключ: дрэва як сімвал нясправджанага шчасця, сімвал жалобы. Тым больш узмацняецца вышэйзгаданая фінальная сцэна з дрэвамі, што людзі садзяць па вясне. Шчасце, якое было немагчымым і незваротна загубленым для Густава, становіцца магчымым для яго нашчадкаў. Тым больш што ўзрасце гэты «лес будучыні» на памяці і болю дзядоў.

Карані дрэўца былі схаваныя ў барвовым мяшэчку. На гэта спачатку зусім не звяртаеш увагу. Але міжволі звернеш, калі Густаў адчайным рухам выхоплівае нож і ўспорвае мяшэчак. Сыплецца долу пясок. І адкрываецца новы сэнс: Густаў успароў уласнае сэрца, і пясок сыплецца, нібыта бруіцца густая кроў.

## «…АЛЕ Ў ЛЮСТЭРКА ВЫПАДКОВА ГЛЯНУЎ»

Верш Максіма Танка «Разбітае люстэрка», адкуль узяты гэты радок, нібы напісаны пра нашага Густава. Разбітае каханне. Разбітая душа.

Люстэрка — самы моцны сімвал у спектаклі і самы галоўны. Архетыповы вобраз душы чалавека, яго адбітак, мінулае, зноў жа — яго памяць. Рэжысёр скарыстала яго напоўніцу. Люстэркамі сяляне выклікалі духаў (чытай: гукалі іх са сваёй жа памяці). І калі Густаў прыходзіць да Марылі, яна кіруе ім з дапамогай вялікага прамавугольнага люстэрка; у момант, калі дзяўчына ўздымае яго высока над сабой, а Густаў падае на калені, люстэрка нагадвае ікону, перад якой укленчылі ў пакаянні.

Калі ж Густаў распавядае ксяндзу пра сваё мінулае, на сцэну «выплывае» Марыля ў вясельным строі. У руках яе — таксама люстэрка, гэтым разам круглае (можа, знак бясконцасці, можа, алюзія на заручальны пярсцёнак — тут каму на што хопіць фантазіі). Так, азіраючыся назад, Густаў бачыць не толькі каханую, але і адлюстраванне самога сябе — разгубленага, поўнага адчайнай нянавісці — такога ж, якім ён быў у дзень, калі Марыля стала для яго чужой жонкай. Зноў люстэрка становіцца ўвасабленнем памяці. І хоць прыём, калі глядач бачыць твар героя ў люстэрку, часта выкарыстоўваецца ў кінематографе, на сцэне тэатра ён глядзіцца арыгінальна.

Час і памяць зліліся ў рэчы, без якой уся першая дзея — дый увесь спектакль — была б зусім іншай. Гэта маятнік з люстраной сарцавінай. Ён адмярае час у вузкім значэнні (прыгадаем, што Густаў лічыў гадзіны да поўначы) і сімвалізуе рух часу ўвогуле. І вельмі дарэчы тут знаходка кампазітара Фаўстаса Латэнаса: папулярную мелодыю ён разбіў на караценькія інтэрвалы, рытмізаваў так, што яна стала нагадваць цікание гадзінніка.

Але чаму рэжысёр вырашыў злучыць маятнік і люстэрка? У часе, у ходзе жыцця адбіваемся мы самі, пакідаючы ў кожным імгненні пачуцці і думкі. Час помніць нас. Мінулае, нібы люстэрка, захоўвае нашыя партрэты, і, азірнуўшыся, мы можам іх убачыць.

## ПАРКІ ЎВІХАЮЦЦА ШПАРКА

Сімвалізм працягваецца на пачатку другой дзеі. З'яўляюцца тры дзяўчыны: адна з іх, Марыля, у чырвоным, як нязгасная памяць, вечны боль Густава; іншыя дзве — у белым, што тыя анёлы. Рухаючыся па сцэне, дзяўчыны размотваюць клубкі.Так яны становяцца Паркамі, што прадуць ніці жыцця. Ніці запаўняюць усю сцэну, Густаў блытаецца ў іх — нібы ўва ўспамінах. Прычым, на фоне белых выразна палымнее чырвоная — як пякучы след кахання і адначасова — старажытны сімвал высакароднасці (чырвонай стужкай падбіваліся белыя тогі рымскіх патрыцыяў), а таксама — сімвал адраджэння, тэма якога развіваецца надалей: Густаў збірае ў кулак свае «ўспаміны/жыццё/ніці», і тыя рвуцца пад яго вокліч «Густаў памёр, нарадзіўся Конрад!»

Спектакль заслугоўвае самых высокіх адзнак, аднак і ён не пазбаўлены сумніўных месцаў. Банальнай падалася сцэна, дзе Марыля бегала туды-сюды ў пошуку любага сэрцу прывіда. Гэткія «кіданні» можна назіраць у любой меладраме. Неадназначна выглядае хадзьба аднаго з выкліканых духаў — Савы, замерзлай па віне пана жанчыны, — па чалавечых спінах. Навошта? Боязна было назіраць, як актрыса ледзь утрымлівае раўнавагу. Калі такім чынам рэжысёр хацела паказаць паветранасць душы, нематэрыяльнасць, маўляў, ішла, не датыкаючыся глебы, то можна было б, прыкладам, перастаўляць з месца на месца зэдлікі.

І ўсё ж не ўтрымаюся, скажу колькі слоў пра значнасць спектакля. «Дзяды» з'яўляюцца падзеяй для беларускай сцэны ўжо таму, што да «Тэатра Ч» ніхто яшчэ не інсцэніраваў «вялікую імправізацыю» Адама Міцкевіча. Ніхто, за выключэннем хіба лялечнага тэатра. Але пастаноўка гэтая адметная не толькі сваёй «першапраходнасцю». Упэўненая, яна знойдзе водгук і ў Польшчы, дзе вядомы аднайменны спектакль, і ў Літве, і ў Расіі — дзякуючы магутным глыбокім сімвалам, якімі насычана дзея, сімвалам, якія вынайшла і ўвасобіла рэжысёр Рамунэ Кудзманайтэ. Так словы, старыя, як наш беларускі свет, пачынаюць гучаць жыва, востра і нават балюча.

І, дальбог, пачынаеш верыць, што рэінкарнацыя аднаго літаратурнага твора можа прывесці да нечага большага.

**Анастасія ГРЫШЧУК**




# Лісты, што знайшлі адрасата

**Галіна ХІНКА-ЯНУШКЕВІЧ**

Паэтычна-музычную імпрэзу «Я — ЛІТВІН», прысвечаную 190-годдзю Уладзіслава Сыракомлі, прадставіў у вядомым гледачам тэатральна-канцэртным праекце «Час і постаці» тэатр «Зьніч».

На пачатку вечарыны прагучаў раманс «Ямшчык» на роднай мове Сыракомлі ў перакладзе Кастуся Цвіркі. Выканаў яго саліст Андрэй Марозаў. Гэта была прэм'ера даўно вядомай песні, якая на беларускай мове прагучала ўпершыню. Далей у праграме гучалі ўрыўкі з кнігі Кастуся Цвіркі «Лісты забытых алеяў» з уласнымі ўспамінамі Сыракомлі і выказваннямі пра яго неардынарны талент. Вечарына была аздоблена выдатнымі музычнымі творамі ў выкананні Таццяны Шумаковай (цымбалы) і Наталлі Сазановіч (фартэпіяна). Тэксты чыталі Уладзімір Рагаўцоў і Галіна Дзягілева. «Фонам» сталі работы народнага мастака Беларусі Гаўрылы Вашчанкі, а таксама малюнкі Напалеона Орды і Уладзіслава Сыракомлі.

Постаць, амаль забытая ў сучаснай беларускай гісторыі, з'явілася на сцэне Белдзяржфілармоніі яркай паходняй ва ўсёй сваёй велічы таленту і адданасці роднаму краю. Знайшлі адрасата словы Сыракомлі, звернутыя да нашчадкаў, словы шчымлівыя, праўдзівыя ў сваёй гістарычнасці, таленавітыя ў сваёй паэтычнасці, пранікнёныя ў сваёй сардэчнасці.

# Юбілей Вялікага

На мінулым тыдні Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь адзначыў 80-годдзе.

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ**

23 мая 1933 года на базе Беларускай студыі оперы і балета быў утвораны сённяшні Вялікі тэатр. 25 мая ён быў урачыста адкрыты операй «Кармэн» з выбітнай беларускай спявачкай Ларысай Александроўскай у галоўнай партыі. Так краіна атрымала цэнтр высокапрафесійнай музычнай творчасці і выканальніцкага мастацтва, далучылася да еўрапейскай опернай спадчыны і ўвайшла ў сусветны культурны працэс.

Вялікі тэатр сёння — гэта больш як тысяча супрацоўнікаў, унікальны высокатэхнічны сцэнічны комплекс, таленавітая трупа з каласальным творчым патэнцыялам, шырокія міжнародныя сувязі і сусветна вядомае імя, якое стала сапраўдным брэндам.

З размахам, уласцівым Вялікаму тэатру, прайшлі і ўрачыстыя мерапрыемствы, прысвечаныя яго юбілею. Напярэдадні святочнага дня калектыў ушанаваў сваіх ветэранаў. Спецыяльна для майстроў сцэны, якія аддалі тэатру свой талент і жыццё, прайшоў грандыёзны канцэрт, у якім былі прадстаўлены фрагменты з лепшых оперных і балетных спектакляў: «Аіда», «Набука», «Кармэн», «Севільскі цырульнік», «Баль-маскарад», «Дзікае паляванне караля Стаха», «Сівая легенда»; «Лебядзінае возера», «Дон Кіхот», «Спартак», «Шчаўкунок», «Анюта» і інш. Падрыхтаваў юбілейную праграму, у якой спалучыліся класічная музычная культура і сучасныя тэхнічныя магчымасці тэатральнай машынерыі, галоўны рэжысёр Міхаіл Панджавідзэ. Папярэднічала святочнаму гала-канцэрту ўрачыстая частка, на якой узгадвалі імёны тых, хто прысвяціў сваё жыццё служэнню Вялікаму тэатру, і адзначалі сённяшніх майстроў сцэны ўзнагародамі Міністэрства культуры Беларусі.

Са святам галоўны тэатр краіны павіншаваў Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка: «Вялікі тэатр — наш гонар і сапраўдны нацыянальны здабытак. Сёння, як і дзесяцігоддзі таму, ён захоўвае адданасць высокім эстэтычным ідэалам акадэмічнага мастацтва і ў той жа час застаецца на дзіва сучасным, адкрытым для смелых эксперыментаў і наватарскіх мастацкіх рашэнняў. Выдатная плеяда праслаўленых артыстаў і маладых талентаў паспяхова вырашае самыя складаныя творчыя задачы».


Фота Міхаіла Несцерава

Ірына Яромкіна ў партыі Анюты з аднайменнага балета.

Падчас святочных мерапрыемстваў дасягненнямі тэатра падзяліўся яго генеральны дырэктар Уладзімір Грыдзюшка:

— Наш тэатр мае выдатную гісторыю, нам ёсць чым ганарыцца і ёсць што сказаць. Аблічча Вялікага стваралі выдатныя майстры сцэны, якія ведаюць сапраўдны кошт служэнню мастацтву. Гісторыю тэатра пісалі артысты оперы і балета, мастакі, рэжысёры, дырыжоры, балетмайстры, работнікі тэхнічных і мастацка-пастановачных службаў… За гады жыцця тэатра ў ім працавалі 10 народных артыстаў Савецкага Саюза, 68 народных артыстаў Беларусі, 129 заслужаных артыстаў нашай краіны — «залаты фонд» савецкага і беларускага мастацтва. Мы памятаем і шануем імёны Ларысы Александроўскай, Зіновія Бабія, Генадзя Праватарава, Яраслава Вашчака, Святланы Данілюк, Аркадзя Саўчанкі і многіх іншых, што і сёння разам з намі, хоць іх даўно ўжо няма побач. Гэта людзі, на творчасці якіх мы вучымся, з імёнамі якіх мы жывём і выхоўваем новае пакаленне артыстаў. Цяпер на першыя пазіцыі выходзіць моладзь, у руках якой будучыня нашага тэатра. Мы падышлі да юбілею ў росквіце сіл і энергіі. Прынята лічыць, што тэатр апошнія чатыры гады піша новую гісторыю. Гэта часцей за ўсё звязваюць з тым, што ў 2009-м па даручэнні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь завяршылася рэстаўрацыя нашага будынка, якая не мае сабе роўных. У той жа час пасля шматгадовага існавання калектыў нашага тэатра паасобку, як трох незалежных юрыдычных асоб, мы нарэшце зноў здабылі страчаны статус-кво і сталі адзіным творчым арганізмам — тэатрам оперы і балета. І сёння НАВТ з'яўляецца візітнай карткай нашай краіны, адным з сімвалаў суверэнітэту і незалежнасці Беларусі, найбуйнейшым цэнтрам музычнага мастацтва.

Да юбілейных урачыстасцей далучыліся і вядучыя культурныя і грамадскія ўстановы Беларусі. Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» рыхтуе «Вялікую энцыклапедыю Вялікага тэатра». Нацыянальны банк





Манета «Беларускі балет. 2013».

увёў у абарачэнне залатыя, сярэбраныя і медна-нікелевыя памятныя манеты «Беларускі балет. 2013». Юбілейную марку са сцэнамі з оперных і балетных спектакляў, а таксама спецыяльны паштовы канверт выпусціў выдавецкі цэнтр «Марка». Падраздзяленне рэспубліканскага прадпрыемства «Белпошта» стварыла для гэтых «паштовых мініяцюр» арыгінальны, запамінальны дызайн.

Кульмінацыяй свята стаў юбілейны гала-канцэрт, які сабраў прыхільнікаў опернага і балетнага мастацтва якраз у дзень 80-годдзя тэатра. 23 мая на сцэну выйшлі любімыя публікай артысты Ігар Артамонаў, Алена Бундзелева, Марына Вежнавец, Аксана Волкава, Вольга Гайко, Уладзімір Громаў, Дзяніс Клімук, Людміла Кудраўцава, Анастасія Масквіна, Уладзімір Пятроў, Станіслаў Трыфанаў, Сяргей Франкоўскі, Ніна Шарубіна, Алена Шведава, Ірына Яромкіна і запрошаныя зоркі: народная артыстка Грузіі і Расіі Ніна Ананіяшвілі і народная артыстка СССР Маквала Касрашвілі.

### Цікавая статыстыка:

✦ За 80 гадоў існавання Вялікага тэатра тут было пастаўлена больш як 200 спектакляў (78 балетаў і 125 опер). Іх паказалі публіцы 21 тысячу разоў. Спектаклі тэатра пaглядзелі больш як 18 мільёнаў гледачоў.

✦ На сённяшні дзень у рэпертуары Вялікага тэатра амаль 70 спектакляў: 34 балета і 32 оперы. Толькі за апошнія чатыры гады была абноўлена амаль трэць рэпертуару: пастаўлены 24 новыя спектаклі.

✦ Кожны год адбываецца каля 300 паказаў опер, балетаў і канцэртных праграм, якія наведваюць дзясяткі тысяч чалавек. Наогул, 40 працэнтаў усіх тэатральных гледачоў Мінска — гэта публіка Вялікага тэатра.

# Пад зоркамі і сонцам

Дзве адметныя персанальныя фотавыстаўкі распачаліся ў Нацыянальным мастацкім музеі. Яны адметныя арыгінальнасцю падыходу абодвух мастакоў, да таго ж цікавая палярная рознасць іх погляду на агульны «аб'ект» — нацыянальныя краявіды.

## СВЯТЛАПІС ПА ВАДЗЕ

«Беларусь сінявокая» — назва выстаўкі фотаработ з фотаальбома Дзяніса Раманюка, за які ён удастоены звання пераможцы Нацыянальнага конкурсу «Мастацтва кнігі-2013» у намінацыі «Майстэрства — найлепшы фотамастак». Альбом уключае 305 ілюстрацый, 25 з іх адабраныя для выставачнай экспазіцыі. «Зробленыя з зямлі, вады і нават з паветра», яны ўвасабляюць (і тым нібы сцвярджаюць, замацоўваюць) распаўсюджаны нацыянальны брэнд. Разам з тым, убачыўшы фота, пераконваешся ў іх поўнай і прынцыповай арыгінальнасці, «надбрэндавасці», свабодзе ад стэрэатыпнасці.

Здымкі сведчаць, што вада можа быць на дзіва разнастайнай: па фактуры, колеры, абрысе. Разнастайнасць стварае прырода, але для мастака, назіральніка важную ролю іграюць святло і ракурс. Здольнасць бачыць і прадбачыць прыроднае мастацтва ў адмысловым ракурсе — аснова поспеху Дзяніса Раманюка.

Яшчэ адна ўмова поспеху — літаратурны дар. Прачытаўшы некалькі надпісаў-каментарыяў да фота, здзіўляешся: падобная вытанчанасць мовы рэдкая нават у літаратуры. Амаль кожны з іх — маленькая асацыятыўная навела, якая часам уключае гісторыю сустрэчы з «падгледжаным» малюнкам.

Літаратурная вартасць каментарыяў да малюнкаў фотаальбома «Беларусь сінявокая» магла б спрыяць іх асобнаму выданню зборнікам маленькіх назіранняў-навел. Патэнцыяльна распаўсюджаны больш шырока, чым вялікі дарагі альбом, яны б урэшце спрыялі і яго папулярызацыі.

## ЗОРНЫ РОССЫП НАД ДАЛЯГЛЯДАМ

Адкрытыя падчас «Ночы музеяў», у канцэпцыі яе арганізатараў абедзве фотавыстаўкі тэматычна дапаўняюць адна адну: дзённае святло — начное неба. Насупраць экспазіцыі «Беларусі сінявокай» размешчаная фотавыстаўка Віктара Малышчыца «Беларусь у абдымках зорак». Але калі першай пашанцавала з «фонам» (звычайнай выставачнай залай), то аўтару другой дастаўся… буфет! Хаця б і арт-кафэ, але ад гэтага не лягчэй, бо калі патрэбны доказ аксіёмы пра адпаведнасць артэфактаў акаляючай прасторы, лепшага за размяшчэнне фотавыстаўкі В. Малышчыца не знайсці. Увогуле, «прынцып» зразумелы: паўзмрок кафэ павінны стасавацца з начнымі выявамі. Але — не стасуецца!

Між тым, канцэпцыя фотавыстаўкі неардынарная. Аўтар імкнецца *паказаць зоркі*, бо апошнім часам на іх мала хто глядзіць і мала хто можа штосьці ўбачыць на небе. Яно — зорнае ці не — часцей за ўсё схаванае за мурамі дамоў, да таго ж, зорнасць блякне ў святле ліхтароў, мігценні рэклам і г. д. Акрамя таго, Віктар Малышчыц стварыў галерэю «партрэтаў» менавіта зорнай Беларусі з яе асаблівай, пераважна нізкай, лініяй гарызонту, з яе распаўсюджанымі архітэктурнымі і раслыннымі «профілямі» і адметнымі малюнкамі захаду сонца. «Прыземленым» называюць часам менталітэт беларусаў — і адкуль узяцца ўзнёсласці, калі не глядзець — як мага часцей! — на зорнае неба, вышэй за якое (у духоўным і эстэтычным сэнсе) няма амаль нічога.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

ЛіМ

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2722
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 30.05.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1987
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
13021
ISSN 0024-4686
9 770024 468001